адзінай ракой у міжрэччы Дзвіны і Дзісны, якую добра ведалі ўсе складальнікі мапаў XVI — XVII стст. [1, с. 98 — 100]. Таму можна меркаваць, што і ў гэты час яна ўяўлялася як важная рэгіянальная гандлёвая артэрыя.

Такім чынам, нягледзячы на даволі абмежаваныя наяўныя крыніцы, мы можам наступным чынам рэканструяваць сістэму рассялення старажытнарускага часу ў Браслаўскім Паазер'і. Яна фармуецца ў канцы X — першай палове XI ст. Калі ў X ст. насельніцтва культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў канцэнтравалася на захадзе рэгіёна — паміж азёрамі Богінскім і Дрывяты, дык з канца X ст. Полацк стварае магутную сістэму ўмацаванняў уздоўж Друйкі. Можна меркаваць, што Друйка ў старажытнарускі час была асноўнай рэгіянальнай артэрыяй камунікацый, па якой пралягаў шлях ад Дзвіны да Браслава. Вакол гэтай артэрыі канцэнтравалася насельніцтва, якое пражывала на гарадзішчах і селішчах, размешчаных уздоўж Друйкі і па берагах азёр Неспіш і Дрывяты. На ўсход ад гэтай групы помнікаў існаванне старажытнарускага насельніцтва фіксуецца па наяўнасці курганных могільнікаў у ваколіцах азёр Укля — Абстэрна — Важа. Тэрыторыя на захад ад Браслава, паміж азёрамі Дрывяты і Дрысвяты, у старажытнарускі час не была заселена стабільна, а Дрысвяцкі археалагічны комплекс маркіруе полацкі фарпост XI — XIII стст., вынесены на захад ад асноўнай зоны, заселенай старажытнарускім насельніцтвам.

Напрыканцы варта адзначыць, што да часу правядзення суцэльнага археалагічнага абследавання Браслаўскага Паазер'я прапанаваная рэканструкцыя сістэмы рассялення ў рэгіёне можа насіць толькі папярэдні характар. Таму зробленыя высновы не прэтэндуюць на вычарпальнасць, а распрацаваная рэканструкцыя сістэмы рассялення носіць папярэдні характар і мусіць разглядацца хутчэй як падаснова для далейшых даследаванняў.

*Літаратура і крыніцы*

1. Александровіч, С. Браслаўшчына на старажытных картах і планах / С. Александровіч // Памяць : Гісторыка-дакументальная хроніка Браслаўскага раёна. — Мінск, 1998. — С. 97 — 102.
2. Варонін, В. В. Браслаўскі Прачысценскі манастыр на Востраве паводле прывілея Жыгімонта I 1540 года / В. В. Варонін// Браслаўскія чытанні 2003. Матэрыялы VI навукова-краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай 150-й гадавіне з дня нараджэння браслаўскага лекара, грамадскага дзеяча Станіслава Нарбута (1853—1926). — Браслаў, 2003. — С. 13 — 15.
3. Джаксон, Т. А. AUSTR I GÖRÐRUM: Древнерусские топонимы в древнескандинавских источниках / Т. А. Джаксон. — Москва, 2001. — 208 с., рис., табл.
4. Зайцава, В. Я. Друя / В. Я. Зайцава // Археалогія і нумізматыка Беларусі : Энцыклапедыя. — Мінск, 1993. — С. 235 — 236.
5. Плавінскі, М. Разведкі ў Браслаўскім і Міёрскім раёнах / М. А. Плавінскі // Гістарычна-археалагічны зборнік. — № 20. — 2005. — С. 247—248.
6. Плавінскі, М. Даследаванні ў Браслаўскім раёне / М. А. Плавінскі // Гістарычна-археалагічны зборнік. — № 21. — 2006. — С. 217—219.
7. Плавинский, Н. Курганный могильник Погоща : результаты раскопок 2005—2006 годов / М. А. Плавинский // Lietuvos Archeologija. — T. 34. — Vilnius, 2008. — S. 211—252.
8. Плавінскі, М. А. Курганны могільнік Пагошча : асноўныя вынікі раскопак 2005—2008 гадоў / М. А. Плавінскі // Беларускае Падзвінне : вопыт, методыка і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку). — Наваполацк, 2009. — С. 55 — 70.
9. Семенчук, Г. А. Раннесредневековый археологический комплекс Дрисвяты / Г. А. Семенчук // Lietuvos Archeologija. — T. 21. — Vilnius, 2001. — S. 299 — 310.
10. Kurila, L. Lietuvių etninė riba rytuose IX—XII a. (1. Archeologijus duomenys) // Lietuvos Archeologija. — T. 27. — Vilnius, 2005. — S. 59 — 84.
11. Radiņš, A. 10. — 13. gadsimta senkapi latgaļu apdzīvotajā teritorijā un Austrumlatvijas etniskās un politiskās vēsures jautājumi / Latvijas vēstures muzeja raksti. — Nr. 5. — Rīga, 1999. — 200 lpp. : il.

**Д. У. Дук (Полацк)**

# КРЫЎЦОЎ ПАСАД У САЦЫЯТАПАГРАФІЧНАЙ СТРУКТУРЫ ПОЛАЦКА XI – XVIII стст.

**Размяшчэнне і гісторыя пасялення.**

Паводле полацкай рэвізіі 1552 г. буйнейшымі тэрытарыяльнымі адзінкамі на левабярэжжы р. Дзвіны з'яўляліся пасады Вострaўскі, Слабадскі і Крыўцоў. Сумарная колькасць двароў трох левабярэжных пасадаў складала 284 (103 двара размяшчалася на Слабадскім пасадзе, 30 – на Крыўцовым, 151 – на Востраўскім). Слабая заселенасць Крыўцовага пасада ў сярэдзіне XVI ст. сведчыць пра адсутнасць на ім разгалінаванай інфраструктуры, людзі сяліліся на беразе Дзвіны, на ўзвышшы надпоймавай тэрасы, паводле запісаў у актавых кнігах XVII ст. «на вянцу Дзвіны». Крыўцоў пасад у XVI ст. быў размешчаны паміж Востраўскім і Слабадскім пасадамі.

Пасля 1579 г. у пісьмовых крыніцах на левабярэжнай частцы Полацка згадваюцца толькі два пасады: Крыўцоў і Экіманскі. Слабада і Востраў у XVII – XVIII стст. з'яўляліся часткамі Крыўцовага пасада. На Востраве ў 1582 г. па-ранейшаму размяшчаўся манастыр Св. Іаана Прадцечы, які паступова занепадае [1, с. 73].

У XVII ст. на Крыўцовым пасадзе размяшчаліся мясцовасці Востраў, Кабак, Старая і Новая Слабоды. З адміністрацыйна-прававога пункту гледжання яны з'яўляліся тэрытарыяльнымі адзінкамі ў складзе Крыўцовага пасада і ў 1622 – 1623 гадах былі перададзены пад юрысдыкцыю полацкага магістрата [2].

Найбольш інфарматыўнай у рэканструкцыі асаблівасцяў гарадской тапаграфіі Крыўцовага пасада Полацка з'яўляецца актавая кніга 1656 – 1657 гг. [3]. Прааналізаваны змест актавых кніг за 1704 г. [4], 1721 г. [5], 1779 г. [6], 1781 г. [7], 1782 г. [8]. Гэтыя кнігі не фіксуюць зздзелак аб куплі-продажу дамоў ці агародаў на левабярэжным Крыўцовым пасадзе, а таксама не прадстаўляюць іншых звестак пра тутэйшую нерухомасць. Магчыма, гэта з'яўляецца прамым сведчаннем маргіналізацыі дадзеных частак Полацка, паколькі ў актавых кнігах змяшчаюцца маёмасныя справы пераважна заможнай часткі мяшчанства, уладальнікаў нерухомасці.

Так, паводле кніг за 1650, 1656 – 1657 гг., Востраў меў вул. Праезжую, тут жа быў размешчаны перавоз ад р. Дзвіны. На мясцовасці Кабак



размяшчалася вул. Прабойная (па накірунку ад царквы Барыса і Глеба да перавозу ад р. Дзвіны). Адпаведна, мясцовасць Кабак размяшчалася на левым беразе р. Бяльчанкі ад царквы Барыса і Глеба да перавозу з боку р. Дзвіны. За гэтай часткай у другой палове XVII ст. замацавалася назва «Новая Слабада», размешчаная «за *ракой Бельчанкай* на беразе *ракі Дзвіны і* далей уздоўж *вуліцы* на поўдзень *угару да царквы Барыса і Глеба*». Прамое атаясамленне гэтых назваў – Кабак / Новая Слабада – пазначана ў полацкім вопісе 1774 г. [11, с. 179]. Новая Слабада (Кабак) лакалізавана пры вусці левага берага р. Бяльчанкі, на «вянцу». Старая Слабада (Бельчыцкая) размешчана па вул. Вялікай, якая вядзе ад Кабака да царквы Барыса і Глеба. Такім чынам, Старая Слабада – гэта мясцовасць, якая размешчана на правым беразе р. Бельчыцы.

Вельмі важным для разумення развіцця Барысаглебскага манастыра ў 1660-я гг. падаецца той факт, што ў пісьмовых крыніцах нідзе не фігуруюць назвы манастырскіх цэркваў, акрамя царквы Барыса і Глеба. Магчыма, пад гэтым найменнем разумеўся ўвесь манастыр, паколькі як варыянт назвы ў актавай кнізе зафіксаваны тэрмін «*Барысаглеб*». Аднак у грамаце ад 25 чэрвеня 1511 г. Бельчыцкі манастыр двойчы называўся адначасова Багародзіцкім і Барысаглебскім: «записал тую землю со всим к манастыру на Бельчицы *Пречистое Богоматеры* и святым мучеником Борысу и Глебу» [1, с. 77]. Верагодна, у дадзеным запісу, як і ў некаторых аналагічных пісьмовых крыніцах XIX ст., гаворка ідзе пра т. зв. Вялікі (безымянны) сабор XII ст. пад назвай Прачыстай Багамацеры. Гэты сабор размяшчаўся на тэрыторыі манастыра і быў выяўлены і часткова археалагічна даследаваны ў XIX – XX стст. [10, с. 34 ].

На астатняй, асноўнай частцы Крыўцовага пасада, «над ручаём», на захад ад Слабод да Вострава, размяшчаліся Чортаў завулак «на гары», каля яго пралягала вул. Чортавая, апошняя – насупраць царквы Святога Міколы (упершыню згадана пад 1552 г. у «месте» [9, с. 9, 22, 25]). Гэтая царква Святога Міколы была размешчана на гары (надпоймавая тэраса), праз рад забудовы ад р. Дзвіны.

Размяшчэнне царквы св. Міколы каля вул. Чартовай выглядае далёка не выпадковым, калі ўлічыць факт суаднясення культа Св. Міколы і Вялеса, які ў народных уяўленнях мае розныя іпастасі, у т. л. «нячыстага», «чорта» [12, с. 87].

**Гісторыя археалагічнага вывучэння.**

На тэрыторыі Крыўцовага пасада раскопкі не праводзіліся, за выключэннем Вострава і Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра.

На Востраве (левы бераг Дзвіны насупраць Верхняга замка) Л. Д. Пабалем было закладзена 5 шурфоў з мэтай даследавання рэштак манастыра Іаана Прадцечы, які згадваецца ў пісьмовых крыніцах XV–XVI стст. Шурфы былі размешчаны ва ўсходняй частцы Вострава, якая не затапляецца падчас вясенавых паводкаў. Зафіксавана магутнасць культурнага пласта 1,5 м. У ніжняй перадмацерыковай частцы размешчаны пахаванні, якія былі арыентаваны галавой на захад.

На ўсходняй частцы Вострава на беразе Дзвіны Г. В. Штыхавым у 1963 г. быў закладзены шурф. Магутнасць культурнага пласта («шэрай зямлі») складала 1,4 м. У пласце знойдзена кераміка XIV–XV стст.

У выніку шурфоўкі С. В. Тарасава ва ўсходняй частцы Вострава ў 1987 г. была знойдзена кераміка XI ст., якая дазваляе меркаваць пра час засялення гэтай левабярэжнай тэрыторыі Полацка.

У 1996 г. М. В. Клімаў правёў археалагічныя раскопкі ва ўсходняй частцы Вострава на мяркуемым месцы размяшчэння манастыра Іаана Прадцечы. Плошча раскопа 24 кв. м. Глыбіня культурнага пласта склала каля 1 м. З найбольш ранніх матэрыялаў знойдзена 2 шыферных праселка, кераміка XI–XII стст.

У розных частках Вострава былі зроблены 4 шурфы. У паўднёвай частцы Вострава культурны пласт адсутнічаў (знішчаны падчас будаўніцтва зоны адпачынку ў 1960-я гг.). Толькі ў заходняй частцы Вострава былі зафіксаваны рэшткі пласта магутнасцю 0,25 м.

Такім чынам, Востраў з'яўляўся найбольш даследаванай левабярэжнай часткай Полацка, за выключэннем Экімані. Звестак пра культурныя напластаванні Крыўцовага пасада і Слабады адсутнічалі, раскопкі тут не праводзіліся.

У 2009 г. сумарная плошча раскопак на тэрыторыі Слабады і Крыўцовага пасада склала 24 кв. м (раскоп 1 і 4 шурфы, з іх 2 — ў былой Слабадзе, 2 — на тэрыторыі Крыўцовага пасада).

Найбольш ранняя па храналогіі група керамікі выяўлена падчас раскопак у Слабадзе. Так, у раскопе 1 знойдзена венца ляпнога, загладжанага на ганчарным крузе гаршка, якое датуецца X — пачаткам XI стст. (мал. 1). Аналагічная кераміка добра вядома ў Полацку, яна знойдзена на полацкім гарадзішчы і вакольным горадзе.

У тым жа раскопе знойдзена чорная шкляная пацерка з чатырнаццаціграннымі зрэзанымі вугламі (мал. 2), якая паводле курганных пахаванняў датуецца X–XI стст. [13, с. 168, мал. 5: 15]. Падобныя пацеркі былі характэрны ў асноўным для сельскага насельніцтва Старажытнай Русі. Разам з гэтай знаходкай у адной



храналагічнай групе магчыма разглядаць венца ляпнога, загладжанага на ганчарным крузе гаршка. Гэтыя два артэфакта сведчаць пра магчымы час засялення Старой Слабады ў X ст.

Астатняя кераміка — ганчарная, прадстаўлена посудам XI–XIII стст. і XIV–XVIII стст. Ранняя храналагічная група керамікі знойдзена толькі ў шурфах на тэрыторыі былой Слабады.



Мал. 1. Ляпная кераміка X – пачатку XI стагоддзяў.

Кераміка XI–XIII стст. прадстаўлена пераважна выразнымі S-падобнымі па профілю венцамі, шырока вядомымі ў Полацку ў гэты час. Кераміка XIV–XV стст. — гэта адзінкавыя кавалкі венцаў. Кераміка XVI–XVIII стст. прадстаўлена міскамі, венцамі гаршкоў.

На тэрыторыі Крыўцовага пасада па-за межамі Слабады знойдзена кераміка, тыповая для XVI — XVIII стст., у т. л. донца керамічнага падсвечніка XVIII ст., карнізная кафля. У шурфе 4 знойдзены металічныя рэчы: завеса ад аканіцы і выраб невядомага прызначэння. У шурфе 5 знойдзены кавалкі кафлі, тыповыя для XVIII ст.



Мал. 2. Шкляная пацерка X – XI стагоддзяў.

Такім чынам, найбольш раннія храналагічныя групы знаходак XI — XIV стст. былі выяўлены на тэрыторыі Старой Слабады. На Крыўцовым пасадзе (на захад ад вусця Бельчыцы да Вострава) знаходкі прадстаўлены керамікай і рэчамі XV — XVIII стст.

**Высновы.**

Найбольш старажытныя матэрыялы на тэрыторыі Крыўцовага пасада датуюцца X — XIII стст. У мястэчку Старая Слабада былі знойдзены два артэфакта (венца ляпнога гаршка і шкляная пацерка), якія сведчаць пра магчымасць засялення тэрыторыі пры вусці р. Бельчыца ў X — першай палове XI стст. Такім чынам магчыма вызначыць паходжанне тапоніма «Слабада» ад тэрміну «слабодка» —

сельскагаспадарчае прадмесце каля Полацка. Старая Слабада размешчана ў зручным месцы пры ўпадзенні р. Бельчыца ў Дзвіну, праз яе праходзіў шлях на Менск і Кіеў. Каля гэтай слабодкі ў XII ст. быў заснаваны Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр. Пэўная аўтаномія дадзенай тэрыторыі засведчана ў рэвізіі 1552 г., якая вызначае гэтае пасяленне ўжо як полацкі пасад.

У XVII — XVIII стст. тапонімы Старая і Новая Слабоды вызначаюць ужо толькі тэрытарыяльныя часткі Крыўцовага пасада.

На астатняй тэрыторыі Крыўцовага пасада на захад ад вусця р. Бельчыца артэфактаў, ранейшых за XV ст., у культурным пласце зафіксавана не было. Гэта сведчыць пра сінхроннасць засялення тэрыторыі Крыўцовага пасада і Экімані і аднолькавыя прычыны, якія прывялі да такой маштабнай з'явы.

Сярод гэтых прычын назавём дзве асноўныя: скарачэнне і заняпад асноўнай пасадскай тэрыторыі на правым беразе Полацка ў выніку частых ваенных дзеянняў першай паловы XVI ст. і змена юрыдычнага статуса пасадскага насельнітва ў сувязі з распаўсюджаннем магдэбургскага права (пасля 1498 г.). У выніку частка насельніцтва, якое сялілася на землях баяр і духавенства, была вымушана перасяліцца на левы бераг ракі Дзвіны. Гэты тэзіс добра ілюструе полацкая рэвізія 1552 г., паводле якой на Крыўцовым пасадзе было размешчана 30 двароў, якія належылі Васілею Карценю, якія «з местом тягнуть, а ему позма з них две копе и сорок осмъ гршей прыходить» [9, с. 148].

Насельніцтва Слабадского пасада паводле «Рэвізіі 1552 г.» складае 103 мешчаніна. З іх 51 мешчанін пражываў на землях манастыра Барыса і Глеба, на землях княгіні Ілліной Астроўскай — 30, на землях полацкага земяніна Сямёна Ульскага — 22 [9, с. 27].

Культурны пласт на тэрыторыі Крыўцовага пасада размешчаны ўздоўж р. Дзвіны паласой, шырынёй каля 150 м. Плошча Крыўцовага пасада разам са Слабадой складае 22 га. Гэта добра карэлюецца з данымі пісьмовых крыніц, якія вызначаюць размяшчэнне сядзіб палачан XVII ст. «на вянцу ракі Дзвіны».

*Літаратура і крыніцы*

1. Витебская старина / сост. А. Сапунов. — Витебск, 1888. — Т. V. — 670 с. + 40 л. ил.
2. Дук, Д. У. Полацк XVI—XVIII стагоддзяў : нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д. У. Дук. — Наваполацк: ПДУ, 2007. — 268 с. : іл.
3. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). — Ф. 1823. — Воп. 1. — Спр. 1.
4. НГАБ. — Ф. 1823. — Воп. 1. — Спр. 2.
5. НГАБ. — Ф. 1823. — Воп. 1. — Спр. 10.
6. НГАБ. — Ф. 2424. — Воп. 1. — Спр. 1.
7. НГАБ. — Ф. 2424. — Воп. 1. — Спр. 2.
8. НГАБ. — Ф. 2424. — Воп. 1. — Спр. 3.
9. Полоцкая ревизия 1552 г. К изданию подготовил И. И. Лаппо. — Москва : Университетская типография, 1905. — 237 с.
10. Селицкий, А. А. Живопись Полоцкой земли XI—XII вв. / А. А. Селицкий — Мінск : Навука і тэхніка, 1992. — 173 с. : ил.
11. Тарасаў, С. В. Полацк IX—XVII стст. : Гісторыя і тапаграфія / С. В. Тарасаў. — Мн. : Беларуская навука, 1998. — 183 с. : іл.
12. Успенский, Б. А. Филологические разыскания в области славянских древностей (Реликты язычества в восточнославянском культе Николая Мирликийского) / Б. А. Успенский. — Москва : Изд-во Моск. ун-та, 1982. — 248 с.
13. Фехнер, М. В. К вопросу об экономических связях древнерусской деревни / М. В. Фехнер // Труды Государственного исторического музея. Вып. 33 : Очерки по истории русской деревни X—XIII вв. — Москва : «Советская Россия», 1959. — С. 149 — 224.



**М. В. Клімаў (Мінск)**

# НОВЫЯ ЗВЕСТКІ АБ ГІСТОРЫІ ЗАПАЛОЦКАГА ПАСАДА г. ПОЛАЦКА (ПА ВЫНІКАХ РАСКОПАК 2008 г.)

У 2008 г. аўтарам прадстаўленага паведамлення былі праведзены археалагічныя раскопкі ў Полацку, на тэрыторыі Запалоцкага пасада. Праца археалагічнай экспедыцыі Інстытута гісторыі НАН Беларусі праводзілася згодна з планам выканання Дзяржаўнай праграмы




Мал. 1. Планы г. Полацка. 1 – план Полацка IX–XIII ст. (па Г. В. Штыхаву, з пазначэннем месца раскопак 2008 г. аўтарам артыкула); 2 – план Полацка 2-й паловы XVI ст. (па С. Пахалавіцкаму, з пазначэннем мяркуемага месца раскопак 2008 г.)

археалагічнага даследавання Полацка на 2008 — 2012 гг. У 2008 г. археалагічныя раскопкі былі праведзены за вуліцай Ф. Міронавай, побач з правым берагам р. Палаты, насупраць стрэлкі (машны) Верхняга замка (мал. 1:1). Да 2008 г. на вызначаным для раскопак участку не было археалагічнага вывучэння і на плане гістарычнага развіцця горада на перыяд IX — XIII стст. на даным месцы наяўнасць культурнага пласта не пазначалася [10, с. 172, мал. 32]. У 2003 годзе Д. У. Дукам за 120 м ад будучага раскопа 2008 г. быў зроблены шурф, які дазволіў выявіць керамічны посуд XI стагоддзя і больш пазнейшага перыяду, а таксама ніжнюю частку кафлянай печы пачатку XVI ст. [3, с. 104-113]. Таму паўстала неабходнасць удакладніць звесткі аб данай частцы пасада. Быў даследаваны раскоп плошчай 72 кв. м пры дапамозе выкладчыкаў і студэнтаў-гісторыкаў гістарычнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава[a] [6, с. 3]

Звернемся да якаснай характарыстыкі раскопа. Стратыграфія раскопа вызначалася наяўнасцю двух стратыграфічных пластоў, якія мелі сукупную магутнасць у межах 1~1,4 м. Першы пласт магутнасцю 0,3 м не меў аднароднага характару. У верхняй частцы раскопа пласт шэрага колеру, утрымліваліся розначасовыя матэрыялы. Так, фраг-

[a] *Прыносім удзячнасць Д. Каваленку, А. Дулаву і А. Субоціну за дапамогу ў падрыхтоўцы і правядзенні раскопак.*



менты керамічнага посуду вызначаліся ў храналагічным дыяпазоне ад XI да XIX ст. Асноўны змест матэрыялаў з пласта № 1 суадносіцца з перыядам не сталага пражывання на данай частцы Запалоцкага пасада ў перыяд XVI — XIX стст. Храналагічнымі маркерамі XVII стст. акрамя керамічнага посуду выступалі солід-барацінчык і крыжык-цельнік. У выніку гаспадарчай дзейнасці ў межах вызначанага перыяду ў гэты пласт і патрапілі больш ранейшыя па часе матэрыялы (XI — XV стст.), а таксама мікраліты і крамянёвыя адшчэпы, бразготка X — XII стст.

Магутнасць пласта № 2 складала 0,8 — 1,2 м. Шэры пласт меў праслойкі цёмна-шэрага і чорнага (вугольнага) слоя, якія магчыма было звязваць з пажарам на месцы помніка. Увесь склад пласта вызначаўся наяўнасцю асобных мелкіх вугolляў і фрагментаў глінянай абмазкі (абпаленнай гліны). У пласце не захаваліся драўляныя канструкцыі. Па сукупнасці матэрыялаў, за выключэннем перакопаў, пласт № 2 суадносіўся з жыццядзейнасцю на помніку ў перыяд XI — XIII стст. Гэты пласт вызначаўся багаццем археалагічнага матэрыяла вышэй адзначанай эпохі, прадстаўленай керамічным посудам, шыфернымі прасліцамі, фрагментамі шкляных бранзалетаў, культавай пластыкай, ключамі і наканечнікамі стрэл, упрыгожаннямі (мал. 3). І ў пласце № 2 фіксаваліся артэфакты, якія адносіліся да перыяду XV — XVII стст., сярод якіх вызначальнымі з'яўляліся фрагменты керамічнага посуду, паўпенязь ВКЛ 1410 — 1425 гг.[b], фрагменты ключоў і замкоў. У другім пласце сярод масавых матэрыялаў значная колькасць належыла да металічных шлакаў.

Даследаванне мацерыковых ямаў дазволіла казаць аб тым, што ў межы раскопа ўвайшла адна з частак пабудовы, заглыбленай у мацярык. Звернем увагу на матэрыялы, якія сведчылі аб высокім сацыяльным узроўні тых, хто пражываў на данай тэрыторыі. Сярод падобных сведчанняў, перш за ўсё, важным з'яўляецца колькасць мелкай культавай пластыкі, прадстаўленай іконкай-прывескай, крыжыкамі-цельнікамі і крыжамі-энкалпіёнамі ў межах плошчы раскопа (мал. 3 :1 — 6). Другім важкім сведчаннем выступае шэраг артэфактаў, якія ўказваюць на прэстыжны характар матэрыяльнай культуры. З гэтага ліку артэфактаў магчыма назваць такія рэчы, як: пярсцёнак з выявай праквітнеўшага крыжа (мал. 3:7), фрагмент рэдкага экзэмпляра фібулы «з савінай галавой» (мал. 3:9), частку пасавай гарнітуры кола скандынаўскіх старажытнасцяў (мал. 3:8), гірку-разнавагу (мал. 3:11).

[b] *Вызначэнне зроблена Ш. І. Бекцінеевым, за што прыносім яму ўдзячнасць.*

Трэцім важкім матэрыяльным сведчаннем выступаюць элементы рыштунку вершніка і каня, з ліку якіх магчыма назваць фрагменты дуг шпор (мал. 2:9 – 10), цуглі (мал. 2:11 – 12), падножку да стрэмяні (мал. 2:14), фрагмент падковы (мал. 2:15), ледаходныя шыпы (мал. 2:13).

Зробім гістарычныя высновы, якія вынікаюць з аналіза археалагічных матэрыялаў.

Па-першае, неабходна весці гаворку аб тым, што тэрыторыя Запалоцкага пасада ў паўночна-ўсходнім накірунку была істотна большай, чым лічылася раней. Гэта пацвярджаюць як археалагічныя раскопкі 2008 г., так і археалагічныя назіранні 2004 – 2006 гг. па вуліцы Ф. Міронавай, праведзеныя А. Салаўёвым. У выніку быў засведчаны культурны пласт каля 1 м і фіксаваўся керамічны посуд з венчыкамі, звернутымі ўнутр (к. XI – XIII стст.). Гэта дазволіла разам з аналізам прац Д. Дука і раскопа 2008 г. казаць аб тым, што па папярэдніх даных плошча паўночна-ўсходняй часткі Запалоцкага пасада ў перыяд XI – 1-й паловы XIII стст. набліжалася да 12 га. Удакладненне агульнай плошчы Запалоцкага пасада патрабуе новых археалагічных прац.

Па-другое, у перыядызацыі жыццядзейнасці на даследаваным участку пасада прасочвалася некалькі этапаў. У межах першага этапа жыццядзейнасць была звязана з апрацоўкай чорнага метала, аб гэтым сведчыць наяўнасць вялікай колькасці металічных шлакаў і зубіла. Сам характар прадстаўленай дзейнасці пакідае пэўныя сумненні, бо акрамя шлакаў адсутнічаюць соплы і рэшткі домніц, металічная акаліна. Без сумнення, што месца варкі жалеза не патрапіла ў межы раскопа. Не выключана, што месца, дзе ажыццяўляўся сам тэхналагічны працэс, знаходзілася бліжэй да поплава р. Палаты, больш прымальнага з пункту гледжання пажарнай бяспекі.

Наступны этап жыццядзейнасці на даследаваным участку быў звязаны з пражываннем на даным месцы прадстаўніка феадальнага саслоўя і яго сям'і (наяўнасць шпор, капавушак, пярсцёнка з праквітнеўшым крыжом, крыжыкаў-энкалпіёнаў і інш.). Перапыненне жыццядзейнасці на першым этапе звязана з пажарам. На другім этапе жыццядзейнасць была спынена ў выніку ваеннага ўварвання, на што ўказвае шэраг наканечнікаў стрэл у слоі пажарышча, сярод якіх фіксуецца і арбалетны наканечнік стралы. Асабліва вялікая колькасць стрэл фіксуецца бліжэй да перадмацерыковай паверхні (мал. 8:1-3, 7). Асноўная колькасць матэрыялаў указвае на час перапынення жыццядзейнасці на другім этапе на мяжы канца XII – 1-й паловы XIII ст. Храналогія перапынення жыццядзейнасці на даследава-






Мал. 2. Наканечнікі стрэл (1–6).
Рыштунак вершніка і каня (9–15) з раскопак 2008 г.




Мал. 3. Прадметы “прэстыжнага” характару з раскопак 2008 г.



ным участку была ўсталявана на аснове адносных храналагічных маркераў, сярод якіх вылучаліся шыферныя прасліцы, фрагменты амфар і шкляныя бранзалеты, колькасць якіх у раскопе сведчыла аб неаснОўным часе іх бытавання. Частка рэчаў, якая мела шырокія межы бытавання (XII—XIII стст.), мела сляды ўздзеяння пажару, сярод іх: ключ, крыж-энкалпіён, фрагменты керамічнага посуду з венчыкамі, звернутымі ўнутр.

Сам ваенны катаклізм, які мог адбыцца на мяжы XII — 1-й паловы XIII стст., выклікае шмат пытанняў. Чаму і хто мог жорст знішчыць даследаваную частку пасаду. Калі звярнуцца да аналізу гравюры XVI ст. С. Пахалавіцкага, то трэба звярнуць увагу, што на выгіне р. Палаты, побач з якім і быў даследаваны раскоп № 1 у 2008 г., фіксуецца мост праз р. Палату. Не выключана, што падобны мост мог існаваць і ў больш ранейшы час, а значыць, захоп маста праз Палату адчыняў магчымасці для захопу Верхняга замка з паўночна-ўсходняга боку. Таму падобнае ваеннае ўварванне са знішчэннем часткі пасада і насіла даволі жорсткі характар. Калі разгледзець ваенныя канфлікты Полацка ў канцы XII — 1-й палове XIII стст., то можна назваць шэраг ворагаў, якія ў той ці іншы момант імкнуліся ім авалодаць.

Версія 1. Наўгародцы і пскавічы. Напрыканцы XII ст. фіксуецца некалькі паходаў да Полацка. У 1186 г. (1187 г.) адбыўся паход князя Давыда з наўгародцамі і смалянамі да межаў Полацкага княства [7, с. 38 ]. У 1199 г. (1200 г.) наўгародскі князь Яраслаў хадзіў з наўгародцамі, пскавічамі, наваторжцамі і ладажанамі к Полацкай зямлі. Але гэтыя паходы скончваліся каля межаў Полацкага княства мірам, бо як адзначаў летапісец, «... бог бо не вда [дал — *аўт.*] крови пролиться крестьянам межи собою...» [7, с. 44]. Безумоўна, што падобныя мірныя пагадненні дасягаліся пры дапамозе выкупа, але яны не прыводзілі да спусташэння самога Полацка.

Версія 2. Крыжакі. Паход крыжакоў павінна было стымуляваць жаданне падпарадкаваць Падзвінне, таму яны мелі жаданне захапіць Полацк. Вядома, што актыўнае ваеннае супрацьстаянне паміж Полацкам і Рыгай адбывалася ў перыяд з 1203 па 1210 год, калі была заключана першая мірная дамова з крыжакамі. У «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага з 1209 па 1226 г. не значыцца прамых паходаў на Полацк [1, с. 73, 90, 103, 156]. Калі б падобныя паходы былі, то гэта падзея абавязкова знайшла б адлюстраванне. Тым больш, што археалагічныя раскопкі 2008 г. паказалі знішчэнне часткі Запалоцкага пасада, а храніст Генрых ніколі не «апускаў» падрабязнасці па-

дзей, дзе крыжакамі былі пакараны не каталікі. Пасля 1226 г. (сканчэнне «Хронікі Лівоніі») да 1238 г. дакладных звестак аб актыўнасці крыжакоў супраць Полацка не значыцца. Знакаміты гандлёвы дагавор Віцебска з Рыгай (1229 г.) з удзелам Полацка дазваляе зрабіць заключэнне аб тым, што ў гэты перыяд адносіны Полацка з Рыгай, гарантам якіх выступіў Смаленск, насілі стабільны гандлёвы характар. У 1238 г. па летапісных звестках наўгародскі князь Яраславіч ажаніўся на дачцы полацкага князя Брачыслава [7, с. 77]. Гэта падзея фактычна абазначала саюз Полацка з Ноўгарадам супраць крыжакоў, а значыць, паходы крыжакоў супраць Полацка пасля 1238 г. былі б адлюстраваны ў наўгародскім летапісе, што характэрна для згадкі пра ўдзел Якава Палачаніна ў Неўскай бітве 1240 г., але гэтага мы не маем. Таму казаць аб актыўнасці крыжакоў супраць Полацка ў перыяд з 1210 па 50-я гг. XIII ст. не прыходзіцца.

Версія 3. «Летапісная Літва». Адзін з першых паходаў «летапіснай Літвы» ў межы Полацкага княства адносіцца, на думку некаторых даследчыкаў, да 1065 г., што было аспрэчана аўтарам артыкула ў адной з ранейшых публікацый [5, с. 158]. Як сведчаць летапісныя крыніцы, актыўнасць «летапіснай Літвы» адносна Полацка павялічваецца ў 1-й палове XIII ст. Асабліва гэта датычыцца дзейнасці Таўцівіла, які згадваецца як полацкі князь. Верагоднасць таго, што пляменнік Міндоўга мог зрабіцца полацкім князем у 1253 ці 1254 г., дапускаецца з боку некаторых літоўскіх даследчыкаў [2, с. 57]. Ці захапіў Таўцівіл полацкі сталец, застаецца невядомым.

Версія 4. Смаленскія князі. Смаляне імкнуліся падпарадкаваць Полацк сваёй уладзе. Гэта жаданне найбольш пачало праяўляцца з канца XII ст. У гэты перыяд адносіны паміж Полацкам і Смаленскам увесь час змяняюцца. Так, у 1178 годзе смаленскі князь дапамагае палачанам супраць наўгародскага князя, а ў 1195 г. палачане разам з Ольгавічамі выступілі супраць смаленскага князя [8, с. 607, 692]. Пад 1222 г. пазначаецца паход смаленскага князя на Полацк, у выніку чаго горад быў захоплены. Аналізуючы гэтыя падзеі М. Ермаловіч выказаў сумненне наконт правамернасці сцвярджэння «Наўгародскага летапісу» аб захопе самога горада [4, с. 293]. Але ў гістарыяграфіі больш замацавалася думка аб захопе горада ў 1222 г. [9, с. 183]. Не выключана, што менавіта гэта падзея і адлюстравалася ў археалагічным матэрыяле, які засведчыў пажар у выніку ваеннага ўварвання. Заўважым, што сярод наканечнікаў стрэл адзін з арбалетных балтоў меў сляды акаліны. Выкарыстанне арбалетаў у 20-я гг. XIII ст. відаць набывала пашырэнне і ў вайсковых адзінках Усходняй Еўропы. Калі б арбалетны болт належыў крыжакам, то падобных балтоў было б значна больш, але ў выпадку з матэрыяламі 2008 г. заўважаецца тое, што пры наяўнасці арбалетнага балта ў слоі пажара пераважаючую колькасць складалі рознатыповыя наканечнікі стрэл, характэрныя больш для «кааліцыйнага войска» усходнеславянскіх князёў, якое складалася з дружын некалькіх княстваў, чым для рэгулярнага крыжацкага войска. Такім чынам, папярэдне магчыма выказаць версію аб адпаведнасці ваеннага ўварвання падзеям 1220 г. (1222 г.).



Пасля вышэй разгледжаных падзей пэўны час на месцы, даследаваным археалагічнымі раскопкамі, жыццядзейнасць не ўзнаўлялася. На трэцім этапе існавання паўночна-ўсходняй часткі Запалоцкага пасада нязначныя сляды жыццядзейнасці фіксуюцца ў межах XV – XVII стст. Амаль адсутнічае сярод матэрыялаў керамічны посуд XIV – XV стст. Для перыяду XVI – XVII стст. адносяцца некалькі фрагментаў керамікі і перакопы больш ранняга культурнага пласта. Магчыма, што войны XVI – XVII стст. не садзейнічалі развіццю данай часткі пасада.

Такім чынам, праведзенае летам 2008 г. даследаванне на тэрыторыі Запалоцкага пасада дазволіла казаць аб значным развіцці данага пасада ў паўночна-ўсходнім накірунку ў перыяд XI – 1-й паловы XIII стст. У выніку раскопак было зафіксавана пажарышча, якое магчыма суаднесіць з падзеямі 1220 (1222 г.).

*Літаратура і крыніцы*

1. Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. – Москва – Ленинград : АН СССР, 1938.
2. Гудавичюс, Э. История Литвы: С древнейших времен до 1569 года / Э. Гудавичюс. – Москва, 2005. – Т. 1. – 679 с.
3. Дук, Д. У. Археалагічная разведка на Запалоцкім пасадзе Полацка ў 2003г. / Д. У. Дук // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск, 2006. – Вып. 11. – С. 104 – 113.
4. Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь : Полацкі і Новагародскі перыяды / М. І. Ермаловіч. – Мінск : Мастацкая літаратура, 1990. – 366 с. : іл.
5. Клімаў, М. В. Полацкае княства ў IX-XI стст. / М. В. Клімаў // Гісторыя Беларусі: У 6 т. – Мінск : «Экаперспектыва», 2000. – Т. 1. – С. 148 – 166.

6. Клімаў, М. В. Справаздача пра археалагічныя даследаванні ў г. Полацку ў 2008 г. / М. В. Клімаў // Архіў ІГ НАН Беларусі. — Спр. №2596. — 131 с., іл.
7. Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов / Академия наук СССР, Институт истории; [под редакцией и с предисловием А. Н. Насонова]. — Москва. — Ленинград : Издательство АН СССР, 1950. — 640, [1] с., [5] л. факсим.
8. Полное собрание русских летописей : Ипатьевская летопись / Акад. наук СССР. Ин-т истории; под ред. акад. Е. Ф. Карского. — Москва : Изд. вост. лит. — Т. 2 : Ипатьевская летопись. — 1962. — 938 с.
9. Штыхаў, Г. В. Палітычная гісторыя Полацкай зямлі / Г. В. Штыхаў, В. М. Ляўко // Гісторыя Беларусі : У 6 т. — Мінск : «Экаперспектыва», 2000. — Т. 1. — С. 175—183.
10. Штыхаў, Г. В. Гарады Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі / Г. В. Штыхаў // Археалогія Беларусі : У 4-х тамах. — Мінск : Беларуская навука. — Т. 3. — С. 171 — 228.

**А. Л. Коц (Полацк)**

# ГАРАДЗІШЧЫ МІЖРЭЧЧА ДЗІСНЫ І УШАЧЫ: ГІСТАРЫЧНА-ПАРАЎНАЎЧЫ АНАЛІЗ

На тэрыторыі міжрэчча Дзісны і Ушачы за перыяд з канца XIX ст. да пачатку XXI ст. выяўлена каля 50 гарадзішчаў. Большая частка іх не датавана. Шмат з іх на сённяшні дзень не лакалізавана па прычыне адміністрацыйных змен назваў у XX ст. З даследаваных абсалютна большая колькасць адносіцца да жалезнага веку. Гарадзішчы Свіла І і Мнюта датуюцца Сярэднявеччам. Мізэрная колькасць адносна агульнай лічбы, на якіх праводзіліся раскопкі. Шырокамаштабныя раскопкі (з ускрыццём вялікай плошчы паселішча) праводзіліся на гарадзішчах Замошша (Полацкі раён), Кублічы (Ушацкі раён), Паддубнікі і Язна (Мёрскі раён).

Комплексна дадзены рэгіён ніколі не вывучаўся. Асобныя даследчыкі вывучалі пэўныя часткі гэтай тэрыторыі.



Першым даследчыкам гарадзішчаў міжрэчча Дзісны і Ушачы можна назваць К. А. Гаворскага. У сяр. XIX ст. ён даследаваў Полаччыну. Ім былі выяўлены курганы. Падчас вывучэння старажытнай дарогі — Альгердавага шляху — ім былі выяўлены некалькі гарадзішчаў, якія на сённяшні дзень можна акрэсліць тэрыторыяй Полацкага раёна [9, с. 147]. Сярод адкрытых ім гарадзішчаў можна назваць «Глінскі замак» каля г. п. Верына, «Земляное гарадзішча» ў вусці Ушачы і інш. [1, с. 297]. Але на сённяшні дзень дадзеныя гарадзішчы не лакалізаваны і не даследаваны. Аб стане захаванасці і гэтых помнікаў звестак няма.

У XIX ст. даследуемая тэрыторыя ўваходзіла ў склад дзвюх губерняў: Віцебскай і Віленскай. Пэўным чынам згодна адміністрацыйнаму дзяленню адбывалася размежаванне тэрыторыі даследаванняў. Так, у Віцебскай губерні даследаваннямі помнікаў «даўніны», у тым ліку і археалагічных, займаўся А. М. Семянтоўскі. Напрыклад, ім было зафіксавана гарадзішча каля сяла Воронеч (цяпер вёска Воронічы Полацкага раёна) [15, 29]. У XX ст. гарадзішча было даследавана Л. В. Аляксеевым і А. Р. Мітрафанавым [1, с. 296].

У канцы XIX ст. басейн Дзісны даследаваў Ф. В. Пакроўскі. Таксама Дзісненскі павет Віленскай губерні быў даследаваны А. П. Сапуновым. На тэрыторыі правабярэжнай Дзісны (ў межах губерні) імі былі выяўлены некалькі гарадзішчаў і курганныя групы, зафіксаваны этнаграфічны матэрыял аб гэтых помніках. На тэрыторыі міжрэчча Дзісны і Ушачы ён выявіў гарадзішчы каля в. Зарубіна (толькі прывязаўшы яго да в. Шарабаі), Зубкі (прывязаўшы яго да в. Залессе), Шыпы (прывязаўшы яго да в. Ясевічы) ў Глыбоцкім раёне, а таксама ўсеагульнавядомыя гарадзішчы Паддубнікі і Язна ў Мёрскім раёне. Таксама даследчык пазначае характар захавання абарончых умацаванняў на прыведзеных гарадзішчах [12, с. 9 — 10]. Тыя самыя звесткі пра гарадзішчы пазначае А. П. Сапуноў, хутчэй за ўсё грунтуючыся на звестках Ф. В. Пакроўскага [14, с. 125 — 166].

Сярод даследчыкаў Заходняй Беларусі ў 1930-я гг. можна назваць А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіча. Вучоныя Віленскага універсітэта займаліся вывучэннем помнікаў археалогіі і на тэрыторыі Дзісненскага павета, але больш дакладна тэрыторыю іх даследавання можна акрэсліць межамі Глыбоцкага раёна. Дзякуючы іх працы былі адкрыты новыя гарадзішчы і курганныя могільнікі. На складзенай імі карце пазначаны гарадзішчы і курганныя могільнікі, якія яны даследавалі, але гарадзішчы не маюць подпісаў (не лакалізаваны адносна населе-

ных пунктаў) [2, с. 127]. Л. У. Дучыц лічыць, што Галубовічамі было адкрыта на тэрыторыі Глыбоцкага раёна 4 гарадзішчы: Зарубіна, Галубічы, Латыгаль і Шыпы [4, с. 22]. Але пры супастаўленні складзенай Галубовічамі карты і карты сучаснай мясцовасці была высветлена значна большая колькасць умацаваных паселішчаў. Так, даследчыкі пазначаюць гарадзішча каля в. Вудзела (іншыя яго лакалізуюць каля в. Лозічы; на сённяшні дзень яно знішчана). Дакладна можна сказаць, што Галубовічы адкрылі гарадзішчы Запруддзе, Латыголь, Шыпы, Свіла I, Перавоз, а таксама абследавалі гарадзішча Зарубіна [2, с. 127]. Пра астатнія пазначаныя гарадзішчы сказаць дакладна нельга. Так, Галубовічы пазначаюць гарадзішча ў ваколіцах в. Гулідова, але хутчэй за ўсё гэта гарадзішча Асінгарадок у Пастаўскім раёне. Даследчыкі адзначаюць гарадзішча паўночней г. Глыбокае, на сённяшні дзень яно не выяўлена. Акрамя Свілы I і Перавоза ў ваколіцах воз. Пліса пазначаны яшчэ 2 гарадзішчы, верагодна, гэта Брыкіцi і Гарадзішча (Кішы). На карце пазначана нейкае гарадзішча паміж вёскамі Ломашы і Карасі, але дадзенае паселішча на сённяшні дзень не выяўлена, і больш пра яго звестак няма. Яшчэ адно гарадзішча пазначана на беразе р. Ауты. Відавочна, гэта гарадзішча Шчаўкуны, якое паўторна было адкрыта Я. Н. Драздовічам у 1938 г. і даследавана Л. У. Дучыц у 1981 г. Такім чынам, трэба засведчыць, што А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч адкрылі і даследавалі на тэрыторыі Глыбоцкага раёна не 4 гарадзішчы, а 8 ці нават больш [2, с. 127].

У 1920—30-ы гг. даследаваннямі Дзісненскага павета ў межах Заходняй Беларусі займаўся Я. Н. Драздовіч (сёння гэта ўвесь Глыбоцкі раён, а таксама часткова Шаркаўшчынскі і Мёрскі). Ён з'яўляецца адной з яскравейшых фігур сярод даследчыкаў Глыбоцкага раёна не толькі ў галіне археалогіі, але і як фалькларыст і этнограф. Ён маляваў дываны для сялян, рабіў замалёўкі краявідаў, збіраў фальклорны матэрыял і займаўся археалагічнымі разведкамі. Археалагічныя раскопкі даследчык на азначанай тэрыторыі не праводзіў, ён збіраў толькі пад'ёмны матэрыял, рабіў дакладныя апісанні помнікаў, а таксама іх замалёўкі. Яшчэ Я. Н. Драздовіч сабраў шмат каштоўнага этнаграфічнага і фальклорнага матэрыялу, які апісвае мінулае пэўнага помніка ці групы помнікаў, фіксаваў мясцовыя назвы гарадзішчаў.

Нельга не адзначыць, што Я. Н. Драздовіч рабіў досыць падрабязныя апісанні гарадзішчаў і прылягаючых тэрыторый. Гэта дапамагае ўстанавіць размяшчэнне гарадзішчаў і аднавіць яго знешні выгляд у 20—30-я гг. XX ст., але не ўсіх. Дзякуючы мастацкаму характару апісання гарадзішчаў можна добра ўявіць знешні выгляд паселішча, пэўныя прыродныя і штучныя аб'екты, якія знаходзіліся на гарадзішчы і да нашага часу не захаваліся. Гэта ў першую чаргу датычыцца абарончай сістэмы гарадзішчаў.



Падчас пошуку гарадзішчаў, апісаных Я. Драздовічам, паўстала праблема іх сучаснага месца размяшчэння. На працягу XX ст. адбыліся пэўныя змены ў планіроўцы населеных пунктаў, да якіх прывязаны помнікі, змены назваў геаграфічных аб'ектаў, змены водных сістэм (асушэнне балот) і інш. Па гэтай прычыне месцазнаходжанне шмат якіх гарадзішчаў не вызначана.

Язэп Драздовіч адкрыў і даследаваў гарадзішчы каля населеных пунктаў Падауты, Галубічы, Зубкі, Запруддзе, Шчаўкуны, Старыя Зябкі (Псуя). Усе гэтыя гарадзішчы былі даследаваны сучаснымі археолагамі, у прыватнасці Л. У. Дучыц [5; 8, с. 231—240; 6, с. 493]. Аб гарадзішчах каля вв. Брыкіцi, Багушэвічы, Крукоўшчына, Гарадзішча, Задвор'е, Ластавікі, Зароўе, Міцькі, Перавоз і Псуя (на беразе воз. Доўгае) і інш. Я. Драздовіч таксама падае пэўныя звесткі [7, с. 231].

Э. М. Зайкоўскі, даследуючы працы Я. Н. Драздовіча, вызначыў, што аўтар адкрыў гарадзішча каля в. Задвор'е (Зябкаўскі сельсавет) [7, с. 231]. Але акрамя сведчанняў Я. Драздовіча пра дадзенае гарадзішча больш нічога невядома. Знайсці яго таксама пакуль не атрымалася. Вёска Задвор'е з'яўляецца хутарной вёскай. У 1931 — 1933 гг. яна займала невялікую тэрыторыю і налічвала 25 хат [16]. Але ў 1930-я гг. падчас польскіх аграрных рэформ вёска стала хутарной, і таму ўзгаданае гарадзішча на вялікай тэрыторыі знайсці складана.

У 1938 г. Я. Н. Драздовіч зрабіў дакладнае апісанне гарадзішча каля колішняй вёскі Брыкіцi (Плiскі сельсавет) [3, с. 127]. Падчас разведак у 2009 г. гарадзішча было даследавана аўтарам. На сённяшні дзень апісанне Я. Н. Драздовіча цалкам супадае з сучасным станам гарадзішча. Аб дадзеным гарадзішчы падае звесткі Л. Д. Пабаль: яно было адкрыта ст. Ларэнцам (відавочна, мясцовы шляхціц) у 1934 г., — і падае прыблізна тое самае апісанне, што і Я. Н. Драздовіч [11, с. 88].

У «Дзённіку» Я. Н. Драздовіч, апісваючы групу помнікаў па берагах р. Ауты, узгадвае гарадзішча «на Зароўі» (Празароцкі сельсавет) [3, с. 127]. Больш даных па гэтым гарадзішчы няма. Падчас разведак у ваколіцах урочышча Зароўе (колішняя вёска Празароцкага сельса-

вета) па левым беразе р. Ауты гарадзішча не выяўлена. Стромкі бераг ракі моцна парэзаны глыбокімі ярамі (да 10—15 м глыбінёй). Такім чынам утвараюцца пляцоўкі, якія з трох бакоў абаронены схіламі, а чацвёрты бок выходзіць да поля. Ні на адной з гэтых пляцовак не знойдзены культурны слой. Магчыма, што Я. Драздовіч памылкова адзін з падобных аб'ектаў назваў гарадзішчам.

Аўтар «Дзённіка» падае звесткі аб 2-х гарадзішчах у ваколіцах Залесскай групы азёр (азёры Карпінскае, Беразоўскае, Белае, Мурамшчына і Сетаўскае). Гэта гарадзішча Зубкі (Залесскі сельсавет), якое ён называе «Гарадзея» або «Гараватка», а таксама Запруддзе (Залесскі сельсавет) — Гародня. Ён выказвае меркаванне аб іншых паселішчах у гэтым мікрарэгіёне.

Гарадзішча каля в. Зубкі даследавалася А. М. Мядзведзевым, Л. У. Дучыц. Даследаванні Я. Н. Драздовіча падцвярджаюцца матэрыяламі, сабранымі пазнейшымі даследчыкамі. Падобная сітуацыя назіраецца і з гарадзішчам каля в. Запруддзе.

Я. Н. Драздовіч адкрыў гарадзішча паміж вв. Гарадзішча і Кішы (Падсвільскі пасялковы сельсавет). Даследчык пазначае, што яно знаходзіцца сярод лугавой нізіны і мае чорны насычаны культурны слой. А таксама піша, што на гэтым узгорку людзі знаходзілі бронзавыя рэчы [3, с. 118]. Акрамя гэтых сведчанняў аб паселішчы больш нічога невядома.

Э. М. Загарульскі пазначае, што мастаком было адкрыта гарадзішча каля в. Ластаўкі [7, с. 231]. На сённяшні дзень гэтае гарадзішча не лакалізавана, але можна выказаць пэўныя меркаванні. Так, па «Слоўніку назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці» на тэрыторыі Глыбоччыны знаходзяцца 3 вёскі з коранем «ласт»: Ластаўкі, Ластавікі і Ластавічы. Вёска Ластаўкі знаходзіцца ў межах Зябкаўскага сельсавета, у колішнім калгасе «Авангард» [13, с. 224]. На сённяшні дзень дадзенай вёскі не існуе і месца яе размяшчэння невядома. Ластавічы знаходзяцца на тэрыторыі калгаса імя Кірава, у Абрубскім сельсавеце [13, с. 224]. На адлегласці 2,5 км ад гэтай вёскі выяўлена гарадзішча, якое Г. В. Штыхаў, М. А. Ткачоў і Л. У. Дучыц прывязваюць да бліжэйшага населенага пункта в. Падгаі [5, с. 10]. Болей умацаваных паселішчаў у ваколіцах дадзеных вёсак не выяўлена. Вёска Ластавікі існавала ў Празароцкім сельсавеце, у межах калгаса імя Чкалава. Я. Н. Драздовіч узгадвае: «а ў паўвярсты ад апошняга [гарадзішча Зароўе, пра якое ўжо ўзгадвалася — *А. К.*] — на табе — і чацвёртае» [3, с. 127]. Аўтарам гэтае гарадзішча дакладна не суадносіца з мясцовасцю, але па апісаннях яно знаходзіцца менавіта каля колішняй в. Ластавікі (цяпер урочышча). На сённяшні дзень падчас разведак дадзенае гарадзішча не знойдзена.



Я. Н. Драздовічам было адкрыта гарадзішча каля в. Міцькая [7, с. 231]. Але на сённяшні дзень месца размяшчэння гэтага гарадзішча невядома. Хутчэй за ўсё яно знаходзіцца каля колішняга хутара Міцькі (цяпер урочышча) (Празароцкі сельсавет) на беразе рэчкі Карманкі, якая выцякае з возера Гінькава.

Л. У. Дучыц лакалізуе гарадзішча каля в. Псуя (цэнтр сельсавета) [5, с. 10], але больш мэтазгодна лакалізаваць яго каля в. Зябкі Псуеўскага сельсавета (мясцовыя жыхары называюць вёску Старымі Зябкамі). Гэта гарадзішча было адкрыта Ф. В. Пакроўскім [12, с. 13]. І верагодна, што менавіта яго Э. М. Загарульскі пазначае, як даследаванае Я. Н. Драздовічам [7, с. 231]. Што датычыцца гарадзішча Псуя, то ў свой час яго адкрыў Я. Н. Драздовіч і лакалізаваў каля бліжэйшага хутара — Псуя [7, с. 231]: «Пры вытоках з возера Доўгае ў возера Шо знаходзіцца старадаўнейшае ўмацаванае людское селішча, на востраве, перакрытага насыпаным гарадзішчанскім валам гарадзішча Псуя, на якім у пазнейшыя часы звіла гняздо тут сялібішча апшарніцкага двору». [3, с. 126]. Дадзенае апісанне ніяк не супадае з гарадзішчам, якое Л. У. Дучыц прывязвае да в. Псуя.

Я. Драздовіч з'яўляецца найбольш актыўным і дзейсным даследчыкам міжрэчча Дзісны і Ушачы. Дзякуючы сваёй актыўнай краязнаўчай дзейнасці ім быў унесены найбольшы ўклад у развіццё археалагічнай навукі на тэрыторыі Глыбоцкага раёна, у першую чаргу адкрыццё і пошук новых помнікаў.

У пасляваенны час археалагічныя даследаванні набылі больш планамерны характар. Так, Глыбоцкі раён даследавалі Л. В. Аляксееў, М. А. Ткачоў, М. А. Мядзведзеў, Л. У. Дучыц і мясцовыя краязнаўцы.

Можна зазначыць, што археалагічныя даследаванні ў вывучэнні гарадзішчаў міжрэчча Дзісны і Ушачы даюць каштоўны матэрыял аб узаемадзеянні культуры штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай. Але тым не менш колькасць даследаваных гарадзішчаў невялікая. На сённяшні дзень няма працы па гісторыі археалагічнага вывучэння акрэсленай тэрыторыі. Некалькі старонак прысвечана дадзенай тэме ў серыі кніг «Памяць». Астатнія даследаванні амаль ўсе выдаваліся ў кантэксце агульнага вывучэння. Таксама няма падрабязных даклад-

ных апісанняў помнікаў рэгіёна, у тым ліку гарадзішчаў. На сённяшні дзень актуальнай праблемай з'яўляецца пошук і фіксаванне дадзеных помнікаў, у першую чаргу гарадзішчаў, і непасрэдна прадстаўленне дадзеных матэрыялаў шырокаму колу грамадства.

*Літаратура і крыніцы*

1. Алексеев, Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины / Л. В. Алексеев // Труды Прибалтийской Объединенной комплексной экспедиции. — Москва, 1959. — Т. 1. — С. 273—315.
2. Голубович, Е. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР / Е. Голубович, В. Голубович // Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР. — Москва — Ленинград, 1945. — Т. 11. — С. 126—137.
3. Драздовіч, Я. Н. Дзённік. / Я. Н. Драздовіч // Маладосць. — 1992. — № 2. — С. 113—130.
4. Дучыц, Л. У. Зямля нашых продкаў / Л. У. Дучыц // Памяць : Гіст. -дакум. хроніка Глыбоцкага раёна / навук. рэд. Б. І. Сачанка (гал. рэд.) і інш. — Мінск : БелЭн, 1995. — С. 21—29.
5. Дучиц Л. У. Отчет о полевых исследованиях в 1981 г. // Архив отделов археологии Института истории Национальной Академии наук Беларуси. — 1981.
6. Дучыц Л. У. Перавоз / Л. У. Дучыц // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. / Бел. Энцыкл.; рэдкал. : В. В. Гетаў і інш. — Мінск : БелЭн, 1993. — С. 493.
7. Зайкоўскі, Э. М. Драздовіч / Э. М. Зайкоўскі // Археалогія і нумізматыка Беларусі : энцыкл. / Бел. Энцыкл.; рэдкал. : В. В. Гетаў і інш. — Мінск : БелЭн, 1993. — С. 231.
8. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць / С. В. Марцэлеў, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; рэдкал. : С. В. Марцэлеў (гал. рэд.) і інш. — Мінск : Бел. Сав. Энцыкл., 1985. — 496 с.
9. Каханоўскі, Г. А. Гаворскі / Г. А. Каханоўскі // Археалогія і нумізматыка Беларусі : энцыкл. / Бел. Энцыкл.; рэдкал. : В. В. Гетаў і інш. — Мінск : БелЭн, 1993. — С. 147.
10. Поболь, Л. Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век / Л. Д. Поболь. — Минск : Наука и техника, 1983. — 456 с.



11. Поболь, Л. Д. Древности Белоруссии в музеях Польши / Л. Д. Поболь. — Минск : Наука и техника, 1979. — 208 с.
12. Покровский, Ф. В. Археологичесая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильна : типография А. Г. Сыркина, 1893. — 164 с.
13. Рапановіч, Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці / Я. Н. Рапановіч. — Мінск : Навука і тэхніка, 1977. — 504 с.
14. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии / Изд. А. П. Сапунова, В. Друцкого-Любецкого. — Витебск : Губернская Типолитография, 1896. — 264 с. + 144 с. (прил.)
15. Сементовский, А. М. Белорусские древности / А. М. Сементовский. — С-Петербург : Типо-литография Н. Стефанова, 1890. — 137 с.
16. Archiwum Map Wojskowego Instytutu Geograficznego 1919 — 1939 [Электронны рэсурс] Геаграфічны Інстытут Рэспублікі Польшча. — Электрон. дан. — Рэжым доступу: http://igrek. amzp. pl/mapindex. php?cat=WIG100, свабодны. — Загл. з экрана. — Мов. польская, англійская.

**Д. А. Коваленко (Витебск)**

## БОЕВОЙ КИНЖАЛ ИЗ КОПЫСИ

Летом 2007 г. в поселке Копысь Оршанского района Витебской области строился мост через р. Днепр. Несколько домов, находившихся на левом берегу Днепра, пошли под снос. Для их жителей строились новые. Место было выбрано поселковым Советом по ул. Ленинской, в двухстах метрах на юго-запад от древнего замка (рис. 1). Под новые дома и хозяйственные постройки рабочие выкопали траншеи под ленточные фундаменты. В одной из траншей строителями был найден боевой кинжал, который они отдали автору. Поскольку между находкой кинжала и его передачей прошло несколько дней, строители не смогли точно вспомнить, на какой глубине он был найден. В результате возникают проблемы с дати-

вой горе, который включил бы находящиеся на значительной глубине под стеклянным павильоном воссозданную деревянную застройку и церковь летописного Городно. Проект не воплотился в жизнь, с изменениями реанимирован в настоящее время.

Отдельную группу составляют архитектурно-археологические и историко-археологические музеи-заповедники. Планировалось создать историко-археологический музей в г. п. Заславль Минского района. В 1968 г. сотрудником Государственного музея Белорусской ССР Г. Н. Самсоновым был разработан тематико-экспозиционный план «Историко-археологического музея» — будущего филиала музея в г. п. Заславль. В этом же году состоялась первая археологическая экспедиция музея в Заславль совместно с сектором археологии ИИ АН БССР для получения материалов для будущей экспозиции [18, л. 98]. Заславский архитектурно-археологический заповедник (1967 г., 1986 г. — историко-культурный заповедник «Заслаўе») в конце 70-х годов планировалось сделать историко-археологическим. В Постановлении ЦК КП Белоруссии и Совета Министров Белорусской ССР от 18 ноября 1977 г. говорилось о целесообразности музеефицикации ряда археологических памятников Заславля.

Первый археологический музей в БССР — «Берестье» — был основан в 1972 году (открыт в 1982 г.) [15, с. 6]. Музей был создан благодаря работе белорусских археологов под руководством П. Ф. Лысенко, поддержке руководства сектора археологии, Института истории АН БССР, научных организаций, видных ученых, советских и партийных деятелей СССР [11, л. 97]. Это единственный в Европе музей восточнославянского средневекового города. В 1981 г. в музейные фонды поступило от археологов 16 573 единицы хранения археологии. Основа музея — археологический раскоп (площадь около 1 тыс. м$^2$) с законсервированными строениями ремесленного квартала XIII в. (28 жилых и хозяйственных построек, 2 улицы, частокол, остатки глинобитных печей и др.). Смотровая площадка расположена по периметру раскопа. Оригинальный музейный павильон из бетона, стекла, алюминия площадью 2400 м$^2$ был возведен в 1977 — 1980 годах. Кроме раскопа он включил 14 экспозиционных залов (1300 м$^2$). Существующая с небольшими дополнениями до настоящего времени стационарная экспозиция, была создана на основе тематического структурного плана, авторами которого являются доктор исторических наук П. Ф. Лысенко, научные сотрудники музея М. И. Алексюк, Г. М. Козлова [11, л. 65 — 69].



Начиная с середины 1950-х годов к экспозициям краеведческих и историко-археологических музеев стали предъявляться более высокие требования с точки зрения усиления связи с наукой археологией. Сотрудничество музеев с научными археологическими учреждениями СССР и БССР обеспечило рост археологических коллекций музеев, поступление необходимого оригинального материала и создание экспозиций по древнейшей истории, которые могут быть названы археологическими. В целом благоприятная для развития музейной археологии ситуация в 1960-х годах работала главным образом на становление и укрепление сети краеведческих музеев. Очевидные успехи в отечественной археологии и активная, заинтересованная позиция руководства отдельных музеев привели к созданию одного историко-археологического (1945) и одного археологического музея (1972) в БССР. Музейное строительство пошло по пути создания не археологических, а историко-археологических музеев, что отражало процесс интеграции этих наук и соответствовало наличию разных коллекций в фондах старейших музеев республики. В рассматриваемый период были организованы архитектурно-археологические и археологические заповедники. Директоры музеев, научные сотрудники отделов истории, участвовавшие в археологических экспедициях, внесли свой вклад в создание первых в их музеях археологических экспозиций, посвященных истории древнерусских городов и первобытно-общинному обществу. С 1960-х годов археологические экспозиции стали строиться с использованием не только иллюстративного метода, но и комплексного, систематического методов экспонирования.

*Литература и источники*

1. Белорусская археология: достижения археологов за годы Советской власти / В. Ф. Исаенко [и др.]; редкол. : Г. В. Штыхов [и др.]. — Минск : Наука и техника, 1987. — 127 с. : ил.
2. Государственный архив Гродненской области (ГАГО). Фонд. 1269. — Оп. 1. — Д. 1.
3. ГАГО. — Ф. 1269. — Оп. 1. — Д. 8.
4. ГАГО. — Ф. 1269. — Оп. 1. — Д. 45.
5. ГАГО. — Ф. 1269. — Оп. 2. — Д. 19.
6. ГАГО. — Ф. 1269. — Оп. 2. — Д. 20.
7. ГАГО. — Ф. 1269. — Оп. 2. — Д. 28.
8. ГАГО. — Ф. 1269. — Оп. 2. — Д. 36.

9. Институт истории НАН Беларуси, отдел сохранения историко-культурного наследия. Архив Л. Д. Поболя. — Д. 550.
10. Институт истории НАН Беларуси, отдел сохранения историко-культурного наследия. Архив Л. Д. Поболя. — Д. 43.
11. Институт истории НАН Беларуси, отдел сохранения историко-культурного наследия. Архив Л. Д. Поболя. — Д. 70.
12. Институт истории НАН Беларуси, отдел сохранения историко-культурного наследия. Архив Л. Д. Поболя. — Д. 252.
13. Клімаў, С. М. Мсціслаўскі гісторыка-археалагічны музей / Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыкл. / Беларус. Энцыкл.; рэдкал. В. В. Гетаў [і інш.] — Минск : БелЭн, 1993. — С. 444.
14. Крывальцэвіч, М. Археалёгія і палітыка // Шуфляда. — 1999. — № 1. — С 33—54.
15. Лысенко, П. Ф. Открытие Берестья / П. Ф. Лысенко; рецензенты: М. А. Ткачёв [и др]. — Минск : Наука и техника, 1989. — 159 с.
16. Национальный архив РБ (НАРБ). — Ф. 7. — Оп. 5. — Д. 5547.
17. НАРБ. — Ф. 790. — Оп. 1. — Д. 37.
18. НАРБ. — Ф. 974. — Оп. 1. — Д. 25.
19. НАРБ. — Ф. 974. — Оп. 1. — Д. 388.
20. НАРБ. — Ф. 974. — Оп. 1. — Д. 405.
21. НАРБ. — Ф. 974. — Оп. 2. — Д. 414.
22. НАРБ. — Ф. 974. — Оп. 2. — Д. 667.
23. НАРБ. — Ф. 974. — Оп. 2. — Д. 756.
24. Потапова, Т. Б. Археологические материалы в краеведческих музеях. Методические указания / Т. Б. Потапова, В. М. Раушенбах; под ред. А. Я. Брюсова. — Москва : Гос. изд-во культурно-просветительной литературы, 1954. — 124 с.
25. Тихомирова, В. А. Археологические материалы в музейной экспозиции / В. А. Тихомирова; Комитет по делам культурно-просветит. учреждений при Совнаркоме РСФСР, НИИ краеведческой и музейной работы. — Москва : Красный печатник, 1945. — 15 с.
26. Фонды Гродненского государственного историко-археологического музея (ГГИАМ). КП 16183. — Д. Голубович В. И., Цегак — Голубович Е. А. Новые материалы по истории Гродна в раннефеодальную эпоху. — 102 с.



27. Формозов, А. А. Страницы истории русской археологии / А. А. Формозов. — Москва : Наука, 1986. — 240 с.
28. Центральный научный архив НАН Беларуси (ЦНА НАН Беларуси). — Ф. 3. — Оп. 1. — Д. 547.
29. ЦНА НАН Беларуси. — Ф. 3. — Оп. 1. — Д. 548.
30. ЦНА НАН Беларуси. — Ф. 3. — Оп. 1. — Д. 754.
31. Czopek, S. Wstęp do muzealnictwa i konserwatorstwa archeologicznego / S. Czopek; opiniowal M. Gedl. — Rzeszów : Wyż sza Szkoła Pedagogiczna, 2000. — 220 s.

**Дз. В. Юрчак (Віцебск)**

# РАЗВІЦЦЁ МЫТНАЙ СПРАВЫ І ЗАКАНАДАЎСТВА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ У XIII — ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVI СТСТ.

На фарміраванне мытнай справы і мытнага заканадаўства ў Беларусі ў часы існавання ВКЛ аказвала ўплыў развіццё знешняга гандлю, агульная эвалюцыя сістэмы органаў дзяржаўнага кіравання і заканадаўства ў разглядаемы перыяд. У XIII ст. з-за нашэсця мангола-татараў губляе сваё ранейшае значэнне старажытны гандлёвы шлях «з вараг у грэкі», памяншаецца роля ў транзітным гандлі гарадоў паўднёвай і паўднёва-ўсходняй Беларусі, размешчаных на Дняпры і яго прытоках. Але значэнне дзвінскага адгалінавання старажытнага гандлёвага шляху наадварот узрастае, што пакідае Полацк і Віцебск у арбіце асноўных гандлёвых патокаў таго часу. У прыватнасці, рускі цар Іван IV Грозны, характарызуючы значэнне дзвінскага шляху, гаварыў: «Берагі Дзвіны срэбныя, а дно яе залатое» [17, с. 265]. Акрамя таго, Вялікае Княства Літоўскае само становіцца актыўным удзельнікам знешняга гандлю і ў поўнай меры рэалізуе свой транзітны патэнцыял.

У той час на развіццё мытнай справы на тэрыторыі сучаснай Расіі значны ўплыў аказвала татара-мангольскае іга. З гэтага часу ранейшая назва праваznога гандлёвага збору — «мыта» — паступова замя-

няецца новым татарскім словам «тамга» (у значэнні пломба, пячатка). Пад тамгой разумеліся ўсе гандлёвыя зборы, спаганяемыя ў адмысловых установах — «таможнях», у якіх тавар «таможили» [10, с. 30]. У Беларусі дадзенае паняцце аж да XIX ст. распаўсюджвання не атрымала, бо яе тэрыторыя не патрапіла пад мангола-татарскае іга. Як вынік, у беларускай мове і па сённяшні дзень захоўваецца ранейшая назва — «мытня».

У XIII — XIV стст. развіццё мытнай справы і заканадаўства адбывалася ў рэчышчы тэндэнцый, закладзеных у папярэднюю эпоху. У разглядаемы перыяд не зведала сур'ёзных змен існуючая раней сістэма падаткаў, працягвалася іх збіранне ўдзельнымі князямі, якія мелі шырокую аўтаномію. Усё гэта тлумачылася тым, што менавіта беларускія землі сталі ядром фарміравання новай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, а пануючае тут старажытнарускае права стала асновай сістэмы права ВКЛ.

Пэўныя змены ў арганізацыі мытнай справы назіраюцца пасля адміністрацыйнай рэформы князя Вітаўта, што паспрыяла цэнтралізацыі дзяржавы. Раней роля вялікага князя ў ВКЛ была ў пэўным сэнсе аслабленая з-за наяўнасці ў дзяржаве мноства ўдзельных князёў, якія валодалі шырокімі правамі ў сваіх вотчынах. У прыватнасці, яны знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад вялікага князя, абавязаныя былі даваць атрады для ўдзелу ў ваенных дзеяннях, выплачваць штогод даніну. У той жа час удзельныя князі валодалі шырокімі правамі, праводзілі самастойную ўнутраную палітыку ў межах сваіх земляў, у іх рукі ішлі ўсе гандлёвыя і мытныя плацяжы, што ўзымаліся на тэрыторыі ўдзельных княстваў. Такім чынам, ніякай цэнтралізаванай сістэмы мытных збораў не існавала, а развівалася мытная справа і мытнае заканадаўства на аснове тэндэнцый, закладзеных у Старажытнай Русі.

Можна меркаваць, што з ліквідацыяй удзелаў у 1390-х гг. і стварэннем намесніцтваў вялікі князь Вітаўт адначасова правёў рэфармаванне мытнай сістэмы ВКЛ. У прыватнасці, прававое становішча былых удзельных княстваў цяпер вызначалася ўстаўнымі граматамі вялікага князя, што пацвярджалася яго пераемнікамі. На жаль, ні воднага ранняга дакумента такога тыпу не захавалася. Але, па меркаванні даследчыкаў, ва ўстаўных граматах землям ВКЛ замацоўваліся правы і абавязкі розных слаёў насельніцтва, прававы статус земляў, а таксама фінансавыя плацяжы (уключаючы мытныя), што ішлі ў дзяржаўную казну [16, с. 351, 353]. Калі ж разглядаць



устанаўленне мытных плацяжоў, дык, улічваючы асаблівасці складання старажытных грамат і дамоў, можна выказаць меркаванне, што ў іх прама прапісваліся месцы і памеры збірання ўсіх гандлёвых і правазных мытаў. Аб апошнім сведчаць шматлікія пазнейшыя дакументы, якія дайшлі да нас. Яны спасылаюцца на ўсталяваныя Вітаўтам умовы выплаты мыта. У прыватнасці, у пацвярджальнай грамаце Полацкай зямлі 1547 г. гаворыцца, што за палачанамі захоўваюцца ўсе льготы, якія яны «м ці от предковъ нашихъ великихъ князей, от великого князя Витовта и Жикгимонта и Скиргайла <...>» [1, с. 15]. Падобнае чытаецца і ў рашэнні Казіміра па скарзе жыхароў Луцка на незаконна спаганяемае з іх мыта шляхтай Валынскай зямлі. Вялікі князь загадаў як і раней збіраць мыта толькі там, дзе гэта рабілася па рашэнні Вітаўта [13, с. 223]. Усё гэта сведчыць пра тое, што менавіта пры вялікім князю Вітаўце адбылася цэнтралізацыя мытных збораў, а права ўводзіць новыя зборы і змяняць існуючыя раней канчаткова перайшло да цэнтральных улад.

Асобныя нормы мытнага права можна знайсці ў прывілеях на самакіраванне гарадам. Наданне беларускім гарадам магдэбургскага права само па сабе было накіраванае на ажыўленне гандлю ў княстве. Пра апошняе сведчыць тое, што першымі падобныя прывілеі атрымалі гарады, размешчаныя ў басейнах важных гандлёвых рэк Віліі, Нёмана і Заходняга Буга: у 1387 г. — Вільня і Трокі, у 1390 г. — Брэст, у 1391 г. — Гародня і Коўна. У большасці прывілеі змяшчалі мытныя льготы жыхарам самых вялікіх гарадоў. Так, полацкія мяшчане па прывілею на магдэбургскае права 1498 г. вызваляліся ад выплаты мыта па ўсім ВКЛ [4, с. 23]. Практычна тыя ж правы падаваліся купцам з Вільні, Трокаў, Віцебска і Кіева. Іншыя гарады такімі шырокімі льготамі не карысталіся. У прыватнасці, у прывілеі Мінску ўтрымоўваецца ўказанне на тое, што гараджане, як і раней, павінны выплачваць мыта. Тая ж фармулёўка мелася і ў іншых гарадскіх граматах. У такіх умовах у гарадах назіралася даволі цікавая тэндэнцыя: шматлікія рамеснікі пераходзілі пад юрысдыкцыю феадалаў для таго, каб пазбавіцца ад гарадскіх выплат і мытных пошлін [7, с. 27]. Тое ж самае магло быць і сярод гандлёвых людзей. Ім прасцей было дзейнічаць на ўмовах фармальнай залежнасці ад феадала, бо гэта было выгадна абодвум бакам. Феадалы карысталіся вялізнымі прывілеямі ў рэалізацыі тавараў, у той час як простыя купцы маглі прадаваць свой тавар толькі жыхарам ратушнай юрыдыкі [11, с. 56].

Княскімі граматамі некаторыя феадалы таксама атрымоўвалі права спаганяць асобныя правозныя плацяжы. Часцей за ўсё гэта датычылася маставога і перавознага мыта. Так, падчашы ВКЛ Н. Цеханавецкі-Кішка, атрымаўшы ў валоданне ад вялікага князя Драгічынскае староства, надзяляўся правам спаганяць платы за перавоз па сваёй зямлі [14, с. 142]. У пацвярджальнай грамаце 1541 г. І. Няміровічу на пабудову замка ў маёнтку Гарадзішча вялікім князем дазвалялася гаспадару замка «мыто брати от воза по полугрошъку» [12, с. 105].

У XV — XVI стст. у ВКЛ складаецца складаная сістэма мытных і гандлёвых плацяжоў, паміж якімі часам цяжка было правесці выразную мяжу. У розных крыніцах згадваюцца наступныя віды плацяжоў: гаспадарскія, княжыя, панскія, баярскія і духоўныя мыты, а таксама вялікае і малое; дроўнае, рыбнае, саляное; грэбельнае і езавое; оргішавае (ад караванаў); скопнае (з гандлю скурамі); ванчоснае (збор з прадуктаў дрэваапрацоўкі), перавознае, памернае, важнае, васкабойнае і маставое; мыта ад прасолаў і г. д. [18, с. 11 — 12]. Усё вышэйпрыведзенае сведчыць аб тым, што мытныя плацяжы яшчэ цалкам не адасобіліся ад унутраных гандлёвых збораў, і тэрмінам «мыта» пазначаліся як першыя, так і другія. Ды і сярод мытных службоўцаў не было выразнага размежавання паўнамоцтваў (чаго толькі варты назвы службовых пасад: «справца мыт помежных и карчомъ») [5, с. 182].

У адпаведнасці з існаваўшым у ВКЛ звычаем усе купцы абавязаны былі плаціць мыта, якое паступала ў казну. Для збору мыта на гандлёвых шляхах у вялікакняжацкіх гарадах ствараліся мытні (каморы), на меней значных шляхах размяшчаліся мытныя заставы (прыкаморкі). З XV ст. у ВКЛ склалася больш складаная сістэма арганізацыі мытняў: уся дзяржава пры вялікім князю Аляксандру Казіміравічу было падзеленае на мытныя акругі на чале з галаўнымі каморамі. Першапачаткова іх было 10: Берасцейская, Ковенская, Луцкая, Уладзімірская, Наваградская, Мінская, Смаленская, Кіеўская, Путіўльская і Бранская. Ім падпарадкоўваліся рэгіянальныя каморы, прыкаморкі і асобныя мытныя пасты — мытная варта (віжы). Асноўнай задачай апошніх была барацьба з кантрабандай, названай у працы У. Ю. Саяпина «промытам» [18, с. 57]. Аднак з гэтым нельга пагадзіцца, бо, гледзячы па тэкстах старажытных актаў, пад промытам хутчэй разумелася канфіскацыя тавара («взялъ в промыто») [5, с. 187; 6, с. 28].

У каморах купцы абавязаны былі прад'явіць тавар для надгляду («шацавання»), вусна задэклараваць колькасць, кошт і месца прызначэння тавара, а таксама выплаціць за яго мыта. Купец, што аплаціў



мыта, атрымоўваў «квіт» (квітанцыю), які павінен быў забяспечыць яму вольны праезд да месца прызначэння [11, с. 55]. У той жа час ва ўсіх каморах па шляху тавар аглядалі ізноў на прадмет адпаведнасці грузу таму, што паказана ў квітанцыі. Усе звесткі аб купцу, тавары, месцы прызначэння, ільготах, збіранні мыта і яго памерах занасіліся ў мытныя кнігі, якія вяліся на ўсіх каморах і падкаморках.

Г. Галенчанка мяркуе, што мытныя кнігі ў ВКЛ існавалі з XIII ст. [3, с. 47]. Аднак падобнае меркаванне выклікае сумненне, бо ў феадалаў удзельных зямель ВКЛ, дзе раней спаганяліся мытныя плацяжы, не існавала неабходнасці ў вядзенні такой дакладнай справаздачнасці. Хутчэй за ўсё мытныя кнігі з'яўляюцца толькі ў XVI ст., што было звязана з неабходнасцю дзяржавы ва ўпарадкаванні паступлення ўскосных падаткаў у казну. Аб рэальнасці гэтага сведчыць тое, што з мытных кніг, якія захаваліся да нашых дзён, самыя раннія адносяцца да канца XVI — XVII стст. і з'яўляюцца даволі сінхронна (мытныя кнігі Брэста 1583 і 1605 гг., Гародні 1600 і 1605 гг., Віцебска 1605 г., Магілёва 1612 г., Полацка 1616 г.).

Па выніках працы мытных камор мытнікі складалі справаздачы — «лічбу», — якія здаваліся падскарбію. Апошні правяраў справаздачу і выдаваў мытнікам «квіт» (квітанцыю) пра разлік з казной [8, с. 653]. Вышэйшым адміністратарам усіх мытаў у ВКЛ з'яўляўся падскарбій земскі. Выключэннем з гэтага правіла можа стаць перыяд кіравання Жыгімонта Старога, калі ў 1536 г. вялікі князь галоўным распарадчыкам усіх мытаў прызначыў сваю жонку Бону Сфорца.

Разглядаючы непасрэдна тарыфы, варта звярнуць увагу на тое, што існавалі асноўныя (мыта старое, звычайнае) і дадатковыя (мыта новападвышанае) тарыфы. Апошнія пачалі ўводзіцца пры вялікім князю Жыгімонце Старым і дазвалялі павялічваць мытныя тарыфы і прыбытковасць казны, не змяняючы раней існаваўшых мыт і не парушаючы гандлёвых звычаяў. Акрамя таго, у дачыненні новых тарыфаў не дзейнічалі льготы, фіксаваныя ў так званых бязмытных лістах. Купец, які меў мытныя льготы па асноўным тарыфе (старому мыту), абавязаны быў плаціць дадатковыя мыты, што фіксавалася ў мытных кнігах.

Звычайна збор мыта здаваўся ў арэнду або ажыццяўляўся службовымі асобамі. Але арэнда пераважала, бо дзяржаве было выгадна атрыманне фіксаванай папярэдняй аплаты і адсутнасць выдаткаў на ўтрыманне камор. Першыя прыклады сдачы ў арэнду мытняў адносяцца да часу княжання Вітаўта. У асноўным арэндай камор займаліся яўрэі. Існавалі нават прыклады субарэнды, што не за-

баранялася княжымі граматамі. Паказальна, што за значныя поспехі ў арганізацыі працы мытных камор адзін з арандатараў-габрэяў Абрам Езыфовіч, які прыняў каталіцтва, стаў у 1509 г. падскарбіем земскім і займаў гэты пост да сваёй смерці ў 1519 г. [18, с. 77 – 78].

Неаднаразова князямі прадпрымаліся спробы абмежаваць правы арандатараў і наогул адмовіцца ад практыкі сдачы мытных камор у арэнду. Пры Аляксандру падобныя спробы пацярпелі фіяска. Пры Жыгімонце Старым гэтыя спробы прадпрымаліся А. Езафовічам і Бонай Сфорцай, што правяла ў 1530 – 40-х гг. цэлую мытную рэформу. У прыватнасці, пры каралеве Боне ўсе мытныя зборы былі перададзеныя ў рукі даверанных шляхцічаў і прадстаўнікоў гарадоў, непасрэдна падпарадкаваных падскарбію. Габрэі ж наогул былі адхіленыя ад мытных арэнд, а колькасць мытняў узрасла ў 3 разы [2, с. 327; 18, с. 71].

У пачатку XVI ст. адбываюцца значныя змены і ў мытным заканадаўстве. З увядзеннем у дзеянне статутаў ВКЛ пачалося рэгуляванне праваадносін у мытнай справе на ўзроўні канстытуцыйных норм. У артыкуле 21 першага раздзела Статута ВКЛ 1529 г. уводзілася забарона на ўводзіны новых мытаў у межах княства, акрамя тых, што ўсталяваныя князем або яго продкамі. Санкцыяй за парушэнне дадзенага артыкула аб'яўлялася канфіскацыя маёнтка [15, с. 146].

Для сярэдзіны XVI ст. характэрна барацьба шляхты за адстойванне і пашырэнне сваіх правоў у пытаннях арганізацыі мытнай справы. У прыватнасці, шляхта неаднаразова паднімала пытанне аб размяшчэнні на сваіх землях і ў маёнтках мытных устаноў, лічачы, што яны ўшчамляюць іх правы і прыносяць «шкоду». Але вялікі князь адхіляў такія звароты ў 1544 і 1551 гг. [1, с. 28; 9, с. 119]. Таксама на сойме 1551 г. шляхта княства спрабавала дамагчыся права бязмытна вывозіць уласныя лясныя тавары [1, с. 29]. Але толькі ў 1559 г. шляхта атрымала магчымасць вывозіць без выплаты мыта прадукты ўласнай вытворчасці (збожжа і тавары лясныя). Пры гэтым для вызначэння паходжання тавара досыць было вуснага дэкларавання [1, с. 98].

Такім чынам, у XIII – першай палове XVI стст. адбывалася станаўленне мытнай справы на беларускіх землях, якая мела свае адметнасці ў параўнанні з іншымі перыядамі гісторыі. У гэты час была арганізавана больш-менш цэнтралізаваная сістэма мытных плацяжоў, створана адпаведная інфраструктура і справаводчая дакументацыя, закладзены юрыдычны падмурак далейшага развіцця і эвалюцыі мытнай справы Беларусі. Адначасова назіраўся працэс пашырэння мытных ільгот, што асабліва праявілася ў другой палове XVI ст.



*Літаратура і крыніцы*

1. Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные археографической комиссией. – С. -Петербург : Тип. Э. Праца, 1848. – Т. 3: 1544 – 1587 гг. – 318 с.
2. Астрога, В. Мытная справа // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя: у 2 т. / Рэдкал. Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск : БелЭн, 2006. – Т. 2. – С. 327 – 329.
3. Гісторыя Беларусі: у 6 т. : Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага / Рэдкал. : М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. – Мінск : Экаперспектыва, 2008. – Т. 2. – 688 с.
4. Законодательные акты Великого княжества Литовского XV – XVI вв. : сб. материалов / сост. И. И. Яковкин. – Ленинград : Гос. соц. -экономич. изд-во, 1936. – 158 с.
5. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской / Под ред. Д. И. Довгялло. – Витебск : Тип. Бр. Подземских, 1906. – Выпуск 32. Кн. 1 – 290 с.
6. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской / Под ред. Д. И. Довгялло. – Витебск : Тип. Бр. Подземских, 1906. – Выпуск 32. Кн. 2 – 292 с.
7. Копысский, З. Ю. Из истории общественно-политической жизни городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII вв. / З. Ю. Копысский // Труды Института истории Академии наук БССР : сб. статей. – Минск, 1958. – Выпуск 3. – С. 15 – 46.
8. Лаппо, И. И. Великое княжество Литовское за время отъ заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569 – 1586 гг.) : опыт исследования политическаго и общественнаго строя / И. И. Лаппо. – С. -Петербург : Тип. И. Н. Скороходова, 1901. – Т. 1. – 780 с.
9. Литовская метрика : отделы первый-второй. Ч. 1. Книги публичныхъ делъ. – Юрьев : Тип. К. Маттисена, 1916. – Т. 1. – 895 с.
10. Марков, Л. Н. Очерки по истории таможенной службы / Л. Н. Марков. – Иркутск : Изд-во Иркутск. ун-та, 1987. – 160 с.
11. Мелешко, В. И. О торговле и торговых связях Могилева / В. И. Мелешко // Труды Института истории Академии наук БССР : сб. статей. – Минск, 1958. – Выпуск 3. – С. 47 – 65.

12. Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 28 (1522-1552 гг.) : Кніга запісаў № 28 / падрыхтавалі В. Мянжынскі, У. Свяжынскі. — Мінск : ATHENAEUM, 2000. — 312 с.
13. Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 30 (1480—1546 гг.): Кніга запісаў № 30 (Копія канца XVI ст.) / падрыхтаваў В. С. Мянжынскі. — Мінск : Беларус. навука, 2008. — 386 с.
14. Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 46 (1562-1565 гг.): Кніга запісаў № 46 (копія канца XVI ст.) / падрыхтаваў В. С. Мянжынскі. — Мінск : БелЭн, 2006. — 280 с.
15. Первый Литовский Статут (1529 г.) = Pirmasis Lietuvos Statutas (1529 m.) / С. Лазутка, И. Валиконите, Э. Гудавичюс. — Vilnius : Margi raštai, 2004. — 525 p.
16. Пичета, В. И. Литовско-русское государство / В. И. Пичета // Русская история в очерках и статьях / Под ред. М. В. Довнар-Запольского: в 2 т. — Москва : Моск. учебн. книгоиздательство, 1908. — Т. 2. — С. 337 — 439.
17. Сапунов, А. Река Западная Двина : историко-географический обзор / А. Сапунов. — Витебск : Тип. Г. А. Малкина, 1893. — 512 с.
18. Саяпин, В. Ю. Таможенная служба : в 2 кн. / В. Ю. Саяпин. — Гродно : Гродн. тип., 2005. — Кн. 1. Мыто и мытники. — 400 с.

**А. М. Кушнярэвіч (Мінск)**

## ФАРТЫФІКАЦЫЙНЫ ФЕНОМЕН ВІЦЕБСКАГА ВЕРХНЯГА ЗАМКА

Будаўніцтву Верхняга замка ў Віцебску папярэднічаў дынастычны шлюб, калі ў 1318 г. сын Гедыміна Альгерд ажаніўся з мясцовай князёўнай Марыяй Яраслаўнай, дачкой апошняга віцебскага ўдзельнага князя. Праз два гады Яраслаў памёр, і Альгерд на правах спадчыны далучыў Віцебск і княства да дзяржавы свайго бацькі. З гэтага часу на горад ускладаецца вялікая стратэгічная роля ва ўсходняй палітыцы Вялікага княства Літоўскага. Па гэтай прычыне Альгерд на



пачатку 30-х гг. XIV ст. пачаў будаўніцтва мураваных умацаванняў [15, с. 5].

Замак быў узведзены з валуноў на вапнава-пясчанай рошчыне, а ў завяршэнні сцен, падобна як у Лідскім і Крэўскім замках, была выкарыстана цагляная муроўка. На гэтым жа ўзроўні на кансольных бэльках размяшчалася галерэя насценнага бою.

Планіровачная структура замка акруглых абрысаў у асноўным захоўвала канфігурацыю былога дзядзінца, па перыметры вала якога была ўзведзена мураваная абарончая сцяна, апушчаная ў яго на глыбіню 0,5 м [15, с. 7—8]. Цікава, як такая навальная мураваная канструкцыя, да таго ж з неглыбокімі падмуркамі, магла прастаяць крыху больш двух стагоддзяў. Відаць, трываласць ёй забяспечыў унутраны драўляны каркас абарончага вала, выяўлены падчас археалагічных даследаванняў [15, с. 20].

Аснову магутнасці замка складалі восем мураваных шматярусных вежаў, і ў іх ліку «Вялікая брама» з боку Ніжняга замка, брама да Дзвіны і «Малая брама» да Віцьбы. Памеры вежаў у аснаванні складалі 7 х 7 і 8,8 х 8,8 м. Таўшчыня сцен ля падэшвы была 3 м, працягласць каля 688 м. У выніку Віцебскі замак уяўляў магутны абарончы комплекс, зафіксаваны на старонках пісьмовых крыніц ужо ў канцы XIV ст. Так, у гістарычна-геаграфічным творы гэтага часу «Спіс рускіх гарадоў, далёкіх і блізкіх», які, відаць, быў складзены ў канцылярыі мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі Кіпрыяна, сказана: «Видбеск, 3 стены камены, а река Видба и Двина» [8, с. 623]. У сувязі з гэтым апісаннем Віцебска М. А. Ткачоў адзначыў, што «эти три стены были ничем иным, как стенами каменного Верхнего замка и стеной примкнутого к нему каменного Нижнего замка, существование которого установлено археологическими раскопками» [14, с. 120—121]. Аднак больш праўдападобным тлумачэннем згаданых пісьмовых звестак з'яўляецца меркаванне Л. В. Калядзінскага, які адзначыў, што «первой стеной обороны была линия укреплений Нижнего замка, второй — линия укреплений Верхнего замка, а третьей являлась линия укреплений, проходящая по краю площадки Замковой горы с ее напольной стороны» [5, с. 8].

Паводле польскага гісторыка М. Стрыйкоўскага, у Віцебску «Альгерд умацаваў Верхні замак мураванай сцяной і вежамі і ўпрыгожыў яго палатамі» [19, с. 108]. Будаўніцтва замка было завершана ў 1351 г. яго другой жонкай Уллянай Цвярской. У сувязі з гэтым хроніка Літоўская і Жамойцкая адзначае, што «замак Витебский и

вежу змуравала Улиана княгиня, жона Олгердова, в небытности Олгерда, гды был на войне пруской, также и палац от Нижнего замку праве вспанялый велми, и муром округ обвела з баштами вынеслами и вежами» [16, с. 43]. Археалагічныя даследаванні пацвердзілі, што вежы Ніжняга замка таксама былі вынесены за перыметр абарончых сцен [2, с. 90]. Гэта дазваляла ў выпадку варожай аблогі весці не толькі франтальны, але і флангавы абстрэл прылеглай да замка тэрыторыі. Аналагічнае наватарскае размяшчэнне гэтага элемента аб'ёмнай кампазіцыі ўласціва і Княжацкай вежы Крэўскага замка першай паловы XIV ст. Такое кампазіцыйнае размяшчэнне вежаў сведчыць, што ў абарончым дойлідстве Вялікага княства Літоўскага першай паловы XIV ст. быў выпрацаваны новы фартыфікацыйны прыём, бо ў Цэнтральнай і Паўночнай Еўропе вежы, прыстасаваныя да флангавай абароны, з'явіліся толькі ў апошняй чвэрці XIV — пачатку XV стст. з распаўсюджваннем агнястрэльнай зброі [17, с. 324; 18, с. 54], хаця ў другой палове XIV ст. гэта сістэма абароны ўжо складвалася ў ваенным дойлідстве Паўночна-Усходняй Русі. На думку вядомага даследчыка старажытнарускага абарончага дойлідства А. М. Кірпічнікава, у гэты час сапраўды пашырылася выкарыстанне агнястрэльнай зброі, аднак з упэўненасцю можна сцвярджаць, што першыя найбольш значныя пераўтварэнні ў сярэднявечным мілітарным дойлідстве наступілі яшчэ задоўга да таго, як агнястрэльная зброя зрабіла пераварот у ваеннай справе [4, с. 164].

У хроніцы Літоўскай і Жамойцкай прыцягвае ўвагу і паведамленне аб тым, што княгіня Улляна «змуравала вежу» у Віцебскім замку. Па нашаму меркаванню, пад згаданай пабудовай маецца на ўвазе асобна пастаўленая, відаць, побач з палацам («палатамі»), абарончая вежа тыпу германскага бергфрыду. Такія вежы атрымалі шырокае распаўсюджванне ў абарончым дойлідстве XII—XIII стст. краін Цэнтральнай, Паўночнай Еўропы, Скандынавіі, Прыбалтыкі [7, с. 54—60]. У польскай архітэктуры разглядаюцца пад назвай «вежа апошняй абароны» [18, с. 37]. У беларускім мураваным дойлідстве другой паловы XIII ст. такія ўмацаванні вядомы як вежы валынскага тыпу (Гродна, Камянец, Тураў, Брэст) [14, с. 9—12]. У адрозненне ад англійскіх і французскіх данжонаў, якія пачалі будаваць у канцы X — пачатку XI ст., галоўная вежа германскіх замкаў (Bergfried) была цалкам пазбаўлена жылой і рэзідэнцыянальнай функцый. У выпадку захопу замка гэта вежа служыла яго ўладальніку і абаронцам апошнім прытулкам, дзе яны маглі схавацца, уцягнуўшы за сабою драбіны, і чакаць дапамогі. Уваход у такую вежу звычайна знаходзіўся на ўзроўні другога альбо трэцяга паверхаў. Архітэктурны сілуэт бергфрыда быў больш стройны, чым у данжона [7, с. 57]. Аналагічныя бергфрыдам вежы ўзводзілі ў другой палове XIII ст. на Валыні (Белавіна, Стоўп'е, Холм, Спас і інш.) [9]. Такія ж адзіночныя абарончыя вежы ў XIV ст. меліся і ў землях Паўночна-Заходняй Русі: Пскоў, Ізборск, Арэхаў, Карэла [4, с. 56— 97]. Таму згаданыя летапісныя паведамленні дазваляюць сцвярджаць на акрэсленым архітэктурным фоне, што ў віцебскім Верхнім замку таксама мелася абарончая вежа тыпу бергфрыда.



У другой палове XVI — першай палове XVII стст. у выніку ранейшых шматлікіх ваенных дзеянняў, пажараў, рамонтаў [1, с. 9—10; 11, с. 151—154; 15, с. 6—8] мураваныя ўмацаванні віцебскага замка паступова трансфармаваліся ў драўляныя, якімі яны пазначаны на чарцяжы 1664 г. [12, с. 8—11; 13, с. 6—27]. У гэты час некаторыя драўляныя вежы стаялі на рэштках ранейшых аналагічных мураваных элементаў аб'ёмнай кампазіцыі замка.

Апісанне віцебскіх абарончых умацаванняў гэтага часу пакінуў польскі гісторык Аляксандр Гваньіні, які ўдзельнічаў у Інфлянцкай вайне 1558—1582 гг., і пэўны час быў камендантам Віцебска, займаўся рамонтам і ўзвядзеннем гарадской фартыфікацыі [3, с. 518]. У прыватнасці, ён адзначыў: «у Віцебску ёсць два вельмі прасторныя і, дзякуючы свайму размяшчэнню, вельмі ўмацаваныя замкі; адзін з іх, які знаходзіцца на раўніне і прасторам роўны гораду, называецца Ніжнім замкам; другі, Верхні замак, стаіць на даволі абшырным узвышшы. Абодва гэтыя замкі ўмацаваны баштамі і сценамі, пабудаванымі з дубу і напоўненымі зямлёю, ды каменнем» [11, с. 155].

Такім чынам, у Віцебску у першай палове XIV ст. быў створаны своеасаблівы фартыфікацыйны феномен у выглядзе замкавых вежаў, прыстасаваных не толькі для франтальнай, але і флангавай абароны. Гэта сведчыць аб тым, што горад меў вельмі вопытных будаўнікоў-фартыфікатараў у дадзены час і адыграў вялікую ролю ў развіцці абарончага дойлідства Вялікага княства Літоўскага, майстры якога часам нават апярэджвалі развіццё еўрапейскай фартыфікацыйнай думкі.

*Літаратура і крыніцы*

1. Брэжго, В. Замкі Віцебшчыны / В. Брэжго. — Вільня, 1933.
2. Бубенько, Т. С. Нижний замок — экономический центр Витебска XIV— XVIII вв. / Т. С. Бубенько // Castrum, urbis et bellum. — Баранавічы, 2002. — С. 90 — 117.

3. Грыцкевіч, А. Гваньіні Аляксандр / А. Грыцкевіч // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. — Мінск, 2005. — Т. 1. — С. 518.
4. Кирпичников, А. Н. Каменные крепости Новгородской земли / А. Н. Кирпичников. — Ленинград, 1984.
5. Колединский, Л. В. Верхний замок Витебска в XI — XVII вв. : Автореф. дис. ... канд. ист. наук / Л. В. Колединский. — Минск, 1991. — 35 с.
6. Левко, О. Н. Витебск XIV — XVIII вв. / О. Н. Левко — Минск, 1984.
7. Макараў, М. Да пытання выкарыстання тэрміну «данжон» (donjon) у беларускай гістарычнай літаратуры / М. Макараў // Гістарычны альманах : Навук. -гіст. і краяз. часопіс. — 2001. — Т. 5. — С. 54 — 67.
8. Пазднякоў, В. «Спіс рускіх гарадоў, далёкіх і блізкіх» / В. Пазднякоў // Вялікае княства Літоўскае : Энцыклапедыя. — Мінск, 2006. — Т. 2. — С. 623.
9. Раппопорт, П. А. Волынские башни / П. А. Раппопорт // Материалы и исслед. по археологии. — Москва, 1952. — Вып. 31. — С. 202 — 223.
10. Раппопорт, П. А. Военное зодчество западнорусских земель X — XIV вв. / П. А. Раппопорт // Материалы и исследования по археологии СССР. — Ленинград, 1967. — Вып. 140.
11. Сапунов, А. Исторические сведения о Витебским замке / А. П. Сапунов // Памятная книжка Витебской губернии на 1881 г. — Витебск, 1881. — С. 113 — 176.
12. Сапунов, А. К плану г. Витебска // Памятная книжка Витебской губернии на 1905 г. — Витебск, 1904. — С. 8 — 11.
13. Сапунов, А. «Чертеж» гор. Витебска 1664 года / А. П. Сапунов. — Витебск, 1910. — С. 6 — 27.
14. Ткачев, М. А. Замки Белоруссии / М. А. Ткачев. — Минск, 1987.
15. Цішкін, І. А. Віцебскія замкі / І. А. Цішкін. — Віцебск, 2003.
16. Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца / Сост. и автор предисл. Н. Н. Улащик. — Москва : Наука, 1975. — Т. 32. — (Полное собрание русских летописей).
17. Domańska, H. Z. Badańia nad problemem przystosowania zamków Pomorza Wschodniego do broni palnej w latach 1390 — 1520 / H. Z. Domańska // Kwartalnik architektury i urbanistyki. — 1976. — R. XXI. — Z. 4. — S. 321 — 326.



18. Guerquin, B. Zamki w Polsce / B. Guerquin. — Warszawa, 1974.
19. Stryjkowski, M. Kronika Polska, Litewska, Zmódzka i wszystkiej Rusi / M. Stryjkowski. — Warszawa, 1848. — T. 2.

**В. В. Урублеўскі, З. Л. Яцкевіч (Мінск)**

# ВІЦЕБСКІ МАГІСТРАТ У КАНЦЫ XVI — XVIII стст.

Першая пісьмовая згадка пра Віцебск паводле мясцовага летапісу XVIII ст. датуецца 974 г., калі ён належаў кіеўскім князям. З 1021 г. у Полацкім княстве, затым, з 1101 г., цэнтр самастойнага княства. У 1318 г. увайшоў у склад ВКЛ. Згодна прывілею вялікага князя Вітаўта, нададзенаму гораду ў 1390-я гг., пацвярджаліся пэўныя нормы мясцовага права, якія ўзыходзілі да дамоваў паміж горадам і князем. У 1444 г. паводле прывілея вялікага князя ВКЛ Казіміра Ягелончыка (з 1447 кароль польскі Казімір IV) горад атрымаў права на абмежаванае самакіраванне, у тым ліку права суда, згодна з магдэбургскімі законамі, права свабоднага гандлю ў межах Вялікага княства Літоўскага. Устаўная грамата 1447 г. давала дадатковыя ільготы мяшчанам, што сведчыла пра рост уплыву гараджан у палітычным жыцці дзяржавы. Прывілеі, нададзеныя Віцебску ў XV ст., садзейнічалі эканамічнаму росквіту горада: павялічылася колькасць гарадскога насельніцтва, адзначалася далейшае паглыбленне спецыялізацыі рамяства і ўзнікненне рамесніцкіх аб'яднанняў, пашыраліся гандлёвыя сувязі віцебскага купецтва, паскорылася абарачэнне тавараў.

Прывілей віцебскім баярам і мяшчанам «на некаторыя правы і вольнасці іх», нададзены вялікім князем ВКЛ і каралём польскім Аляксандрам 16 ліпеня 1503 г., быў пацверджаннем папярэдняга прывілея 1444 г. Казіміра IV. Ён гарантаваў недатыкальнасць зямельных уладанняў шляхты і мяшчан горада і Віцебскай зямлі: «<...> штож нам в домы церковныи, <...> в иные церкви не вступатися; и в купленины, которыи будут куплены с нашим дозволенiем, и в безотчины и в отмерщины Витебскiи теж не маем вступатися <...>» [20, с. 59].

Пацвярджальны прывілей, нададзены Віцебскай зямлі Жыгімонтам Старым у 1509 г., як і папярэднія, адрасаваўся «всим князем, боярам і слугам витебским, войту и мещаном места тамошнего, и всей земле Витебской» [2, с. 63]. Віцебскія баяры выкарысталі сваё «больш упрывілеяванае» становішча, замацаванае прывілеямі, і пачалі «подданых своих похожих на тых пляцах осаживать».

Незадаволеныя дзеяннямі князёў і баяраў, войт і мяшчане, звярнуліся да вялікага князя са скаргамі. Жыгімонт Аўгуст разгледзеў іх і пацвердзіў перададзеную мяшчанам у 1541 г. копію старажытнага земскага прывілея, чым надаў ёй сілу юрыдычнага дакумента. Такім чынам, 6 чэрвеня 1561 г. віцебскія мяшчане атрымалі свой першы прывілей, які фармальна «ўраўнаваў» іх у правах з князямі і баярамі віцебскай зямлі [6, с. 84].

Гэта прадвызначыла канчатковы падзел грамадства на дзве асобныя сацыяльныя катэгорыі — князёў і баяр, якія карысталіся нормамі земскага (шляхецкага) права, замацаванага прывілеем Аляксандра за 1503 г., і мяшчан, якія карысталіся нормамі мясцовага права 1561 г.

Наступным крокам у развіцці грамадскай сістэмы праваадносін у віцебскай зямлі з'яўлялася наданне магдэбургскага права Віцебску ў 1597 г.

17 сакавіка 1597 г. вялікі князь ВКЛ і кароль польскі Жыгімонт III Ваза падпісаў прывілей, паводле якога Віцебск атрымаў магдэбургскае права. Прывілей на магдэбургскае права гораду Віцебску публікаваўся ў якасці перакладa ў I томе «Витебской старины» (1883) [1], у гісторыка-дакументальнай хроніцы «Памяць» па гор. Віцебску (2003) [20, с. 68 — 72], I томе «Актов, относящихся к истории Западной России» (1863) [1].

У пачатку прывілея падаецца стандартная тытулатура караля Жыгімонта III Вазы: «Божьею милостью король Польскій, великій князь Літовскій, Русскій, Прусскій, Жомойдскій, Мазовецкій, Інфлянцкій, Кготски, Вандалски дедычны король». Прывілей надаецца «славутым мяшчанам конным пасельскім і ўсяму паспольству места Віцебска» [20, с. 68]. У аснове гэтага раздзялення месцічаў на дзве катэгорыі ляжаў прынцып падзелу віцебскіх мяшчан на тых, хто са сваіх маёнткаў выстаўляў вершнікаў, і на тых, хто займаўся выключна мейскімі заняткамі, у асноўным рамесніцтвам, не валодаючы пры гэтым зямлёй [6, с. 101 — 102]. Адной з прычын надання Віцебску магдэбургскага права з'яўляецца канфліктная сітуацыя паміж дадзенымі



групоўкамі мяшчан, што пачала распальвацца пасля надання конным мяшчанам шэрагу выключна шляхецкіх правоў прывілеем ад 20 красавіка 1589 г. Працягу канфлікту паміж мяшчанамі, а таксама ўціску ў іх правы ваяводскай адміністрацыяй, можна было пазбегнуць шляхам аб'яднання абодвух катэгорый і выхадам горада з-пад апекі ваяводы. Паводле прывілея віцебскія мяшчане вызваляліся ад «всякое юриздикцыи и моцы судов головных трибунальных, также з моцы всих воевод Витебских из моцы иншых всяких воевод, каштелянов, старост, державцов, врядов земских и инших преложоных и децких выймуем и вылучаем и вечне вызволяем» [1].

Агаворвалася і значнае стратэгічнае, памежнае становішча горада, падтрымка з боку якога падчас вайсковай кампаніі была вельмі неабходнай і істотнай. Гораду былі нададзены герб з выявай Спаса Збавіцеля ў блакітным полі і чырвоным мечам унізе, харугва (сцяг), пячатка, права штогодняга кірмашу, дазвалялася пабудаваць ратушу і гасцінны двор.

З часу ўвядзення магдэбургскага права эканамічная дзейнасць гараджан, маёмасныя правы, грамадска-палітычнае жыццё, саслоўнае становішча пачалі рэгулявацца новай сістэмай юрыдычных норм.

Найбольш поўна сацыяльна-прававая адметнасць гарадоў у параўнанні з іншымі населенымі пунктамі выявілася ў атрыманні шэрагу мест самакіравання. У некаторых гарадах яно нейкі час развівалася на базе старажытнай вечавай арганізацыі. Аднак з канца XVI ст. распаўсюджанне атрымлівае самакіраванне, арганізаванае на ўзор кіравання ў нямецкім горадзе Магдэбургу.

Органам самакіравання ў гарадах з'яўляўся магістрат, які меў распарадчую, выканаўчую, натарыяльную і судовую функцыі. На чале яго знаходзіўся войт, прызначаны вялікім князем «з народу шляхетского, веры хрістіанской і повшехной» [1]. Войт, у сваю чаргу, зацвярджаў абранае мяшчанамі («паспольствам») кола абраныхураднікаў. У яго абавязкі таксама ўваходзіла: прадстаўленне горада перад дзяржаўнымі структурамі і ўладай, разгляд крымінальных спраў, прэтэнзій мяшчан да феадалаў і іх падданых. Першапачаткова ў Віцебску абавязкі войта падчас яго адсутнасці выконваў лентвойт, які прызначаўся войтам з ліку асоб, што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй віцебскага магістрата. Гэта прасочваецца на прыкладзе першага лентвойта, віцебскага мешчаніна Захарыя Ваўка. Крыніцы не падаюць інфармацыі адносна таго, хто з'яўляўся лентвойтам

у XVII ст. — першай палове XVIII ст. У сярэдзіне XVIII ст. гэтыя абавязкі ўжо выконвалі прадстаўнікі шляхецкага звання.

Магістрат складаўся з рады і лавы. Рада ажыццяўляла функцыі гарадской улады, збор падаткаў, арганізацыю выбараў, адказвала за гарадскія даходы і зямельныя ўчасткі, наглядала за гандлем, усталёўвала кошт на тавары, у прыватнасці на хлеб. Лава — судовы орган па крымінальных справах гараджан на чале з войтам. У гарадскую раду выбіраліся бурмістры і райцы, у лаву — лаўнікі. Прывілеем на магдэбургскае права абавязкі бурмістраў, радцаў і лаўнікаў не былі агавораны, не захаваліся і іншыя устаўныя дакументы, якія маглі рэгламентаваць іх.

Бурмістры выбіраліся з ліку заможных вярхоў гарадскога (мяшчанскага) насельніцтва — купецтва, цэхмістраў. Зважаючы на тое, што ў Віцебску з 1597 па 1598 г. ураднікі цалкам змяніліся, можна зрабіць выснову аб выбарнасці пасады бурмістра, а таксама радцаў і лаўнікаў на тэрмін у 1 год. Верагодна, з цягам часу ўсталяваўся прынцып справаздачы бурмістраў на агульным сходзе гараджан. У іх абавязак уваходзіла: загадванне гарадской скарбніцай, старшынства на пасяджэннях бурмістраўска-радзецкага суда, які разбіраў маёмасныя спрэчкі, нязначныя правапарушэнні мяшчан, цяжбы купцоў і рамеснікаў.

Радцы з'яўляліся дарадчыкамі бурмістраў. У сваёй дзейнасці кіраваліся нормамі магдэбургскага права, а таксама мясцовага права і Статутаў ВКЛ 1529, 1566, 1588 гг., ранейшымі прывілеямі віцебскім мяшчанам. Лаўнікі з'яўляліся сябрамі лавы, разглядалі крымінальныя справы. Акрамя гэтага яны ажыццяўлялі і ўвод ва ўладанне нерухомасцю.

У абавязкі пісараў уваходзіла: афармленне гарадскіх спраў у пісьмовай форме, складанне і перапісванне афіцыйных папер, выдача копій і г. д. Іх пасада лічылася прысяжнай, і яны не мелі права голасу. Яны былі абавязаны засядаць на пасяджэннях (сесіях і судах), запісваць і перапісваць справы, ухвалы, дэкрэты, сачыць за адпаведнасцю іх статуса заканадаўчым актам. Пісары павінны былі добра ведаць беларускую, польскую, нямецкую і лацінскую мовы. Пад іх кіраўніцтвам вялося ўсё гарадское справаводства, актыкаваліся і выдаваліся дакументы [23, с. 146 — 147]. На сённяшні момант інфармацыі аб пісарах віцебскага магістрата не адшукана, апроч нешматлікіх урыўкавых звестак. Так, вядома імя пісара Яфімкі Седукова, што пазначаны ў так званай «Сметнай кнізе» (апісальнай кнізе) горада Віцебска за 1655 г., дзе даецца пералік прадстаўнікоў дарослага мужчынскага насельніцтва горада [3]. Пісарам мейскім віцебскім 22. 10. 1743 і 16. 02. 1745 называецца Базыль Юзаф Чаркоўскі [8, арк. 13 адв., 46].



Інфармацыю аб ураднiках прадстаўляюць і матэрыялы земскага (за 1594 — 1772 гг.) суда Віцебска, фонды якіх маюцца на захаванні ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі (НГАБ). У судовых справах дастаткова часта праходзяць ураднікі віцебскага магістрата, што дазваляе падрабязней зазірнуць у маёмасныя і сямейныя справы, вызначыць сацыяльны статус, прасачыць пэўныя аспекты кар'ернага росту.

Звесткі аб віцебскіх войтах, пачынаючы з канца XVI — па сярэдзіну XVII стст., сабраны пераважна на падставе дакументаў НГАБ, а менавіта матэрыялаў фонда таго ж Віцебскага земскага суда і калекцыі мікрафільмаў №18 пад назвай «Літоўская метрыка (архіў канцылярыі ВКЛ)». Пэўную інфармацыю падае і «Кніга прывілееў места Віцебска», што маецца на захоўванні ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі [4]. Яна змяшчае пералік ваявод віцебскіх, якія адначасова, пачынаючы з Яна Завішы, займалі і пасаду віцебскага войта.

Паводле прывілею на магдэбургскае права першым войтам 17 сакавіка 1597 г. быў прызначаны зямянін Віцебскага павета Юры Багданавіч Ляцецкі. Аднак паводле Віцебскага летапісу войтам называецца Аляксандр Корвін-Гасеўскі (у адным з дакументаў пазначаны як Сугосаў[a]) гербу «Слепаўрон», каралеўскі сакратар. Дадзеную інфармацыю можна лічыць памылковай, бо Гасеўскі атрымаў войтаўства ад Жыгімонта Вазы толькі ў маі 1598 г., пасля таго, як гэтай пасады быў пазбаўлены Ляцецкі [7, арк. 156 — 157].

Пасада войта ў горадзе была даходнай і ганаровай, а таксама дазваляла ўрадніку дастаткова часта адсутнічаць у горадзе, перакладваючы абавязкі па яго кіраванні на лентвойта. У канцы XVI — пачатку XVII стст. лентвойтамі абіраліся прадстаўнікі мясцовай знаці з ліку мяшчан, пра што сведчыць спіс асоб, першымі абраных у ратушу пасля атрымання Віцебскам магдэбургскага права [1, с. 473].

Ян Андрэевіч Завіша, ваявода віцебскі і староста суражскі ў 1599 — 1626 гг., 15 лютага 1603 г. атрымаў ад Жыгімонта Вазы «пажыццёвы» прывілей на віцебскае войтаўства [16, арк. 216 адв.]. 11 снежня са згоды караля ён перадаў войтаўства свайму сыну Мікалаю

[a] *Магчыма, гэта прозвішча змяшчае згадку на паходжанне Гасеўскага «су Госаў», што з'яўлялася прыдомкам.*

[17, арк. 213 — 214]. Верагодна, даходнасць пасады войта дадаткова ўплывала на статус сям'і ў феадальнай іерархіі, чым і тлумачыцца такая з'ява. Затым войтамі віцебскімі рабіліся ваяводы віцебскія Сямён Самуэль Сангушка ў 1632 — 1638 гг. [18, арк. 202 — 202 адв.], Крыштаф Станіслаў Кішка ў 1639 — 1646 гг. [19, арк. 108]. Верагодна, у другой палове XVII — першай палове XVIII стст. такая тэндэнцыя захоўвалася. Таму віцебскімі войтамі станавіліся віцебскія ваяводы: Павел Ян Сапега (1646 — 1656 гг.), УладзіслаўВаловіч (1656 — 1668), Ян Антоні Храпавіцкі (1669 — 1685), Леанард Габрыэль Пацей (1686 — 1695), Андрэй Казімір Крышпін-Кіршэнштэйн (1695 — 1704), Казімір Аляксандр Пацей (1705 — 1728).

З 1730 г. да моманту сваёй смерці, 29. 10. 1750, абедзве гэтыя пасады займаў Марцыян Міхал з Казельска Агінскі (1672 — 1750), староста барысаўскі, правальскі, бабінавіцкі, вайгаўскі, палкоўнік каралеўскіх войск. У якасці лентвойтаў за гэты год называюцца скарбнік Антоні Пяра (са студзеня па чэрвень 1750 г.) і крайчы менскі Сымон Эдвард Тадэвуш Мількевіч (з чэрвеня па канец 1750 г.). У часы лентвойтаўства Пяры яго абавязкі некалькі разоў выконваў віцэ-лентвойт (намеснік лентвойта) Габрыэль Аскерка [10, арк. 28, 32]. У чэрвені 1761 г. віцэ-лентвойтам і бурмістрам магістрату называецца Тамаш Лоўрэнс [12, арк. 154 — 155 адв.].

Пасля смерці Агінскага на пасадзе ваяводы ў 1752 г. знаходзіўся Юзаф Антоні з Давойнаў Салагуб гербу «Праўдзіч» (1709 — 1781), староста эйшышскі і санніцкі, кавалер ордэну Белага арла, палкоўнік каралеўскіх войск. Упершыню віцебскім войтам ён называецца 10 лютага 1753 г. [8, арк. 102]. Лентвойтам працягвае з'яўляцца С. Мількевіч, які ў дакуменце ад 16 красавіка 1753 г. ужо называецца «лоўчым ваяводства» [8, арк. 108], а ў дакуменце ад 11 лютага 1754 г. — «лоўчым ваяводства і суддзёй памежным» [8, арк. 114].

Пасля надання Віцебску магдэбургскага права войтаўства стала аб'ектам грамадзянскіх праваадносін. Яно магло прадавацца і перадавацца ў іншыя рукі прадстаўнікамі шляхецкага саслоўя, якія знаходзіліся на гэтай пасадзе. Так, Юзаф Салагуб 9 мая 1765 г. з дазволу караля саступіў магдэбургскае войтаўства свайму пляменніку Яну Салагубу [22, с. 158].

У прывілеі 17 сакавіка 1597 г. нічога не гаворыцца пра колькасць бурмістраў, райцаў і лаўнікаў. Аднак віцебскі летапіс паведамляе імёны чатырох бурмістраў (Іван Гаўрылавіч Клыга, Васіль Сымонавіч Веліжанін, Васіль Іллініч Танка, Іван Ісакавіч Андраноўскі), сямі радцаў (Канстанцін Фаміч Služакоўскі, Сяргей Пятровіч Зафатай, Лаўрын Ходкавіч Галуза, Міхайла Колес, Фёдар Сцяпанавіч Спіца, Восіп Гаўрылавіч Клыга, Якім Юр'евіч Шаўра), васьмі лаўнікаў (Кузьма Іванавіч Камоса, Багдан Якімавіч Пякуча, Фёдар Сымонавіч Вяртошка, Багдан Сыдзкевіч, Іван Гутар, Восіп Нічыпаравіч Шаўра, Іван Ісакавіч Самуйлаў, Даніла Грыгор'евіч Шулька) [2, с. 473]. Такім чынам, агульная колькасць ураднікаў магістрата складала 19 чалавек.



У тэксце скаргі Канстанціна Веліжскага на віцебскі магістрат, якая была ўпісана ў кнігі віцебскага земскага суда 8 студзеня 1598 г., згадваюцца 2 бурмістры (Васіль Сымонавіч Веліжанін, Васіль Іллініч Танкавіч), 6 райцаў (Багдан Якаўлевіч Гром, Астап Кандратовіч, Матфей Занкавіч Волкаў, Сымон Карпавіч Клыга, Сяргей Пятровіч Волзін, Іван Гаўрылавіч Клыга) і 6 лаўнікаў (Ёсіп Нікіпаравіч Ганчар, Іван Ісакавіч Самуйлаў, Лаўрын Ходкавіч Галузін, Кузьма Іванавіч Танкавіч-Камосін, Сцяпан Іванавіч Каза, Фёдар Сямёнавіч Цюткавіч-Міцяеў) [7, арк. 10 — 10 адв., 59 адв.]. Усяго 14 чалавек.

У выраку камісарскага суда па справе аб забойстве Іасафата Кунцэвіча, полацкага уніяцкага архіепіскапа, за 22. 01. 1624 г. згадваюцца імёны 5 бурмістраў (Васіль Боніч, Сямён Неша, Фёдар Сухарук, Фёдар Спіца, Пётр Іванавіч), 8 райцаў (Карп Харошка, Багдан Астаповіч, Багдан Сітковіч, Захар Чарноўскі, Грыгор Аўсеевіч, Міхайла Гарбун, Васіль Карабан, Іван Гутар), 8 лаўнікаў (Карп Васільевіч, Сямён Казёл, Багдан Сцяпанавіч, Ждан Шчур, Афанасі Воўк, Мікалай Гутар, Філон Нікіфаравіч, Грыгор Боніч) [2, с. 224]. Агульная колькасць — 21 чалавек.

У «Сметнай кнізе» Віцебска за 1655 г. згадваюцца 4 бурмістры (Агапей Васільеў, Мікалай Васільевіч Зюк, Сцяпан Пятроў, Мацвей Багданавіч Лытка), 5 райцаў (Якаў Фёдаравіч Спіца, Ісак Фёдаравіч Спіца, Мацвей Фёдаравіч Глушко, Грыгор Сямёнавіч Нейша, Філіп Фамін), 5 лаўнікаў (Багдан Юр'евіч Зюк, Васіль Юр'евіч Зюк, Канстанцін Мікалаевіч Сукавацік, Багдан Аляксеевіч Харытонаў, Іван Савіч Галуза), 1 пісар (Яфімка Седукоў) [3]. Агульная колькасць — 15 чалавек.

Як бачым, колькасць ураднікаў у віцебскім магістраце у прамежак часу з 1597 па 1655 г. не адрозніваецца асаблівай стабільнасцю, а вагаецца ў сярэднім ад 14 да 21 чалавека за год. З гэтага можна зрабіць выснову, што дакладна рэгламентаванай лічбы ўраднікаў віцебскага магістрата, верагодна, не было.

З актавых кніг віцебскага магістрата за сярэдзіну XVIII ст. вядомы таксама імёны 5 бурмістраў (Габрыэль Аверка (22. 10.

1743), Тамаш Астаховіч (26. 02. 1740), Мацей Галуза (05. 06. 1761), Тамаш Лоўрэнс (07. 12. 1752, 05. 06. 1761), Ян Шолнік (11. 01. 1750, 05. 02. 1759)), 4 райцаў (Аляксандр Бабурка (22. 10. 1743), Эліяш Боніч (10. 01. 1750, 29. 12. 1755), Базыль Запольскі (07. 12. 1752), Ян Лошка (07. 12. 1752)), 1 лаўніка (Андрэй Лошка) [8].

Недахоп крыніц не дазваляе вызначыць дакладнай колькасці ўраднікаў віцебскага магістрата, прадстаўнікоў рады і лавы, аднак на прыкладзе іншых гарадоў можна сцвярджаць аб выбарнасці бурмістраў, райцаў і лаўнікаў з ліку паспольства.

Дзейнасць магістрата спалучала разгляд крымінальных, грамадзянскіх, адміністрацыйных спраў, што адлюстравана ў актавых кнігах. Наогул актавая кніга — кніга, дзе актыкаваліся (запісваліся для надання юрыдычнай сілы) як дакументы натарыяльнага (тэстаменты, інтрамісіі, дарэнне, купля і г. д.), гаспадарча-фінансавага (інвентары, рэестры, рахункі, тарыфы), дзяржаўнага характару (прывілеі, універсалы, інструкцыі, пастановы), так і судовага (дэкрэты, скаргі, позвы, сазнанні і г. д.).

З дакументаў актавых кніг віцебскага магістрата відаць, што разгляд спраў праходзіў пры ўдзеле лентвойта (у рэдкіх выпадках войта), «бурмістраў, радцаў, лаўнікаў і цэлай рады магістрата Віцебска» ў гарадской ратушы. З гэтага вынікае, што пасяджэнні абодвух палат магістрату праводзіліся адначасова. Усе справы разглядаліся адным вышэй азначаным колам урадавых асоб. Архіў магістрата знаходзіўся ў гарадской ратушы.

Справаводства віцебскага магістрата XVIII ст. вялося на польскай мове. У актавых кнігах часта сустракаюцца і лацінізмы. Усе дакументы, прадстаўленыя ў матэрыялах віцебскага магістрата, з'яўляюцца арыгінальнымі. Арыгіналы можна падзяліць на чарнавыя і белавыя экзэмпляры. Чарнавыя экзэмпляры перапісваліся ў актавую кнігу ў чыстым, выпраўленым выглядзе, згодна з усталяванай формай і ўтваралі такім чынам белавыя. Запісаныя ў актавую кнігу дакументы пачыналі ўяўляюць сабой чыставікі, якія надзяляліся юрыдычнай сілай.

У фондзе «Віцебскі магістрат» НГАБ захоўваецца 7 спраў, што храналагічна ахопліваюць прамежак часу з 1740 па 1764 гг. і адносяцца да дзейнасці вышэй згаданай установы. Першая справа ўяўляе сабой пратаколы актыкацый і прызнанняў за перыяд з 26. 02. 1740 — 16. 03. 1764. Шэсць другіх кніг з'яўляюцца працэссавымі і рэляцыйнымі (1742 — 1744, 1750, 1760, 1761, 1763, 1764 гг.). Пасля кожнай з іх маюцца рэестры (спісы спраў) за адпаведныя гады.



Тэстамент уяўляе сабой прававы акт у выглядзе распараджэння, складзенага па вызначанай форме, у якім агаворваўся лёс асабістай маёмасці гаспадара на выпадак ягонай смерці. У фондзе «Віцебскі магістрат» маецца 11 тэстаментаў. З іх пэўную цікавасць маюць тэстаменты шляхетнага пана і радцы віцебскага Якуба Сухара ад 24 лютага 1754 г. [8, арк. 119 — 123], абозната павета ашмянскага Ваўрынца Геранiма Глембскага ад 18 лістапада 1757 г. [8, арк. 135 — 149 адв.], бурмістра віцебскага Юзафа Марковіча ад 23 сакавіка 1750 г. [10, арк. 42 — 43адв.], радцы віцебскага Ксаверыя Зафатая ад 30 кастрычніка 1760 г. [11, арк. 200 — 201 адв.]. Мае цікавасць і тэстамент бурмістра віцебскага Ігната Літвінкі ад 1 красавіка 1716 г., апублікаваны ў выпуску № 23 «Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў» (с. 115 — 128).

Дастаткова значнымі дакументамі гаспадарча-фінансавага характару можна лічыць інвентары. Сустракаюцца інвентары: на староства Рынскае [8, арк. 64 — 67], на староства Дворыцкае [8, арк. 103 — 105 адв.][b], на маётнасць Мільцэвічы [8, арк. 186 — 189 адв.], на вёску Ахоткава [9, арк. 117 — 118 адв.], на маёмасць Голедзь [9, арк. 670 — 675 адв.], на маёмасць Мядзеліны [10, арк. 13 — 14 адв.], на вёску Грахова паноў Кіршэнштэйнаў [12, арк. 34 — 35 адв.], на маёмасць Багамольцаў [13, арк. 38 — 39 адв.]. Аднак неабходна заўважыць, што яны не змяшчаюць колькі-небудзь значнай інфармацыі па гісторыі магістрату. Па дадзенай прабеме найбольш важнымі крыніцамі варта лічыць рахункавыя кнігі, якіх па Віцебску не захавалася.

Па палажэнні аб губернях 1775 г. у гарадах пачалі дзейнічаць гарадавыя магістраты, якія падпарадкоўваліся губернскаму магістрату. «В городах остаться имеют городовые магистраты, в оных присутствовать двум бургомистрам и четырем ратманам. Бургомистры и ратманы выбираются городовым купечеством и мещанством через всякие три года по баллам» [21]. Лагічна меркаваць, што пры віцебскім гарадавым магістраце маглі знаходзіцца і архіўныя дакументы папярэдняй аналагічнай установы.

Стварэнне Віцебскага цэнтральнага архіва (пачаў працу ў 1863 г.) прывяло да канцэнтрацыі ў яго сховах вялікай колькасці матэрыялаў, што датычыліся гісторыі Віцебскай і Магілёўскай губерняў да ўваходжання Беларусі ў склад Расійскай імперыі. У гэты шэраг уваходзіў і архіў віцебскага магістрата. Згодна з «Гісторыка-

[b] *З 19-ці вёсак, пералічаных у інвентары, сем лакалізуюцца ў межах Дварышчанскага с/с Расонскага р-на Віцебскай вобл.*

юрыдычнымі матэрыяламі» за 1871 г. у Віцебскім цэнтральным архіве захоўваліся 1823 актавыя кнігі, у т. л. 956 віцебскіх і 867 магілёўскіх. Па віцебскаму магістрату ў архіве захоўваліся 23 справы з храналагічнымі рамкамі ад 1740 да 1799 г. У 1890-х гг. усе матэрыялы Віцебскага цэнтральнага архіва былі перададзены ў Вільню.

У красавіку 1950 г. з Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Літоўскай ССР у Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР у г. Гродна паступіў фонд «Віцебскі магістрат» у памеры 25 адзінак захавання [15, арк. 1]. У 1951 г. была праведзена навукова-тэхнічная апрацоўка фонду: праведзена складанне загалоўкаў, сістэматызацыя, шыфроўка, інвентарызацыя, увязка звязак [15, арк. 3]. У траўні 1952 г. у Гродна паступіла 1 справа за 1740 г. [15, арк. 4]. У жніўні таго ж года — два вопісу фонду № 1592 («Віцебскі магістрат»), у памеры 4-х спраў за 1742—1761 гг. [15, арк. 5].

У 1964 г. у сувязі з утварэннем Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР у г. Мінску фонд быў перададзены туды ў колькасці 3 вопісаў, 30 спраў, за 1740 — 1805 гг. [15, арк. 10]. На 1 студзеня 1988 г. у фондзе 1805 «Віцебскі магістрат» мелася 30 спраў, улічаных па трох вопісах. Пасля апрацоўкі матэрыялаў фонду — 25 спраў (храналагічнымі рамкамі ад 1771 да 1799 г.) трапілі ў фонд «Віцебскага гарадовага магістрата» (ф. 2609). Пры дадатковым фандзіраванні з фонду віцебскага гарадавога магістрата паступіла 2 справы. Адну адзінку захавання склаў стары вопіс. У працэсе ўдасканальвання былі адрэдагаваны загалоўкі, пазначана мова дакументаў. На момант 10. 11. 1988 г. у фондзе 1805 налічваецца 1 вопіс, 8 адз. зах. за 1740 — 1764 гг. [15, арк. 11]. Дзве справы, што праходзяць па вопісу віцебскага магістрата за 1871 г. пад № 8 (1767 — 1777 гг.) і 10 (1750 — 1771 гг.), у вопісах ф. 1805 і ф. 2609 не значацца.

Археаграфічная апрацоўка і выданне віцебскіх старажытных крыніц упершыню здзейснены ў «Гісторыка-юрыдычных матэрыялах», якія выходзілі ў Віцебску ў 1871 — 1906 гг. Паводле агульнага вопісу актавых кніг судовых месцаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў за 1871 г. у Цэнтральным архіве Віцебска знаходзілася 151 справа віцебскіх павятовых устаноў за 1596 — 1799 гг. [5, с. 13 — 16]. У асноўным гэта матэрыялы земскага (60 спр.) і гродскага (31 спр.). Матэрыялы з актавых кніг Віцебскага гродскага суда апублікаваны ў выпусках «Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў»: № 23 за 1892 г. (с. 33 — 283), № 24 за 1893 г. (с. 77 — 255), № 25 за 1894 г. (с. 59 — 254). Матэрыялы з актавых кніг Віцебскага земскага суда апублікаваны ў выпусках: № 23 за 1892 г. (с. 287 — 326), № 24 за 1893 г. (с. 209 — 255), № 25 за 1894 г. (с. 149 — 254). Акрамя гэтага ў архіве знаходзіліся таксама 23 кнігі віцебскага магістрата за 1740 — 1799 гг.



Асноўным выданнем, дзе былі апублікаваны дакументы дзяржаўных устаноў Віцебска, у тым ліку магістрата, з'яўляецца «Віцебская старына», выданне віцебскага гісторыка і археографа А. П. Сапунова. Задумана яно было ў шасці тамах, але выйшла толькі тры (I, IV, V); праца над тамамі II і III вялася, але не была скончана. У I томе «Старыны» змешчаны матэрыялы па гісторыі Віцебшчыны з 1021 г. (першая летапісная згадка аб Віцебску) і да 1883 г. Дадзены том уключае разнастайныя інвентары (напрыклад, Полацкай архіепіскапіі за 1618 г. [2, с. 344] і інвентар Віцебскай эканоміі за 1698 г. [2, с. 431]), а таксама летапіс г. Віцебска, дзе публікуецца спіс першыхураднікаў, абраных у магістрат 17 сакавіка 1597 г. [2, с. 475]. У томе IV цікавасць прадстаўляе шэраг інвентароў, вельмі разнастайных па зместу. У «Сметнай кнізе» Віцебска за 1655 — 1656 гг. змяшчаецца спіс наяўных віцебскіх мяшчан-мужчын і дадзена апісанне гарадскіх умацаванняў. У «Перапісных кнігах» пералічаны шляхта, бурмістры, райцы, лаўнікі і сотнікі, што пражывалі ў горадзе [3, с. 302 — 314]. Том V не прадстаўляе асаблівай цікавасці для дадзенага даследавання, бо не змяшчае матэрыялаў па віцебскім магістраце і яго ўрадніках.

Значнай крыніцай, без якой немагчыма даследаванне дакументаў аб дзейнасці дзяржаўных устаноў, з'яўляецца «Геаграфічны паказальнік...» І. Я. Спрогіса да старажытных актавых кніг, што захоўваліся ў Віленскім архіве. Аднак інфармацыя па Віцебскім войтаўстве прадстаўлена ў паказальніку толькі адным дакументам, што захоўваецца, верагодна, у Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве (г. Вільня).

Падсумоўваючы вышэй згаданае, становіцца відавочным, што на сённяшні момант гісторыя Віцебскага магістрата і яго ўраднікаў з'яўляецца слаба распрацаванай. Пры рэканструкцыі асаблівасцяў функцыянавання згаданай установы ў далейшым неабходна выкарыстоўваць у комплексе матэрыялы з архіваў і музеяў Мінска, Віцебска і Вільні.

*Літаратура і крыніцы*

1. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. — С. -Петербург, 1863. — Т. 1. : 1361 — 1598.

2. Витебская старина / Сост. и изд. А. П. Сапунов. — Витебск, 1883. — Т. 1.
3. Витебская старина / Сост. и изд. А. П. Сапунов. — Витебск, 1885. — Т. 4.
4. Віцебскі абласны краязнаўчы музей. КП 7261. Кніга прывілеяў места Віцебска.
5. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской / Под ред. Д. И. Довгялло. — Витебск, 1871. — Вып. 1.
6. Макараў, М. Дз. Ад пасада да магдэбургіі : прававое становішча месцаў Беларускага Падзвіння ў XIV — першай палове XVII стст. / М. Дз. Макараў. — Мінск, 2008.
7. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). — Ф. 1751. — Воп. 1. — Спр. 3.
8. НГАБ. — Ф. 1805. — Воп. 1. — Спр. 1.
9. НГАБ. — Ф. 1805. — Воп. 1. — Спр. 2.
10. НГАБ. — Ф. 1805. — Воп. 1. — Спр. 3.
11. НГАБ. — Ф. 1805. — Воп. 1. — Спр. 4.
12. НГАБ. — Ф. 1805. — Воп. 1. — Спр. 5.
13. НГАБ. — Ф. 1805. — Воп. 1. — Спр. 6.
14. НГАБ. — Ф. 1805. — Воп. 1. — Спр. 7.
15. НГАБ. — Ф. 1805. — Справа фонду.
16. НГАБ. — Ф. КМФ-18. — Воп. 1. — Спр. 85.
17. НГАБ. — Ф. КМФ-18. — Воп. 1. — Спр. 91.
18. НГАБ. — Ф. КМФ-18. — Воп. 1. — Спр. 104.
19. НГАБ. — Ф. КМФ-18. — Воп. 1. — Спр. 114.
20. Памяць : гіст. -дакум. хроніка Віцебска : у 2-х кн. / Рэд. кал. Г. П. Пашкоў і інш. — Мінск : БелЭн, 2002. — Кн. 1.
21. Полное собрание законов Российской империи с 1649 г. 1-е собр. — С. -Петребург, 1830. — Т. XX. — Ст. 14392.
22. Спрогис, И. Я. Географический указатель выборных документов из актовых книг Виленского центрального архива / И. Я. Спрогис. — Вильна, 1913. — Ч. 1.
23. Яцкевіч, З. Л. Архівы Магілёва XVI — пач. XX ст. / З. Л. Яцкевіч // Сучасныя праблемы дакументазнаўства, архівазнаўства і археаграфіі : матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 85-годдзю Дзяржаўнай архіўнай службы і 8-годдзю Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. — Мінск, 2007. — С. 146 — 150.



**З. Л. Яцкевіч (Мінск)**

# КНІГІ ПРЫВІЛЕЯЎ ЯК КРЫНІЦА ПА ГІСТОРЫІ ГАРАДОЎ ВКЛ

Важным зрухам ў палітычным і сацыяльна-эканамічным жыцці гарадоў ВКЛ з'явілася атрыманне магдэбургскага права. Безумоўна, самі вялікакняжацкія прывілеі на магдэбургскае права — гэта своеасаблівая дэкларацыя аб намерах. Яго рэальнае напаўненне — Саксонскае люстра, працы па перакладу і тлумачэнню асобных прававых нормаў Граіцкага, Шчэрбіцкага, статуты, вількеры, уставы, пункты, каралеўскія прывілеі (ў тым ліку канфірмацыйныя прывілеі на цэхі, набілітацыйныя, эканамічныя на мыта, лазні, гандаль купцам і кірмашы інш.).

Вельмі каштоўнымі гістарычнымі крыніцамі з'яўляюцца зборы прывілеяў і іншых заканадаўчых актаў, якія дазваляюць усебакова ўявіць жыццё і дзейнасць тагачаснага горада, прававое становішча яго-ных жыхароў. Таму вялікае значэнне ў даследаваннях магдэбургскіх гарадоў маюць кнігі прывілеяў. Гэта копіі арыгінальных прывілеяў, якія былі перапісаны ў XVII — XVIII стст. З другой паловы XVIII ст. яны пачалі друкавацца, што сведчыць аб забеспячэнні захаванасці арыгіналаў.

Прычынай стварэння падобных актавых кніг стаў узросшы прававы ўзровень мяшчан, найбуйнейшых і найбагацейшых магдэбургскіх месцаў ВКЛ. Адпаведна частае выкарыстанне дакументаў, нават напісаных на пергаміне, не магло не прывесці да іх пашкоджання і паступовага знішчэння. У сувязі з гэтым ураднікі магістратаў былі ініцыятарамі стварэння копій асноўных найбольш выкарыстоўваемых дакументаў і пераплёту іх у асобную кнігу. Гэтыя копіі разам з іншымі крыніцамі, фіксуемымі ў актавых кнігах, набывалі прававую моц. Такім чынам, кнігі прывілеяў мы па праву можам лічыць разнавіднасцю магістрацкіх актавых кніг.

Аб саміх кнігах прывілеяў пісалі найперш складальнікі выданняў гэтых кніг. Асобны артыкул Віцебскай кнізе прывілеяў прысвяціў Краснянскі. Пісалі аб ёй М. Улашчык [14], Я. Карпачоў [10], З. Яцкевіч [15; 16], Г. Галенчанка [4, с. 216 — 219] і М. Макараў. Цікава, што апошні з іх паходзіць з Віцебску і, абараніўшы кандыдацкую дысертацыю і надрукаваўшы кнігу па мейскаму праву Прыдзвіння, і ў прыватнасці Віцебска, не ведаў, дзе захоўваецца «Кніга прывілеяў Віцебска» [8, с. 181, 192, 200, 202]. Аб выданнях кнігі прывілеяў месца Вільна, асобных

дакументаў, у прыватнасці, набілітацыйнага каралеўскага прывілея 1568 г. і яго перакладу пісаў віленскі гісторык Айвас Рагаўскас [18].

Сучасным даследчыкам вядома некалькі падобных кніг, альбо згадак аб іх. Акрамя вышэй пералічаных віленскай, магілёўскай і віцебскай яшчэ выдадзена гарадская [11, с. 66, 139] і пятая нясвіжская[a].

Першай была створана і надрукавана «Кніга прывілеяў г. Вільні». Прыгадаем, што гэта адзін з першых тэматычных зборнікаў дакументаў па гісторыі ВКЛ, выданне якога здзейсніў віленскі бурмістр Пётр Дубінскі ў 1788 г. [17]. Дадзенае выданне да гэтага часу застаецца па-за ўвагай даследчыкаў па гісторыі ВКЛ і археографаў. У сваіх нарысах па археаграфіі П. Мілавідаў [9], а таксама М. Улашчык толькі згадваюць яго ў крытычным плане [14, с. 45 — 51]. Прычым апошні цытуе заўвагі, зробленыя ў прадмове да «Збору старажытных грамат і актаў гарадоў Вільня, Коўна, Трок» [13, с. I — IV], дзе ў першай частцы, як адзначае М. Улашчык, было «перадрукавана некалькі актаў, што датычацца г. Вільні». Астатнія, як адзначаецца ў заўвагах пад дакументамі, былі падрыхтаваны з захаваўшыхся арыгіналаў былым рэктарам «Віленскага весніка» Марціноўскім. У сувязі з гэтым загалоўкі да дакументаў у выданні змешчаны толькі ў змесце, таму знайсці пад № 62 віленскі прывілей 1568 г. не ўдалося [13, с. 116 — 119]. Пасля далейшых пошукаў высветлена, што прывілей 1568 г. быў, напісаны на лацінскай мове і пераблытаны з прывілеем за 1566 г., які павінен быць пад № 60, а змешчаны пад № 62 [13, с. 110 — 114]. Значных адрозненняў у дзвюх публікацыях не знойдзена, акрамя змены ў некаторых выпадках вялікіх літар на малыя і наадварот, а таксама ў выданні 1843 г. замест умоўных значкоў надрукавана «et» (што азначае «і»), ды наадварот, замест «que» (што таксама азначае «і») з выдання 1788 г. у 1843 г. быў надрукаваны скарот у выглядзе «$q_3$». У сувязі з вышэй згаданым у нас склалася ўражанне, што ні А. Мілавідаў, ні М. Улашчык лацінамоўныя тэксты з гэтых выданняў не чыталі.

Віленскі прывілей 1568 г. сапраўды дае тлумачэнні шэрагу пытанняў гарадскога жыцця, у тым ліку і набілітацыі мяшчан. Яго асноўныя палажэнні зводзяцца да наступнага: па-першае, наданне роўных правоў шляхце і ўраднікам мясцовага самакіравання: войтам, бурмістрам, радцам, лаўнікам і пісарам; па-другое, дазваленне шляхце служыць у гарадскім урадзе, не губляючы пры гэтым свайго статуса; па-трэцяе, дазваленне ўсім ураднікам набываць і трымаць земскія маёнткі;

[a] *Паводле вуснай інфармацыі гісторыка А. Доўнара.*



па-чацвёртае, атрыманне магістрацкімі ўраднікамі права са згоды прадстаўнікоў аднаго са шляхецкіх родаў (з пэўнага брацтва гербовага) на карыстанне гэтым гербам у сваіх актах, сігнетах і карцінах нават без асабістага дазволу караля; па-пятае, атрыманне горадам права высылаць на ўсе соймы, як у Вялікім княстве, так і супольных з Каронай двух ці трох сваіх паслоў; па-шостае атрыманы дазвол выстаўляць надгробкі. Усе гэтыя правы перадаваліся ў спадчыну сваім нашчадкам, якія таксама лічыліся шляхтай, калі не займаліся рамяством ці дробным гандлем.

Такім чынам, дадзены дакумент сведчыць аб тым, што мяшчане, якія займалі службовыя пасады ў магістраце, прыраўніваліся да шляхты. Адпаведна прывілей фактычна раскрывае механізм набілітацыі мяшчан, ураднікаў і г. д. Гэта дае падставу разглядаць яго менавіта як набілітацыйны прывілей для горада ў адрозненне ад класічных магдэбургскіх прывілеяў. Тэрмін «набілітацыйны прывілей» мае ўсе падставы для таго, каб заняць належнае месца ў класіфікацыі прывілеяў для жыхароў Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. З дакумента бачна, што мяшчане, магістрацкія ўраднікі юрыдычна атрымалі права набываць зямельную маёмасць.

Заўважым, што менавіта прыватная ўласнасць на зямлю з`яўляецца асноўнай рысай, якая адрознівае адзін клас ад другога ў феадальным грамадстве і, зразумела, адносіцца да прывілеяў перш за ўсё шляхты.

Яшчэ адным прыкладам набілітацыйнага прывілея мы маем на прыкладзе прывілей г. Львова, які атрымаў яго 8 жніўня 1658 г. на вальным сойме ў Варшаве [12, с. 464 — 469]. Паводле гэтага дакумента шляхецкія правы надаюцца ўсяму гораду, а не толькі магістрацкім ці, як яшчэ называлі, сенацкім ураднікам. Зразумела, што такога не магло быць, шляхта проста не дапусціла б гэтага. Таму гэты прывілей быў вернуты да канцылярыі і ў наступным, 1659 г., але пад першапачатковай датай львоўцы атрымалі яго [12, с. 464 — 469]. Аб гэтым добра піша Яворскі ў сваёй «Набілітацыі места Львова» і Мірон Капраль у прадмове да зборніка дакументаў «Прывілеі места Львова». Акрамя параўнання правоў са шляхтай і атрымання адпаведных тытулаў горад ураўноўваецца ў правах са сталічнымі г. Кракавам і Львовам. Да таго ж два паслы з рады атрымоўвалі правы на ўдзел у элекцыйных соймах і цалавання каралеўскай рукі. Падпісаны прывілей каралём Янам-Казімірам.

Наступны набілітацыйны прывілей Львову быў атрыманы ад таго ж караля Яна-Казіміра 30 траўня 1661 г. У ім, як і ў папярэдніх прыві-

леях, Львоў і мяшчане прыраўноўваюцца ў правах з Кракавам і Вільняй, а таксама са шляхтай [12, с. 471 — 477]. Крыху больш падрабязна ў гэтым дакуменце распісаны наступныя моманты: па-першае, удзел у соймах львоўскіх паслоў цяпер не абмяжоўваецца элекцыяй караля і цалаваннем ягонай рукі, паслы маюць права на роўных засядаць на соймах і сойміках разам з іншымі пасламі. Па-другое, падкрэсліваецца, што земскія маёнткі львоўцы цяпер маюць права набываць, застаўляць і пакідаць у спадчыну як у Кароне Польскай, так і ў ВКЛ. Аналагічны з набілітацыйным прывілеем 1661 г. Львоў атрымаў і ад караля Міхала 30 кастрычніка 1671 г. у Львове [12, с. 485 — 486]. Два наступныя пацвярджальныя прывілеі ад Яна ІІІ (13 красавіка 1676 г.) і Аўгуста ІІ (11 кастрычніка 1697 г.) маюць толькі агульныя згадкі аб параўнанні горада ў правах з Кракавам і Вільняй і больш нагадваюць звычайныя канфірмацыйныя прывілеі гарадам, чым набілітацыйныя [12, с. 493 — 500]. Аб атрыманні падобных прывілеяў Віцебскам і Гародняй на падставе «Хронікі Віцебска» і Кнігі прывілеяў гэтага горада піша і Я. Карпачоў [3, арк. 85 і адв.; 10, арк. 257].

Кніга прывілеяў г. Магілёва ў 1920-х гадах захоўвалася ў аддзеле рукапісаў Магілёўскага дзяржмузея пад № 78. У ёй змешчана 132 дакумента з адпаведнай кнігі прывілеяў за 1562 — 1709 гг., а таксама два дакумента з актавых кніг магілёўскага магістрата, якія захоўваліся ў Магілёўскім акруговым аддзяленні Цэнтрархіва (кнігі № 1 і 2). Навогул па мекаванні З. Даўгялы кніга была складзена (перапісана) ў 1678 г. адным чалавекам, і пазнейшыя акты былі дапісаны пазней. Як і ў папярэдніх выданнях, дакуметы былі размешчаны ў храналагічным парадку на мове арыгіналаў (старабеларускай, лацінскай, польскай) з асабовым, геаграфічным і прадметным паказальнікамі. Безумоўна, археаграфічны і ў цэлым навуковы ўзровень дадзенага выдання значна вышэйшы за папярэднія.

Такім чынам, падсумоўваючы вышэй згаданае, мы з поўным правам можам лічыць віленскі набілітацыйны прывілей 1568 г. узорным для гарадоў ВКЛ.

Пры разглядзе асобных момантаў магілёўскага прывілея 1661 г. і віцебскага 1677 г., якія ўдалося адшукаць толькі ў друкаваных канфірмацыях, мы прыйшлі да высновы, што яны маюць сур`ёзныя адрозненні ад магдэбургскіх прывілеяў. Зразумела, што для больш дэталёвага аналізу неабходны арыгіналы дадзеных дакументаў, якія, як адзначалася, не друкаваліся. Рукапісныя арыгіналы ж, як, верагодна, і копіі, адсутнічаюць у архівах і дакументальных зборах Беларусі.



Арыгінал магілёўскага прывілея захоўваецца ў архіве Санкт-Пецярбургскага аддзялення Інстытута гісторыі РАН [1]. Адносна копіі заўважым, што, магчыма, віцебскі прывілей ёсць у кнізе прывілеяў гораду, што захоўваецца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі. На жаль, аналагічная кніга прывілеяў Магілёву, якая ў міжваенны перыяд таксама знаходзілася ў Магілёўскім дзяржаўным музеі, не захавалася [2, с. XXVI — XXVII]. Кніга налічвала 226 лістоў, і частку дакументаў з яе З. Даўгяла змясціў у першым томе «Беларускага архіва» [2, с. XXVI — XXVII]. Копія з кнігі прывілеяў Магілёва была надрукавана В. Дружчыцам у артыкуле «Войты і іх улада ў беларускіх гаспадарскіх месцах» [6]. Яшчэ адну рукапісную актыкацыю прывілея ад 9 чэрвеня 1661 г. нам удалося адшукаць у кнігах Літоўскай метрыкі за 1661 г.

Істотным аспектам дадзенай з'явы з'яўляецца, наколькі і якім чынам выкарысталі мяшчане розных гарадоў гэтыя магчымасці, найперш тры асноўныя: карыстанне зямлёй, гербамі і высыланне паслоў на соймы і сеймікі.

Безумоўна, найбольш цікавымі на сённяшні дзень з'яўляюцца віцебскія кнігі прывілеяў. Як нам удалося высветліць, захавалася тры экзэмпляра дадзенай крыніцы. Адна з іх захоўваецца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі (далей ВАКМ), другая — у бібліятэцы Віленскай акадэміі навук і трэцяя — у Навуковай бібліятэцы Польскай Акадэміі мастацтваў і Польскай Акадэміі навук у Кракаве.

Кракаўскі рукапіс захоўваецца пад нумарам 3143, які мае назву «Прывілеі м. Віцебска», сярэдзіны XVIII ст. Кніга мае памеры 21 х 16,5 см і 277 аркушоў, з якіх 1 — 4, 187 — 189, 228 — 277 — чыстыя[b]. Тэкст напісаны на польскай мове рознымі почыркамі.

На пятым аркушы надпіс: «Гэтая кніга Я[го] м[ілас]ц панам Тэадорам Запольскім, віцебскім радцай, была куплена ад Стэфана Аверкі 19. 08. 1777 г.»; на шостым: «Рэестр прывілеяў найяснейшых манархаў і польскіх каралёў, і князёў Вялікага княства Літоўскага ў розных справах магістрату і нашчадкам іх на вечныя часы выдадзеныя з далучэннем лістоў, рэскрыптаў, з аўтэнкаў (у дакуменце zautenków, што пэўна азначае з аўтэнтыкаў, у сэнсе з арыгіналаў), згодна з воляй магістрата сабраных у ратушы трэцяга верасня 1733 г.». У рэестры пазначана 63 дакумента, што адпавядае рэчаіснасці.

[b] *Аўтар выказвае вялікую ўдзячнасць за прадастаўленую інфармацыю Юрыю Гардзееву і Зінаідзе Антановіч.*

На адвароце 13 і 14 аркушоў рэестр падпісаны наступнымі асобамі:

Рыгор Садковіч, віцебскі бурмістр,
Якуб Лапа, віцебскі бурмістр,
Ян Ігольнік, віцебскі радца,
Даніель Хапіцевіч Сіпка, віцебскі райца (Райцовіч ?),
Тамаш Віхор,
Казімір Свішчэўскі,
Антоні Філіповіч,
Сымон Зяньковіч (Зямковіч ?) лаўнік мв (?),
Марко Казёл,
Іяхім Зафалай (?) лаўнік, Тамаш Віхор.

На 17 аркушы запісана, што ўвесь гэты рэестр прывілеяў і самі прывілеі, амністыйныя лісты і ўніверсалы былі перапісаны ў Віцебску адным з аўтараў віцебскага летапісу Стэфанам Аверкай.

Падобнае апісанне віцебскай кнігі прывілеяў, якая захоўваецца ў Віленскай акадэмічнай бібліятэцы, дае ў сваёй апошняй кнізе вядомы беларускі вучоны Г. Галенчанка [4, с. 216 — 219]. Ён дае кароткае апісанне рукапісу і зместу кнігі, якое амаль супадае з кракаўскім асобнікам. Выклікае пытанне старая сігнатура кнігі № 3143, якая таксама супадае з кракаўскім асобнікам [4, с. 216 — 219] (сучасная — фонд 17, № 208) [4, с. 219]. Паводле інфармацыі беларускай даследчыцы Н. Сліж рукапіс напісаны адной рукой[c].

Кніга прывілеяў г. Віцебска, якая захоўваецца ў ВАКМ пад № 7261, мае цвёрды пераплёт чырвонага колеру, зроблены дзякуючы А. Сапунову. На ёй сучасны штамп ВАКМ і Віцебскага аддзялення Беларускага дзяржмузэя з подпісам «Рукапісны збор Сапунова № 59», а таксама экслібрыс бібліятэкі Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытуту з № 1725. Кніга складаецца са 108 аркушоў (216 старонак) і была складзена 3 верасня 1733 г.

На 1 — 2 аркушах змешчаны рэестр прывілеяў, які пераважна супадае з загалоўкамі прывілеяў. Нумары прастаўлены пазней сінім алоўкам, відаць ў часы Сапунова, часам паралельна прысутнічае нумерацыя алоўкам, часам — падвойныя нумары ў круглых дужках. Нумары алоўкам прастым адпавядаюць нумарам у «Віцебскай старыне». Нумарацыя атрамантам «Num. 4», верагодна, самая

[c] *Аўтар выказвае вялікую ўдзячнасць за прадстаўленую інфармацыю Наталлі Сліж.*



старэйшая, і яна паказвае, што шэраг дакументаў не захаваўся, і пачынаецца з трэцяга дакумента.

Першых восем прывілеяў — з гербавымі застаўкамі (першы — з гербам «Арол польскі», з крыжам на грудзі і са скіпетрам і шабляй у лапах, другі — з «Пагоняй» а таксама з каляровым гербам Віцебска) і раслінна-астральнымі (месяц і сонца) малюнкамі.

Усе аркушы з 79 разлінеены і маюць палі, на якіх прыпісы, як у XVIII ст. адпаведным арнаментам карычневага колеру, падобным да саміх прывілеяў, так і сінім альбо карычневым, больш тонкім пяром, набліжаным да канца XIX — XX стст. Апошнія маюць больш тэзісны і навуковы характар і часам тычацца дат і месца надання прывілеяў. Запісы больш ранейшага часу нясуць пэўныя ўдакладненні да тэкстаў, у тым ліку традыцыйнае (не рымскае) пазначэнне дат, а таксама загалоўкі, якія адпавядаюць рэстравым, што сведчыць аб складанні іх пасля перапісання прывілеяў.

Нумары, пазначаныя чырвоным атрамэнтам, паводле Ул. Краснянскага, зроблены рукою А. Сапунова [7]. Яны адпавядаюць (?) сінім нумарам атрамантам у рээстры (асноўным), такім жа колерам зроблена і асноўная нумарацыя кнігі, але гэта адбылося пасля рэстаўрацыі, праведзенай, відаць, пры яе пераплёце, адбыўся ў часы Сапунова. На асобных аркушах захавалася ранейшая нумарацыя карычневым атрамантам. Там, дзе адсутнічае нумарацыя, прастаўлена сучасная простым алоўкам.

На дакументах шэраг адзнак зроблены простым (ср. № 5 і 6), сінім і чырвоным (NB ) алоўкамі.

Усяго ў кнігу ўвайшло 63 дакументы за XVI — XVIII стст., сярод якіх пераважна каралеўскія прывілеі Віцебску, яго жыхарам, атэстацыі, амністыі, інветар горада, мемарыял, інфармацыя магістрацкая і спіс віцебскіх ваяводаў за 1505 — 1753 гг., якія згодна прывілея на магдэбургскае права Віцебску 1597 г. адначасова з'яўляліся і войтамі горада.

Падсумоўваючы вышэй згаданае, нам варта было б сёння надрукаваць такую важную крыніцу па гісторыі г. Віцебска і магдэбургскага права на Беларусі, як кніга прывілеяў м. Віцебска.

*Літаратура і крыніцы*

1. Архіў Санкт-Пецярбургскага аддзялення інстытута гісторыі Расейскай Акадэміі навук. — Калекцыя № 114, ІІ, № 36 (арыгінал).

2. Беларускі архіў. — Мінск, 1927. — Т. 1. — С. XXVI—XXVII.
3. ВАКМ. КП 7361. — № 50.
4. Галенчанка, Г. Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV — сярэдзіны XVII ст. / Г. Я. Галенчанка; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі. — Мінск : Беларуская навука, 2008.
5. Гардзееў, Ю. З гісторыі канцылярыі гарадзенскага магістрата / Ю. Гардзееў // Герольд Litherland (Горадня). — 2004. — № 3—4. — С. 106.
6. Дружчыц, В. Войты і іх улада ў беларускіх гаспадарчых месцах з Майдэборскім правам / В. Дружчыц // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Працы клясы гісторыі. — Менск, 1928. — Кн. 3, Т. 2. — С. 241 — 298.
7. Краснянскі, У. Кніга прывілеяў м. Віцебску / У. Краснянскі // Віцебшчына. — Віцебск, 1927. — Т. 1. — С. 148 — 150.
8. Макараў, М. Дз. Ад пасада да магдэбургіі : прававое становішча месцаў Беларускага Падзвіння ў XVI — першай палове XVII ст. — Мінск : УП «Экаперспектыва», 2008.
9. Миловидов, А. А. Прошлое и современное положение археографии в Северо-Западном крае / А. А. Миловидов // Журнал министерства народного просвещения. — 1904. — № 9. — С. 11.
10. НАРБ. — Ф. 598. — Воп. 1. — Спр. 22.
11. Памяць : гіст. -дакум. хроніка Гродна / рэд. Г. П. Пашкоў і інш.; склад. І. П. Крэнь (склад. і навук. рэд.) і інш. — Мінск : БелЭн, 1999.
12. Привілеї міста Львова (XIV—XVIII ст.) / Львівське відділення Ін-ту української археографії та джерелознавства ім. М. Грушевського НАН України / Ярослав Дашкевич (наук. ред.), Мирон Капраль (упоряд.), Роман Шуст (наук. ред.). — Львів, 1998. — 640 с. — (Львівські історичні пам'ятки; Т. 1).
13. Собрание древних грамот и актов городов : Вильны, Ковна, Трок, православных монастырей, церквей. — Вильно : Тип. А. Марциновского, 1843. — Ч. 1. — 204 с. : ил., карты.
14. Улащик, Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Беларуси / Н. Н. Улащик. — Москва, 1973.
15. Яцкевіч, З. Л. Набілітацыйныя прывілеі для гарадоў Вялікага княства Літоўскага : магчымасці і рэалізацыя на прыкладзе г. Магілёва / З. Л. Яцкевіч // Bialostocczyzna. — 2002. — № 1. — S. 61 — 62.



16. Яцкевіч, З. Л. Узорны набілітацыйны прывілей для гарадоў Вялікага княства Літоўскага / З. Л. Яцкевіч // БАШ. — Мінск : БелНДІДАС, 2001. — Вып. 2. — С. 223 — 233.
17. Dubinski, P. Zbior praw i przywileiow miastu stolecznemu WXL nadanych / P. Dubinski. — Wilno, 1788.
18. Ragauskas, Aivas. Vilniaus miesto valdzios elito nobilitaciones privilegios (1568 m.) likmas Rusijos imperijoje (XIX a. primasis — treciasis desimtmeciai) / Aivas Ragauskas // Vilniaus istorijos. — Vilniaus, 2007. — Metrastis 1. — S. 79 — 95.

**В. У. Бабкова (Мінск)**

## «ТЭСТАМЕНТЫ, ДЭСТАМЕНТЫ, ДУХОЎНІЦЫ»: АКТЫ АПОШНЯЙ ВОЛІ ШЛЯХТЫ ВІЦЕБСКАГА ВАЯВОДСТВА КАНЦА XVI СТ. (ПА МАТЭРЫЯЛАХ АКТАВЫХ КНІГ ВІЦЕБСКАГА ЗЕМСКАГА СУДА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГІСТАРЫЧНАГА АРХІВА БЕЛАРУСІ ЗА 1594 — 1598 ГГ.)

Сярод шэрагу актавых дакументаў, якія маюць натарыяльны характар, асаблівае месца належыць тэстаментам (актам апошняй волі). Будучы запісанымі ў актавыя кнігі павятовых судоў, а дакладней перанесеныя «з гроду ў земства», тэстаменты набывалі права вечнасці і служылі не аднаму пакаленню нашчадкаў, якія карысталіся дабротамі сваіх дзядоў і бацькоў. Распісваючы маёмасць паміж сваякамі, тэстатар найперш меў на мэце захаваць спакой у сям'і пасля сваёй смерці, пазбавіць родзічаў ад «ростырков», «вархолу», «пасвару», «зависнення», «бурдов», «гневу», «розруху» і «шкод», якія здараліся паміж людзьмі падчас размеркавання маёмасці. А таксама забяспечыць далейшае існаванне жонкі, абараніўшы яе ад пасяганняў прадстаўнікоў свайго роду. Тэстаменты мог пісаць кожны чалавек ці то «у радостях и раскошах», або «зглочаны и ничога не маючы», пакідаючы, адпаведна свайму сацыяльнаму стану, ці то маёнткі, грошы і каштоўнасці, ці адно «сена мурожнага и болотнога» ды калоду пчолаў. Тэстаменты

захоўваліся разам з іншымі важнымі для сям'і дакументамі — купчымі і дарчымі лістамі на маёмасць, прывілеямі, інвентарамі — і вымаліся са шкатул, скрынь ды іншых схованак выключна дзеля патрэбы ды перадаваліся з пакалення ў пакаленне.

Не толькі хвароба і няўмольная старасць вымушалі чалавека ўзяцца за складанне тэстаменту. Смерць прыходзіла і ад «нищення од жовнера, праз агонь, поветрые моравае, праз голад, спусташенне, ушкадженне». Тэстамент мог быць напісаны самім чалавекам, але найчасцей адмыслова запрошаным пісарам за пэўную плату і па строга вытрыманаму актаваму фармуляру, наяўнасць якога можна прасачыць практычна ў кожным шляхецкім тэстаменце. І тым не менш кожны з гэтых дакументаў нясе адбітак свайго аўтара. Праз кожны чуецца індывідуальны голас чалавека.

Вядома, што існуе падзел дакументальных старабеларускіх помнікаў на тры жанрава-стылёвыя разнавіднасці: канцылярска-юрыдычную, свецка-мастацкую і канфесійную. Тэстамент відавочна парушае межы гэтых трох стыляў, бо адначасова мае натарыяльны характар, ягоны тэкст часам успрымаецца як літаратурны твор, а рэлігійная прыналежнасць аўтара накладае адбітак на характар самога дакумента. Цікавым падаецца параўнанне тэксту тэстаментаў з паэтыкай санету, які зрабіла манашка Жарнавецкага віленскага бенедыктынскага кляштара і адначасова даследчыца гістарычных крыніц Малгажата Баркоўска [4].

Упісанне тэстамента ў судовыя кнігі было абавязковым актам, які пацвярджаў апошнюю волю чалавека. Тэстамент даслоўна ўпісваўся ў судовыя кнігі толькі пасля смерці аўтара на мове арыгінала. Пасля ўпісання тэксту дакумента кожны зацікаўлены мог узяць сабе адтуль копію або выпіску. Запіс тэстамента ў судовыя кнігі з'яўляўся своеасаблівым гарантам яго юрыдычнага зацверджання, а таксама страхавым варыянтам на выпадак, калі дакумент будзе згублены ці знішчаны.

Пры распрацоўцы актавых кніг Віцебскага земскага суда к. XVI ст. у аддзеле старажытных актаў НГАБ былі выяўлены і расчытаны 14 тэстаментаў віцебскай шляхты і 1 тэстамент віцебскага коннага мешчаніна за 1559 — 1597 гг. (яшчэ 6 тэстаментаў не ўдалося расчытаць з-за моцнай пашкоджанасці і фрагментарнасці). Кнігі пераплеценыя, адрэстаўраваныя, змікрафільмаваныя. Некаторыя тэксты дакументаў затухаючыя, моцна пашкоджаныя. Мова дакументаў — старабеларуская.



Аўтары віцебскіх тэстаментаў у большасці не з'яўляліся элітай тагачаснага грамадства. Большую частку актаў апошняй волі складалі прадстаўнікі сярэдняй і дробнай шляхты-зямянаў. Сярод дакументаў таксама прадстаўлены два тэстамента асобаў вышэйшага стану, якія займалі пэўныя ўрады: земскага лоўчага Віцебскага ваяводства Стэфана Лускіны і віцебскага гараднічага Багдана Янушкоўскага (2 тэстаменты). Асобна стаіць тэстамент віцебскага коннага мешчаніна Марціна Савейкаўскага (вядома, што конныя мяшчане — група вайскова-служылых мяшчан, нашчадкаў былых баяраў, якія перасяліліся ў горад, але захавалі свае маёнткі і абавязак выконваць вайсковую земскую паслугу ў апалчэнні свайго павета. У XVI ст. віцебскія конныя мяшчане складалі асобную сацыяльную групу, у якую ўваходзілі 100 сямей).

Дзевяць тэстаментаў належаць зямянам Віцебскага ваяводства, частка з якіх была напісана ў самім Віцебску, а частка ў родавых маёнтках — Хоцімлі, Бублеве, Вялікім Сяле, Мошне. Два тэстаменты належаць зямянам Полацкага ваяв. Такім чынам, аўтарамі апошняй волі былі: Занка Алехнавіч Рамейка Хоцімскі, Дзмітр Іванавіч Алізаровіч, Сцяпан Аляксандравіч Хоцімскі, Іван Нарковіч Падзвінскі, Андрэй Якубавіч Сівіцкі, Шчасны Пятровіч Храноўскі, Ілля і Алехна Паўлавічы Варатынцы, Марына Занкаўна Гарлінская, Мацвей Мікалаевіч Мажэйка і Марына Данілаўна Любашанская.

Цікава прасачыць сацыяльны статус пячатараў і апекуноў, да якіх звярталіся тэстатары з «усной и очевистой» просьбай паставіць подпіс і пячатку пад дакументам сваёй апошняй волі «для всякое обороны и порадку <...>», а таксама стаць апекунамі і абаронцамі жонак і дзяцей, якіх трэба было «от кривд всяких яко сирот боронит». Сярод «людей зацных, <...> земян, панов и приятель», да якіх звярталася шляхта-зямяне па апякунства, былі віцебскі мастаўнічы пан Кміта Зеляпуга, трэйданскі і скуінскі староста, цівун у зямлі Жамойцкай Пётр Стаброўскі, віцебскі гродскі пісар Кузмінскі Будагоскі, віцебскі харужы Іван Храпавіцкі, а таксама браты, зяці ды іншыя сямейнікі.

Выключна ў сям'і шукалі апякунскай падтрымкі тэстатары, якія займалі больш значныя пасады. Сярод пячатараў і сведкаў іх тэстаментаў былі віцебскі гараднічы Ян Кісель, веліжскі падстароста Мікалай Нарбут, намеснік Віцебскага ваяводства Мікалай Дзеражынскі ды іншыя ўплывовыя ў ваяводстве асобы.

Шурыну ды пляменніку даручыў быць апекунамі жонкі «по моем животе до живота ее» конны мешчанін Марцін Савейкаўскі, а таксама прасіў бараніць ад сваіх і чужых людзей падданага Ісака Аляхновіча. А пячаткі і подпісы пад дакументам, «которые з их писати умеют», паставілі «люди зацные», зямяне Віцебскага ваяводства — возны Апанас Мазалоўскі, пан Даніла Харковіч Біруля-Бялыніцкі ды пан Іван Харкоўскі. Паказальна тое, што сведкамі і пячатарамі пры складанні тэстаментаў у той час не маглі выступаць кабеты. Рэдка калі кабеты былі апякункамі, хаця Статут агаворваў гэтую магчымасць (перавага — старэйшай у родзе).

Найгалоўнейшым жа апекуном і абаронцам пакінутых на гэтым свеце сіротаў паміраючыя лічылі «щодробливого» Пана Бога. І верылі, што зацнай шляхце, якая выканае іх апошнія просьбы «за таковое дабрадейства <...> Пан Бог всим добрым в Королевстве небесном заплатою будет».

Сведчаннем канфесійнай прыналежнасці ў тэстаментах найчасцей выступае тая частка тэксту, дзе гаворка ідзе пра распараджэнні, якія тычыліся «душы і цела». Тут агаворвалася месца апошняга спачыну ў звязцы з хрысціянскай святыняй: царквой, манастыром, касцёлам, зборам. Сведчаннем таксама магла выступаць згадка прысутнасці сярод сведкаў тэстамента папа-духоўніка, святара пэўнай царквы, каплана ці вікарыя.

Паводле веравызнання вышэйзгаданыя тэстаменты зямянаў Віцебскага ваяводства падзяляюцца наступным чынам: 6 — праваслаўных, 1 — каталіцкі, 1 — евангеліцкі, 6 тэстаментаў маюць невызначаны рэлігійны характар з пэўным пажаданнем быць пахаванымі: «<...> при могилах сынов своих, при Васильевой и Степаной, и з жоною своею Полагию», як пажадаў Стэфан Лускіна [1, арк. 65 — 68]; «Обычаем хрестянским <...> одкул створон ест, в землю, бо земля прох и попел было <...>», як пажадаў гараднічы Багдан Янушкоўскі [3, арк. 15 — 17 адв.].

Сярод адзнакаў праваслаўнага веравызнання ў тэстаментах згадваюцца крылашане царквы Святога Духа, якім Занка Рамейка Хоцімскі адпісаў 40 грошай на Саракавуст [3, арк. 117 — 119], царква Святой Прачыстай «на Ловожы» [2, арк. 189 — 190], просьба быць пахаваным паводле закону грэчаскага [2, арк. 342 — 343 адв.], а таксама духоўнік уваскрасенскі святар айцец Фёдар, які атрымаў ад пані Марыны Гарлінскай за паслугі карову [3, арк. 128 — 131].



Каталік Шчасны Храноўскі прасіў быць пахаваным пры цвінтары ля касцёла рымскага Святой Троіцы, пад «обламками» (гэта значыць пад зубчатай сцяной) у віцебскім Ніжнім замку насупраць касцельных дзвярэй [2, арк. 344 — 345 адв.].

Евангелік Андрэй Сівіцкі пажадаў пахавання ва ўласным агародзе каля саду пад сваім дваром Добрыным, а над целам прасіў збудаваць каплічку ды правесці абрад паводле звычаю збору евангелічнага [2, арк. 128 — 131адв.].

Тэстаменты пісалі людзі «бачные», гэта значыць мудрыя, якія добра разумелі, «иж не ест ничого на свете певнейшого яко час, година смерти». Амаль кожны з тэстаментаў — прыклад развагаў над светам, які прыйшоў час пакідаць, пра сваё стаўленне да смерці. Свет «адменны», «аблудны», «нерозны» — гэта значыць зменлівы, недаўгавечны, крохкі, прывідны, непадзельны. І адначасна — мізэрны, надзны, небяспечны. Вытокі гэтага бачання свету, магчыма, трэба шукаць у той канцэпцыі пагарды да свету (contemptus mundi), якая брала пачатак ад ранняга хрысціянства і сцвярджала тое, што свет стары, убогі і даўно ўжо ўступіў у фазу заняпаду... Трагічна і смутна гучыць у тэстаментах усведамленне нетрываласці гэтага свету, але ж менавіта падобнае ўспрыняцце і пакідала радкі блізкія ўзору літаратуры: «будучи есми на тот час навежоный хоробою обложною и разумеючы то, иж кождый чоловек мешкаючы на том недзном, мизерном а доческом свете ест певнейши смерти, а нижели чого иншого», — пісаў зямянін Дзмітрый Алізаровіч [1, арк. 72 — 73 адв.].

Евангелік Андрэй Сівіцкі пакінуў наступнае: «<...> кождый чоловек ест потданый смерти, а тело его ку скаженю, и што не бывает воровано писмом, не бываеть трвало, але в запаметанье людское приходит, помнечи теж и на Сына Божого и Збавителя нашого Езуса Хрыста, которые нам зоставит рачил в тестаменте, Еванелии своее, мовечы: "Чуйте, бо не ведаете часу ани годины"» [2, арк. 128 — 131 адв.].

У тэстаменце віцебскага гараднічага Багдана Янушкоўскага было запісана наступнае: «прото реч ест годная и потребная, абы будучи здоров, паметал на час смертелный и на то, иж не ведаем, што ютрейший ден принесе, а жебы яко злодей Панский не пришол и нас неготовыми не зостал <...>» [3, арк. 15 — 17 адв.].

Цікава, што цытаванне Евангелля, якое было ўласціва пратэстантам, сустракаецца ў віцебскіх тэстаментах і ў шляхты праваслаўнага веравызнання.

Тэстаменты з'яўляюцца найцікавейшай крыніцай, якая сведчыць пра моманты індывідуальнай гісторыі чалавека: пра стан ягонай заможнасці, склад сям'і, ступень адукаванасці. Даюць мажлівасць прасачыць адносіны паміж бацькамі і дзецьмі, моманты ўдзячнасці і крыўдаў, выпадкі даравання віны перад сыходам, клопат пра адукацыю дзяцей, стаўленне да чэлядзі, якая згадвалася практычна ў кожным тэстаменце і адпускалася на волю. Як ужо адзначалася, тэстаменты пісаліся з мэтай забяспечыць спакой у сям'і, падзяліць маёмасць яшчэ пры жыцці, каб пазбегнуць свараў праміж крэўнымі.

Некаторыя тэстаменты пісаліся за 10 дзён перад смерцю, некаторыя за 9 месяцаў. У асноўным час паміж напісаннем тэстамента і яго актыкацыяй (а гэта значыць смерцю тэстатара) складаў 1—2 месяцы. Найчасцей прыносілі ў суд тэстамент, каб запісаць яго ў судовыя кнігі, сваякі: браты, зяці, пляменнікі, жонкі і мужы. Так, па просьбе зямяніна Івана Нарковіча Падзвінскага ягоны тэстамент прынёс у суд зяць, віцебскі мешчанін Павел Ісакавіч, са словамі: «Злетил дей то мне, зятю своему, абых оный тестамент его немешканя, тут, водлуг Статуту права посполитого ку записаню до книг справ земъскихъ подал» [2, арк. 81 — 82 адв.]. Ураднікі аглядалі пячаткі, подпісы рук пад дакументам, пасля чаго загадвалі ўпісваць яго да судовых кніг.

Выключэннем з'яўляюцца выпадкі, калі сам аўтар тэстамента прыносіў яго для актыкацыі ў суд. Менавіта пра гэта мы чытаем у пачатковым пратаколе (сусцэпце) да тэстаменту земскага лоўчага Стэфана Лускіны: «сам, особою своею, будучы еще в способном здоровью и зуполном розуму своем, дестамент свой справил <...>» [1, арк. 65 — 68].

Звестак пра сам горад у тэстаментах не шмат. У большасці яны ўскосныя. Так, у актавым запісе перад тэстаментам зямяніна Занкі Хоцімскага было занатавана, што ў часы першага старога Статута не было звычаю, каб у Віцебску захоўваліся земскія і гродскія кнігі, таму сын Занкі Хоцімскага Сямён не мог своечасова ўпісаць свае маёмасныя дакументы да судовых кніг і цяпер (праз 39 гадоў), у 1598 г., прынёс тэстамент бацькі, напісаны яшчэ ў 1559 г. Сам Занка, чый тэстамент быў складзены ў Хоцімлі, меў уласны двор у замку Віцебскім у Ніжнім горадзе [3, арк. 117—119].

Меў таксама пляцы зямлі ў замку і на пасадзе лоўчы Стэфан Лускіна. Ягоны дом, у якім ён жыў да самай смерці і дзе, верагодна, запісаў сваю апошнюю волю, знаходзіўся на пасадзе «Завитебъномъ» на завулку Селезнякоўскім насупраць дома Міхалкі Грабенчына і слабодкі віцебскага харужага Івана Храпавіцкага, а межаваў з пляцам Захарчынскім паноў Кісялёў і пляцам паноў Стахоўскіх. Другі двор лоўчага знаходзіўся ў «Вышнем» замку пад гарою старай мураванай турмы, побач з домам Бабаедава [1, арк. 65 — 68]. У доме Заручайскім у Віцебску пісаў свой тэстамент зямянін Андрэй Сівіцкі [2, арк. 128 — 131 адв.]. Заручайскі пасад над узвозам Буйскім згадваецца таксама і ў запісе пані Марыны Гарлінскай [3, акр. 128 — 131]. Пляц зямяніна Шчаснага Храноўскага знаходзіўся ў віцебскім Ніжнім замку, дзе ён, дарэчы, і быў пахаваны на цвінтры каля зубчатай сцяны [2, арк. 344 — 345 адв.].



Звяртае ўвагу падрабязнае апісанне межаў пляцаў зямлі, якое занатоўвалі тэстатары пры перадачы маёмасці ў іншыя рукі. Тут заўважны прыродныя асаблівасці віцебскага рэгіёну, наяўнасць вялікай колькасці рэк, азёраў, ручаёў. Даследчык жа апроч уяўлення праз тэкст падрабязнай тапаграфічнай карты мясцовасці, якую цяпер можна толькі ўявіць, ды вывучэння тапонімаў, звяртае ўвагу і на спосаб мыслення тагачаснага чалавека, уласцівую яму манеру надаваць імя кожнаму прыроднаму знаку, занатоўваць і заўважаць адрознасці на зямлі: «<...> тыми границами кгрунту моему Кичиньскому <...> в ручай, з ручя просто через бор и через мох по Чорную Гряз, по землю мою Кичинскую, над болотом Чисцом лежачую <...>. Од Чорное Грязи просто в речку Кичиницу, речкою Кичиницою уверх у озеро Кичино и опят в тот ж ров <...> и совсимъ на все, яко се тот кгрунт самъ в собе мает: гоны бобровые по реце Середкоротницы, по речце Песочнои, и по реце Лучосе мают вси три сыны мои посполу их держать и звер ловит», — запісаў Дзмітрый Алізаровіч сваім сынам, а жонцы Ульяне з сынам Міхайлам перадаў зямлю, якая ляжала ад грунту віцебскага земскага пісара Андрэя Асіпоўскага ў раку Лучосу: «<...> а тою рекою Лучосою уверхъ <...> в реку пустую, обышодшы около, опят в тую ж реку Лучосу, и тою рекою Лучосою еще уверх по землю Юшковскую до копца и до границы стародавние Юшковские в реку Середкоротницу, з реки Серодкоротницы опять в остров Юшковский, ручем вколо опят в реку Середкоротницу, рекою Середкоротницою уверх по землю Середкоротинскую, от тое реки просто в речку Песочную, з реки Песочное в ручаи Ржавец, и тым ручем Ржавцом униз аж опят знову в реку Лочосу <...>» [1, арк. 72—73 адв.].

З улікам таго, што амаль не захаваліся фамільныя зборы дакументаў звычайнай беларускай шляхты з памежжа позняга Сярэднявечча і Новага часу, такі дакумент, як тэстамент, з'яўляецца

надзвычай каштоўнай крыніцай, якая адлюстроўвае тагачасную эпоху, аўтэнтычную атмасферу старабеларускай мовы, а таксама ўтрымлівае інфармацыю для вывучэння самога чалавечага жыцця ў ягонай штодзённасці, якое заўсёды заставалася нязменным, але амаль не патрапляла ў сферу гісторыі.

*Літаратура і крыніцы*

1. НГАБ. — Ф. 1751. — Воп. 1. — Спр. 1.
2. НГАБ. — Ф. 1751. — Воп. 1. — Спр. 2.
3. НГАБ. — Ф. 1751. — Воп. 1. — Спр. 3.
4. Borkowska, S. M. Dekret w niebeskim ferowany parłamiencie. Wybór testamientów z XVII — XVIII wieku / S. M. Borkowska. — Kraków, 1984.

**А. В. Грыб (Мінск)**

# ДЗІСНА 40-Х ГАДОЎ XVIII ст. ПРАЗ ПРЫЗМУ МЯШЧАНСКІХ ТЭСТАМЕНТАЎ

У 40-х гадах XVIII ст. Дзісна, як і раней, была пераважна гандлёвым горадам, арыентаваным на вываз да Рыгі сыравіны (збожжа, лесу, паташу, ільну, канапель). У гэты час ужо не было зруйнаванага падчас Паўночнай вайны замка, аднак высокія валы яшчэ нагадвалі пра яго былую веліч. Некалькі дзесяцігоддзяў жыхары не пакутавалі ад усегарадскіх пажараў і паморкаў. У горадзе стаяў невялікі ваенны гарнізон, па Дзвіне плылі да Рыгі купцы з Полацку, Віцебску, самой Дзісны, плацілі ў прыкаморак на вуліцы Мытнай мыта, часам сядалі на мель ці разбіваліся аб шматлікія камяні і парогі. Магістрат вяршыў суд, часам прыязджала шляхта, каб пазычыць грошай у мясцовых ліхвяроў. А чым жылі простыя мяшчане? На гэта пытанне дапамогуць адказаць тэстаменты дзісненскіх мяшчан.

Тэстамент (завяшчанне) — прававы акт з распараджэннем пра асабістую маёмасць на выпадак смерці. Асоба, якая склала тэстамент, звычайна называецца тэстатарам. Для ўступлення ў сілу тэстамент адразу пасля смерці тэстатара павінен быў пацвярджацца ў судзе. Акрамя распараджэння пра маёмасць тэстатар часта ўносіў іншыя пажаданні і наказы жонцы, дзецям, братам, сёстрам, калегам і сябрам.



У актавых кнігах дзісненскага магістрату былі выяўлены тэстаменты некаторых мяшчан. Спачатку варта пазнаёміцца з гэтымі асобамі. Усе яны з'яўляліся ўраднікамі дзісненскага магістрату, такім чынам былі багатымі і ўплывовымі людзьмі ў горадзе. Тут няма нічога дзіўнага: каб скласці тэстамент, трэба было мець значную маёмасць.

Ян Лукашавіч Шыбайла — райца дзісненскі ў 1715—1741 гг. Займаўся гандлем з Рыгай, меў значную маёмасць, якую пакінуў адзінаму сыну Міхалу. Памёр у 1741 годзе, тэстамент складзены непасрэдна перад смерцю пры судзе гайным (напрыклад, падобны выпадак з судом гайным гл. [2, с. 215]). Запіс-тэстамент быў актыкаваны 1 лютага 1741 г. [3, арк. 448—448 адв.]

Тодар Янавіч Грыб — лаўнік дзісненскі ў 1741—1748 гг. Меў жонку Веру, некалькі дзяцей. Разам з Мацеем і Канстантам Бухаламі займаўся гандлем, меў дом у Дзісне, дзе жыў разам з маці, жонкай і дзецьмі. Тэстамент быў складзены за некаторы час да смерці, а актыкаваны праз тыдзень пасля смерці тэстатара, 13 сакавіка 1748 г. [4, арк. 308—309 адв.]

Цімафей Емяльянавіч Барадульскі — бурмістр дзісненскі ў 1711—1749 гг. Яго бацька Емяльян быў райцам, брат Нікіфар — лаўнікам. Быў двойчы жанаты: на Анне і Таццяне, дзяцей не было. Займаўся гандлем і ліхвярскімі аперацыямі, меў некалькі дамоў і агародаў у Дзісне. Тэстамент быў складзены незадоўга перад смерцю тэстатара ў 1749 г., а яго копія актыкавана ў магістрацкіх кнігах за 1792 г. Большая частка маёмасці дасталася пляменніку Рыгору Барадульскаму (сыну Нікіфара), а ўласны дом і гумно — жонцы Таццяне [5, арк. 189—191].

Усе тэстаменты складзены на польскай мове, маюць падобны фармуляр. Гісторык Максім Гардзееў даследаваў фармуляр тэстаментаў полацкіх мяшчан і выдзеліў пачатковы пратакол (або проста пратакол), асноўную частку і канчатковы пратакол (эсхатакол). Пачатковы пратакол складаецца з загалоўка, даты ўнясення тэстамента ў актавую кнігу, інтытуляцыі і нарацыі. Асноўная частка складаецца з дыспазіцыі, у якую кампактна ўведзена санкцыя. У канчатковым пратаколе змешчаны адзнакі аб пацвярджэнні тэстамента, унясенні яго ў актавую кнігу, выдачы выпісу [1, с. 40].

Фармуляры тэстаментаў дзісненскіх мяшчан адрозніваюцца паміж сабой, таксама і ад фармуляра, прапанаванага Гардзеевым. Гэта звязана з тым, што тэстамент Яна Шыбайлы створаны ў якасці

запісу-тэстаменту па скарочанай форме, а тэстаменты Тодара Грыба і Цімафея Барадульскага ствараліся як самастойныя дакументы, таму маюць дваісты фармуляр: па-першае, фармуляр самога тэстаменту, па-другое, запіс у актавай кнізе. А тэстамент Цімафея Барадульскага мае нават уласную дату і ўказанне на сведкаў, што больш характэрна для шляхецкіх, а не мяшчанскіх тэстаментаў.

Некаторыя адрозненні ўтварыліся з-за зменаў у справаводстве. Так, у тэстаменце Тодара Грыба адсутнічае загаловак, у тэстаменце Яна Шыбайлы загаловак стаіць пасля даты, у Цімафея Барадульскага — перад датай. Дата ўказана ў кожным тэстаменце, як і інтытуляцыя магістрата. Праўда, інтытуляцыя адрозніваецца ў кожным выпадку, у Яна Шыбайлы пазначаны ўсе прысутныя ўраднікі: «Przy siawetnych panach Janie Demianowiczu, radcu dzisikskim, Janu Spirkowiczu, Teodoru Hrybu, iawnikach, y mnie, Leonu Dubbinie, pisarzu miasta Jego Krylewskiey Mosci Dzisny», у Тодара Грыба: «Przed nami burmistrami, raycami, y iawnikami miasta Jego Krylewskiey Mosci Dzisny», у Цімафея Барадульскага: «Przed aktami sudow mieyscowych miasta wolnego Rzeczy Pospolitey Dzisny». Нарацыя ідзе пасля інтытуляцыі і расказвае пра абставіны, пры якіх тэстамент быў складзены ці ўнесены ў магістрат. Ян Шыбайла складаў тэстамент перад самай смерцю, таму нарацыя мае такі выгляд: «staiy naprzod pan Jan Szybayia, radca dzisnikski mienii to, ïe...». У Тодара Грыба і Цімафея Барадульскага тэстаменты былі складзены загадзя, таму яны ўносіліся на пацвярджэнне, пры гэтым указвалася, хто ўнёс тэстамент. У тэстаменце Тодара Грыба ёсць інвакацыя, што цікава, яна напісана кірыліцай: «Во имя отца, и сына, и светого духа, аминь».

Асноўная частка прадстаўлена дыспазіцыяй. Аднак у тэстаментах Тодара Грыба і Цімафея Барадульскага ёсць арэнгі з апісаннем мэты стварэння тэстаменту. У іх у самай яркай, вобразнай форме паказаны адносіны тэстатараў да жыцця, душы, фізічнай і духоўнай сутнасці асобы. Таму варта прывесці гэтыя часткі тэстаментаў у перакладзе на беларускую мову. У Тодара Грыба: «Ведаючы і памятаючы, што кожны чалавек няспынны рух здзяйсняе жыцця свайго хуткім бегам, а не ведае году, месяца, дня, гадзіны, часу, моманту, калі мусіць скончыць тое прыроджанае падарожжа, якое ні чым іншым, толькі сабой мае заплаціць і аддаць. Тады і я, нягодны чалавек і ў цэлым нікчэмны грэшнік Тодар Грыбко, прыпамінаючы сабе слова Божае і хуткі канец майго жыцця, уздумаў сабе распараджэнне сам з сабой учыніць і рукой маёй уласнай напісаць волю і жаданне маё, якое ў сабе такое ёсць <...>» [4, арк. 308]. Цімафей Барадульскі: «Я, жывучы на тым свеце мізэрным, нібы марак на абшырным моры, а гледзячы на сусветныя вольнасці, таксама прыпамінаючы канец жыцця майго і няўхільнае набліжэнне смерці, і жадаючы за волю найвышшага Бога і стваральніка мець, да шчаслівага, бяспечнага і ўдалага порта прыстаць. Тое на свае вочы бачыў неаднойчы, што калі пісьмова не падмацована, не мае каштоўнасці і вечна ў забыццё прыходзіць. Хачу тады, каб пасля сыходу майго з таго свету ніякай непатрэбнай калатнечы паміж пані Таццянай, цяперашняй жонкай маёй мілай, і сваякамі нашага Барадульскіх імені, таксама і першай жонкі маёй мілай, да Бога сышоўшай славетнай пані Ганны Абрамаўны Бальбечанкі, не было» [5, арк. 189]. Таксама ў тэстаментах прысутнічае санкцыя ў выглядзе камінацыі, гэта значыць пагрозы божага суду: «І на страшны суд Божы паклічу, калі б інакш, а не так, як я напісаў рукой маёй уласнай, учынілі» [4, арк. 308]. Усе тэстаменты былі падпісаны ўласнымі рукамі тэстатараў. Пісар рабіў запіс пра прызнанне дакумента на судзе і адзнакі аб выдачы выпісаў з кніг.

Якую ж інфармацыю пра жыццё горада Дзісны мы можам узяць з тэстаментаў?

Па-першае, звесткі па генеалогіі дзісненскіх мяшчан. Таму што ў тэстаментах як правіла ўказваліся ўсе жывыя на той момант бліжэйшыя сваякі. У Цімафея Барадульскага з блізкіх сваякоў былі толькі другая жонка Таццяна і пляменнік Рыгор. У Тодара Грыба былі маці, браты, жонка і малалетнія дзеці. У Яна Шыбайлы былі непаўналетні сын Міхал, зяць, пляменнікі і ўнукі.

Па-другое, інфармацыю пра сяброўскія сувязі і ўзаемаадносіны паміж жыхарамі Дзісны. Так, мы бачым сяброўскія адносіны паміж суседзямі Янам Шыбайлам і Цімафеем Барадульскім: Цімафей пазычыў Яну значныя сумы грошай, а Ян даверыў сябру самае дарагое, што ў яго было, — апеку над адзіным сынам Міхалам. Увагі заслугоўваюць словы, якімі Тодар Грыб адзначыў сваіх сяброў і калегаў па бізнесе Мацея і Канстанта Бухалаў: «Пэўна, такіх людзей пад сонцам ці можна было да гэтага дастаць». Ён жа тройчы патрабуе, каб сям'я не сварылася з імі і ва ўсім слухалася. Таксама бачны дрэнныя адносіны радні тэстатараў да іх жонак, як да Веры Грыбовай, так і да Таццяны Барадульскай: тэстатары адзначаюць магчымыя спрэчкі і сваркі паміж імі і заклінаюць не сварыцца.

Па-трэцяе, тапаграфічныя звесткі пра вуліцы, цэрквы, дамы, агароды, гумны і іншыя аб'екты ў Дзісне. Як адзначыў Максім Гардзееў, згадкі пра нерухомасць з'яўляюцца вельмі важнымі па некалькіх

накірунках: для лакалізацыі аб'ектаў, для разумення гаспадарчых працэсаў, для адлюстравання разнастайных эканамічных працэсаў, як тое гандаль, пазыкі, заклад нерухомасці, купля-продаж і г. д. Што ж да тапаграфічнай інфармацыі, то ў тэстаменце Цімафея Барадульскага ёсць апісанне адной з дзісненскіх вуліц: «Дом у вуліцы Прабойнай, якая ідзе ад былой Уязной брамы праз рынак да старога замку». Згадваюцца і іншыя вуліцы: Зямянская, Мытная, Духоўская, Крываносаўская, Дарашкоўская. Ёсць апісанні месцазнаходжання дамоў, агародаў, пустых пляцаў, гумна, гандлёвых лавак, хоць і не такія падрабязныя, як пры куплі-продажу.

Таксама важнымі з'яўляюцца звесткі пра гаспадарку. Узгадкі такіх аб'ектаў нерухомасці, як крама ці гумно, кажуць пра заняткі мяшчан. Акрамя таго ў тэстаментах згадваюцца коні, каровы, катлы з трубамі, розныя тавары. Як можна меркаваць, усе адзначаныя тэстатары займаліся гандлем, а некаторыя і ліхвярствам. У сваім тэстаменце Цімафей Барадульскі пра амаль кожны са сваіх дамоў адзначае, што ён знаходзіцца ў яго ў закладзе.

Апісанні асабістых рэчаў даюць уяўленне пра матэрыяльную культуру Дзісны ў 40-я гады XVIII ст. У цэлым тэстатары былі заможнымі мяшчанамі, таму тут ёсць апісанне адзення (кунтушы, сукенкі, фартухі, жупаны, гузікі, біжутэрыя), упрыгожанняў (пярсцёнкі залатыя і сярэбраныя, крыжыкі, каралі), кухоннага начыння (алавяныя лыжкі, міскі, талеркі, бронзавы посуд), прылады працы, катлы для варкі піва і інш.

Адметнасцю менавіта тэстаментаў у параўнанні з іншымі крыніцамі з'яўляецца наяўнасць у іх апісання пахавальных абрадаў, згодна якіх тэстатары прасілі іх пахаваць. Так, Ян Шыбайла папрасіў пахаваць «абрадам хрысціянскім пры царкве Васкрасення Божага» [3, арк. 448 адв.]. Цімафей Барадульскі ж пажадаў, каб яго пахавалі ў пабудаванай ім Васкрасенскай царкве «з правага боку пры памёршай першай жонцы Ганне Абрамаўне Бальбечанцы», падчас цырымоніі каб катафалк быў абкружаны шматлікімі свечкамі і лампадамі, каб штотыдзень у Васкрасенскай царкве маліліся за душы Ганны і Цімафея, а раз на год, у гадавіну смерці Цімафея, згадвалі яго ў праваслаўным брацтве. Для гэтага ён ахвяраваў брацтву дзісненскаму (у складзе якога сам быў пры жыцці) пляц на вуліцы Мытнай і пяцьдзясят талераў, таксама згадаў, што да гэтага ахвяраваў ім сто талераў, а яго першая жонка — тысячу злотых на Васкрасенскую царкву. Сам ён пакінуў царкве сто злотых, па аднаму талеру дзісненскаму плябану і францысканам. Такім чынам, бачым, што ўсе тэстатары былі праваслаўнымі, але ахвяравалі сродкі таксама і каталіцкім святарам.



З тэстаментаў можна ўзяць звесткі пра мянтальнасць мяшчан. Як правіла, тэстаменты складаліся перад самай смерцю ўжо сфарміраванымі асобамі, таму ў іх ярка выражаўся жыццёвы вопыт сталага чалавека. Яшчэ адна важная рыса тэстаменту — ён станавіўся вядомым толькі пасля смерці тэстатара, таму той быў вольны пісаць любую праўду. Аднак варта заўважыць, што ніхто з тэстатараў не пісаў нічога дрэннага пра іншых. Наадварот, мы сустракаем шматлікія пацвярджэнні павагі і захаплення навакольнымі людзьмі. Тодар Грыб згадвае «маці-дабрадзейку», піша, што «Мацей і Канстант Бухалы <...> не калегі мае, але найбольшыя дабрадзеі». Таксама Цімафей Барадульскі згадвае «зычлівасць да мяне, а ў старасці і хваробе клопат і шанаванне» сваёй другой жонкі Таццяны. Тодар Грыб згадаў, як на працягу многіх гадоў абкрадаў сваіх сяброў і кампаньёнаў Бухалаў, браў на ўласную патрэбу тавары з агульнай крамы і запісваў у асобны рэестрык. Тое, што ў тэстаменце ён згадвае пра дадзены факт, кажа пра яго як вельмі веруючага чалавека, які павінен перад вечным падарожжам скінуць увесь лішні груз з душы, адкупіць усе грахі. Атон Гедэман пра тэстамент Тодара Грыба, які змяшчаў у некалькіх сваіх кнігах, адзначае, што гэта «дзіўная мешаніна добрага і дрэннага» [6, p. 146—147; 7, p. 9—10].

Адна з рыс мянтальнасці мяшчан павінна быць выдзелена асобна. Гэта патрыятызм, які праяўляецца ў фактах ахвяравання сродкаў на родны горад. Напрыклад, Цімафей Барадульскі пакідае шматлікія свае пляцы (іх колькасць не ўказваецца) «да распараджэння і падатку ратушнага, да выплаты гіберны».

Такім чынам, тэстаменты дзісненскіх мяшчан 40-х гадоў XVIII ст. з'яўляюцца важнымі крыніцамі па даследаванні матэрыяльнай культуры, генеалогіі, тапаграфіі, мянтальнасці, справаводства і іншых аспектаў жыцця горада Дзісны. Увядзенне ў гістарычны зварот такіх дакументаў палепшыць веды пра жыццё нашых продкаў у XVIII ст.

*Літаратура і крыніцы*

1. Гардзееў, М. Запісы-тэстаменты полацкіх мяшчан часоў вайны 1654—1667 гг. як пісьмовыя гістарычныя крыніцы / М. Гардзееў // Гісторыя Беларусі : новае ў даследаванні і выкладанні : матэрыялы Рэсп. навук. -практ. канф. Мінск, 27 сакавіка 1999 г. : у 2 ч. — Мінск, 1999. — Ч. 2. — С. 39 — 42.

2. Грыб, А. В. Тэстамент гарадзенскага мешчаніна Барталамея Галоўчыца 1639 г. як крыніца па гісторыі беларускага мяшчанства / А. В. Грыб, З. Л. Яцкевіч // Гарадзенскі палімпсест. XII — XX стст. : матэрыялы Міжнар. навук. канф. па гісторыі Гродна, Горадня, 7 лістап. 2008 г. — Горадня — Беласток, 2008. — С. 214 — 220.
3. НГАБ. — Ф. 1757. — Воп. 1. — Спр. 5.
4. НГАБ. — Ф. 1757. — Воп. 1. — Спр. 6.
5. НГАБ. — Ф. 1757. — Воп. 1. — Спр. 13.
6. Hedemann O. Dzisna i Druja : magdeburskie miasta / O. Hedemann. — Wilno, 1934.
7. Hedemann, O. Testamenty brasławsko-dziśnieńskie XVII — XVIII wieku jako źródło historyczne / O. Hedemann. — Wilno, 1935.

**Д. В. Скварчэўскі (Мінск)**

# АСТРАНАМІЧНЫЯ З'ЯВЫ ВА ЎСПРЫМАННІ ЖЫХАРОЎ ВІЦЕБСКА XVIII ст.

Віцебскі летапіс Панцырнага і Аверкі з'яўляецца каштоўнай крыніцай не толькі для вывучэння палітычнай і сацыяльна-эканамічнай гісторыі горада, але і для даследавання побыту, культуры, веры і светапогляду гараджан. На яго старонкі патрапілі найбольш важныя для жыхароў падзеі, звесткі пра якія дазваляюць прасачыць цікавасці віцяблян на працягу некалькіх стагоддзяў. Летапіс Панцырнага і Аверкі, як і іншыя летапісы і хронікі, зафіксаваў шэраг незвычайных і надзвычайных прыродных з'яў, сутнасць якіх заставалася яшчэ невядомай для людзей. Асаблівае месца тут займаюць апісанні астранамічных з'яў. На старонках Віцебскага летапісу захаваліся звесткі пра 8 падзей астранамічнага характару, 5 з якіх апісваюць астранамічныя з'явы, якія назіраліся непасрэдна ў горадзе, прычым усе запісы адносяцца да пачатку XVIII ст. З гэтага вынікае, што аўтары апісвалі толькі тыя падзеі, якія назіралі асабіста. Астатнія апісанні астранамічных з'яў былі запазычаныя з розных крыніц, пра што сведчаць спасылкі ў тэксце паведамленняў. Звесткі



пра астранамічныя з'явы, якія назіраліся ў Віцебску, будуць прадметам далейшага разгляду, з дапамогай якіх мы паспрабуем прасачыць светаўспрыманне і ўяўленні віцяблян XVIII ст.

Астранамічныя з'явы, зафіксаваныя ў Віцебскім летапісе, можна падзяліць на дзве групы: назіранне гало (тры звесткі) і назіранне каметы (дзве звесткі, якія апісваюць адну і тую ж камету).

Гало — аптычны эфект, звычайна ў выглядзе кола святла вакол свяціла, як сонца, гэтак і месяца, аднак могуць утварацца і іншыя формы гало — слупы, дугі, крыжападобныя формы. Адной з формаў гало з'яўляецца паргелій — форма, пры якой на небе назіраюцца адно ці некалькі выяваў Сонца. Выклікана пераламленнем сонечнага святла ў атмасферы Зямлі. Першая згадка гало ў Віцебску адносіцца да сакавіка 1704 г. : «Roku 1704. Marca dnia 26 trzy słońca widziane były rano, ktore po prawey stronie było, to wprzod zgineło, a co po lewey stronie te nie prentko» [3, с. 198] («У год 1704, 26 сакавіка ранкам былі бачны тры сонцы: якое было з правага боку, згінула першым, а што на левым, то няхутка»). У дадзеным выпадку летапіс апісвае паргелій. Вельмі цікавымі з'яўляюцца звесткі аб часе назірання гало — ранак 26 сакавіка. Дата набліжана да хрысціянскага свята Благавешчанне, якое адзначалася 25 сакавіка. Вядома народнае павер'е, згодна якому сонца ў гэты дзень, як і на Вялікдзень, Купалле, Уздзвіжанне, на ўсходзе пачынае «іграць» — пераліваецца рознымі колерамі, разыходзіцца, вакол яго з'яўляюцца колы і г. д. [2, с. 515], што вельмі нагадвае апісанні гало. Вядомы даследчык астранамічных і метэаралагічных з'яў у старажытнарускіх летапісах і міфалогіі Д. В. Свяцкі, прааналізаваўшы народныя паданні пра «ігру» сонца, прыйшоў да высновы, што яны маюць пад сабой рэальны падмурак і бяруць пачатак ад сапраўднага назірання гало ўранку падчас святаў Благавешчанне, Вялікдзень і інш. Ён тлумачыць гэта пераламленнем сонечнага святла ў атмасферы ў сувязі з павышэннем тэмпературы паветра пры ўзыходзе сонца; такое скажэнне становіцца асабліва моцным у сакавіку — красавіку, якраз калі адбываецца святкаванне Благавешчання і Вялікадня [7, с. 71 — 73]. Такім чынам, звесткі Віцебскага летапісу пацвярджаюць народнае павер'е. У студзені 1709 г. у Віцебску назіраліся адразу два гало, 7 і 19 студзеня: «Roku 1709. Miesionca ianuari siodmego dnia widziane były trzy słońca na zachodzie" і "Roku 1709. Miesionca ianuari 19 dnia widziane były dwa słupy na połudzień, a słonce było we srżodku» [3, с. 199, 200] («У год 1709, месяца студзеня сёмага дня былі бачны тры сонцы на захадзе. У год 1709, месяца студзеня 19 дня на поўдні былі бачны два слупы, а сонца было

пасярэдзіне»). Як і ў выпадку з першым паведамленнем, найбольшую цікавасць выклікаюць згадкі датаў назірання з'яў. Зноў мы бачым супадзенне з часам святкавання важных хрысціянскіх святаў: 7 студзеня (Каляды ў праваслаўных і Свята Трох Каралёў у каталікоў) і 19 студзеня (Вадохрышча ў праваслаўных). Улічваючы імавернае ўніяцкае веравызнанне аднаго з аўтараў Віцебскага летапісу Стэфана Гаўрылавіча Аверкі [3, с. 13] і спасылкі на «рускі каляндар» у тэксце крыніцы, можна меркаваць, што згадкі аб астранамічных з'явах могуць звязвацца менавіта са святамі праваслаўнага календара, хаця прамых сведчанняў гэтаму ў летапісу няма. Аднак гэта цалкам верагодна, бо існавала традыцыя ўспрымання астранамічных з'яў у якасці нябесных, боскіх знакаў. Таму не дзіўна, што летапісец фіксаваў менавіта тыя астранамічныя з'явы, якія назіраліся падчас рэлігійных святаў.

20 ліпеня 1704 г. жыхары Віцебска сталі сведкамі незвычайнай падзеі, якая прыцягнула ўвагу і летапісцаў, якія пакінулі адразу два запісы: «Roku 1704. Miesionca iuli w dzień swienta swiontego Eliasza swienta ruskiego iula dwudziestgo była kometa na niebie przy zachodze słońca. Pierwey toczyła sie iako kula, potym stawszy słupem przez godzin dwie»; «Roku 1704. Juli 20. Na swienty Heliasz ruski znak był na niebie, kometa» [3, c. 198, 200] («У год 1704 у месяцы ліпені, у дзень рускага свята святога Іллі, ліпеня дваццатага, з'явілася на небе пры захадзе сонца камета. Спярша рухалася як куля, а потым стаяла слупам гадзіны са дзве», «У год 1704, 20 ліпеня, на святога рускага Іллю знак быў на небе, камета»). Тут мы бачым ужо прамую згадку назірання астранамічнай з'явы на хрысціянскае свята. Летапісныя апісанні каметы сведчаць пра тое, што назіраемы аб'ект каметай не з'яўляўся. Па ўсіх прыкметах, жыхары Віцебску назіралі падзенне вельмі яркага метэарыта (баліда), пасля палёту якога яшчэ назіраўся след з пылу і іянізаваных газаў («stawszy słupem przez godzin dwie»). Гэты ж самы аб'ект, які таксама памылкова палічылі за камету, назіраўся і ў Магілёве: «W tym roku 1704-m. Na święty Heliasz, to iest dnia 20 jula, w czas wieczorny, iak pędziło się bydło, okazała się kometa na niebie, z małey wyniknęła gwiazdy, a potym rozszerzywszy się ku połnocy koniec swoy toczyła, y straszno to było. Na ten czas w wieczor po Cerkwiach y molebny generalne odprawowano. Trwała ta kometa aż do pułnocy. Na ten czas mowiono, iż czasu tego car J[ego] m[os]c Petr Alexiejewicz Rygę szwedzką dostał <...> niewiadomo» [4, c. 260] («У гэтым жа 1704 годзе. На святога Іллю, гэта значыць 20 ліпеня, у вячэрні час, як гналася быдла, паказалася на небе камета, з'явілася з малой зоркі, а потым, павялічыўшыся, вяла свой хвост на поўнач, і страшна гэта было. У гэты



час, увечары, былі адслужаны ў цэрквах усеагульныя малебны. Трывала гэтая камета аж да апоўначы. Тады ж гаварылі, што ў гэты момант яго-масць Пётр Аляксеевіч узяў шведскую Рыгу<...> невядома»). Як бачна, Магілёўская хроніка пакінула вельмі падрабязныя і дакладныя апісанні падзеі, якія таксама сведчаць пра тое, што назіраемы аб'ект з'яўляўся падаючым метэарытам, а не каметай. Магілёўскі храніст, акрамя таго, перадаў і атмасферу ў грамадстве, якую выклікаў палёт метэарыта — людзей апанаваў страх, у цэрквах ішлі службы, якія павінны былі адвесці небяспеку і выратаваць людзей. Падзенне метэарыту у дзень св. Іллі, які заняў месца грымотніка Пяруна, магло атаясамляцца з пакараннем за грахі, а сам вогненны след — са зброяй св. Іллі/Пяруна. Чалавек пачатку XVIII ст. яшчэ моцна трымаўся старых уяўленняў. Важным момантам паведамлення Магілёўскай хронікі пра метэарыт 1704 г. з'яўляецца сувязь з'явы з вайсковай дзейнасцю расійскага цара Пятра І. Як мы ўбачым, гэтая сувязь невыпадковая. Падобнае мы назіраем і ў Чарнігаўскім летапісу: «1704. Змий великий огнистый въ панстве шведскомъ зъ неба спалъ, месяца іюля дня 20, и былъ виденый отъ всехъ такъ въ Полщи, яко и въ Белой Руси, на северу, и Украине, злетелъ головою на землю; а то летелъ по вечерне и долго въночь трвалъ, махъ ошибъ свой до горы, потымъ ввесь зсунулся на землю» [8]. Тут метэарыт узгадваецца пад архаічнай традыцыйнай назвай «змей», якая неаднаразова сустракаецца ў летапісах, як, напрыклад, у Валынскім кароткім летапісу: «<...> внезапу спаде превеликь змии от небеси, и узасошася вси людие, и земля стукну, яко мнозе слышаша» [4, с. 119]. Гэтае пазначэнне захавалася ў беларусаў і ў XIX—XX стст., калі пра падаючы метэор сяляне казалі: «Змей паляцеў» [1, с. 74]. Пэўнае непаразуменне з тэрмінам kometa у гарадскіх хроніках Віцебска і Магілёва звязана, імаверна, з тым, што ў той час прырода камет да канца не была высветлена, з-за чаго ён не набыў свайго канкрэтнага значэння, а таму і ўжываўся ў дачыненні да ўсіх падобных з'яў.

Чарнігаўскі летапіс адзначае, што падзенне метэарыту назіралася амаль ва ўсіх краінах Усходняй Еўропы, а таксама пазначае месца падзення — «у панстве шведскім», што адпавядае ўскосным звесткам Магілёўскай хронікі. Згадка пра сувязь падзення метэарыта з вайсковай дзейнасцю Пятра І знаходзіць шматлікія пацверджанні ў рускіх крыніцах, якія пакінулі ўдзельнікі аблогі Нарвы ў 1704 г. Пра падзенне метэарыту 20 ліпеня 1704 г. у ваколіцах Дэрпта сведчаць барон Гізэн у сваім дзённіку, Я. В. Брус у лісце да Пятра І ад 9 красавіка 1716 г., Пётр І у паходным журнале, Б. П. Шарамецеў у лісце да Ф. А.

Галавіна ад 21 ліпеня 1704 г., І. І. Голікаў у «Деяниях Петра» [5, с. 472–474; 6, с. 61–62] . Усе апісанні вылучаюцца падрабязнасцю і рэалізмам. Цікавыя сведчанні пакінуў барон Гізэн. Паводле яго, падзенне метэарыту выклікала занепакоенасць і нават страх у рускім войску: «На сие слышны были в армии разные мнения и предвещания, и изрекали многие примеры, что таковые метеоры, случившиеся в иных времянах и местех, предвещали некакие чрезвычайные дела» [цыт. па 6, с. 62]. Пра гэта захаваліся звесткі і ў І. Голікава: «Суеверие привело все войско в страх и принудило монарха изъяснить оному причины, что то не чрезъестественное, но часто случающееся явление, никакого влияния на действия человеческие не имеющее» [цыт. па 5, с. 474]. Як бачна, уяўленні пра метэоры як прадвеснікаў благіх здарэнняў заставаліся шырока распаўсюджанымі ў пачатку XVIII ст. Разам з гэтым віцебскія летапісцы даволі стрымана адрэагавалі на гэтую выбітную і незвычайную для ўсёй Усходняй Еўропы астранамічную падзею, абмяжоўваючыся толькі самім апісаннем палёту баліда, што можа ўскосна сведчыць пра разуменне імі прыроды назіраемай з'явы. Як аднесліся да гэтай падзеі простыя віцябляне, застаецца невядомым.

Такім чынам, астранамічныя з'явы 1704 – 1709 гг. віцебскі летапісец назіраў асабіста і апісаў іх даволі падрабязна. Ускосныя дадзеныя сведчаць пра тое, што аўтар летапісу быў знаёмы з еўрапейскімі астранамічнымі дасягненнямі, а таму ў яго запісах адсутнічаюць традыцыйныя для таго часу ўяўленні і забабоны, звязаныя з астранамічнымі з'явамі. Аднак імаверна, што на старонкі летапісу патрапілі толькі тыя падзеі, якія адбываліся ў дзень рэлігійных святаў, нібыта пацвярджаючы боскую сутнасць нябесных з'яў, якія з'яўляліся для людзей цудам.

*Літаратура і крыніцы*


1. Багдановіч, А. Я. Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў : этнаграфічны нарыс. – Рэпрынтнае выд. 1895 г. / А. Я. Багдановіч. – Мінск : Беларусь, 1995. – 186 с.
2. Валодзіна, Т. Уздзвіжанне крыжа гасподня / Т. Валодзіна, У. Васілевіч, С. Санько // Беларуская міфалогія : Энцыклапед. слоўн. – Мінск : Беларусь, 2006. – С. 515 – 516.
3. Полное собрание русских летописей. Т. 32. Хроники : Литовская и Жмойтская, и Быховца. Летописи : Баркулабовская, Аверки и Панцырного / Сост., авт. предисл. и ред. т. Н. Н. Улащик. – Москва : Наука, 1975. – 233 с.





4. Полное собрание русских летописей. Т. 35. Летописи Белорусско-литовские / Сост., авт. предисл. и ред. т. Н. Н. Улащик. – Москва : Наука, 1980. – 305 с.
5. Святский, Д. О. Астрономия Древней Руси / Д. О. Святский; авт. предисл., ком. и доп. М. Л. Городецкий. – Москва : НП ИД «Русская панорама», 2007. – 663 с.
6. Святский, Д. Болид 20 (31) июля 1704 года / Д. Святский // Мироведение. – 1930. – Т. 19. – №1. – С. 61 – 62.
7. Святский, Д. О. Под сводом хрустального неба. Очерки по астральной мифологии в области религиозного и народного мировоззрения / Д. Святский. – С. -Петербург, 1913. – 187 с.
8. Черниговская летопись по новому списку (1587–1725) // Ізборник. Історія України IX–XVIII ст. Першоджерела та інтерпретації [Электронны рэсурс]. – 2009. – Рэжым доступу : http://litopys. org. ua/chernlet/chern02. htm # text.


**В. А. Кобринец (Пинск)**

## ДВА «ЧИСТЫХ» РУССКИХ КЛАДА 2000 г. ИЗ г. ОРШИ

Среди нумизматических памятников Беларуси особое место занимают «чистые» русские клады, т. е. состоящие исключительно из образцов продукции денежных дворов Московской державы. В нумизматической литературе уже указывалось, что русские монеты на рынках Великого княжества Литовского в XVI – XVII вв. подвергались фактически полубойкоту, использовались как высокопробное серебро [6, с. 214; 3, с. 76]. Тем не менее, они в какой-то мере участвовали в рыночной жизни, так как в кладах присутствуют в виде небольшой примеси с западноевропейскими, польскими и литовскими монетами. «Чистые» русские клады, будучи сокрытыми, так и не вошли в денежное обращение и могут рассматриваться не как реликты денежного обращения княжества, а как памятники наиболее значительных общественно-политических событий («чрезвычайных» обстоятельств) на территории Великого Княжества Литовского – событий Смутного времени в России 1603 – 1618 гг., ее войн с Речью Посполитой (Смоленская вой-

на 1632 — 1634 гг., 13-летняя война 1654 — 1667 гг.). Сегодня известно 20 таких депозитов, датируемых XVI — XVII вв.

В мае и июле 2000 г. в Оршанский музей поступили два «чистых» русских клада середины XVII в., насчитывавшие 117 и 1126 экз., общим весом в 51,9 и 505,4 г соответственно, приобретенные у местного жителя О. В. Иголкина. Вместе с малым кладом в музей поступил фрагмент посуды для питья (?) XVII в. местного производства [5, приложение: посуда для питья XVII — XVIII вв.], в котором, по словам находчика, находился депозит (рис. 1). Второй клад, со слов находчика, был завернут в ткань, которая рассыпалась при разворачивании. В 2000 г. клад из 117 экз. был разобран и определен старшим научным сотрудником НАН РБ Ш. И. Бектинеевым. Клад был датирован исследователем 1654—1655 г. [1, с. 4]. Клад из 1126 экз. был разобран и определен заведующим Музеем истории и культуры города Орши В. П. Лютынским и страшим научным сотрудником музея Л. А. Котелевой. В 2006 — 2007 гг. оба клада были определены автором.

1. Клад из 117 экз. общим весом в 51,9 г. Россия (царство) — Борис Федорович, копейка, м. дв. Псков (1600) (ПС); Михаил Федорович, копейки, м. дв. Москва (1614) (мос/ква), (1616) (2; мос/ква, мо), (1617) (3; 2 — мос/ква [1 — пробита], 1 — о/М), (1619) (5; 2 — о/М, 1 — мос/ква, 2 — м), (1621) (м), (1624) (3; о/М [1 — развёрнута]), (1625) (8; о/М [2 — с двойным ударом]), (1627) (1; о/М Б-О), (1629) (1; о/М), (1632) (1; о/М), (1633) (2; о/М [1 — пробита]), 1635 (2; о/М), 1637 (1; о/М), 1639 (1; о/М), 1641 (4; о/М), 1642 (4; 3 — о/М [1 — пробита], 1 — к-мос/ква-ч, двойной удар), (1641 или 1642) (1; о/М), (1643) (2; о/М), (1645) (2; о/М), (между 1637 — 1645) (1; о/М), без определения даты (1; о/М, односторонка), м. дв. (?), (1640-е гг.) (2), без определения даты (1); Алексей Михайлович, копейки, м дв. Москва (32; о/М [3 — с двойным ударом]), м. дв. (?), (30; из них 5 с двойным ударом), денга, м. дв. (?), (1; двойной удар, развёрнута); неопределимые копейки XVII в., м. дв. Москва, (после 1645) (2; о/М [1 — односторонка]), м. дв. (?), (после 1640) (1). Определение автора.

2. Клад из 1126 экз. общим весом в 505,4 г. Россия (царство) — Иван IV Васильевич, копейка, м. дв. Новгород (ПС) (1547), денга (дє) (после 1547); Борис Федорович, копейка, м. дв. Псков (ПСРЗ) (1599); Владислав Жигимонтович, копейка, м. дв. Москва (1611); шведская оккупация Новгорода, копейки, м. дв. Новгород (1611 — 1615) (PIN), (1615 — 1617) (НРГI); Михаил Федорович, копейка, м. дв. Москва (1614) (12; мос/ква, [1 — пробита, 1 — развернута]), (1614?) (1; мос/ква(?), пробита), (1615) (1; мос/ква, пробита), (1616) (30; 7 — мо [2 — развернуты], 4 — мо/сква, 4 — мо/сквя, 15 — мос/ква [2 — развернуты, 1 — пробита, развернута]), (1617) (32; 1 — м, 1 — мо/сква, 1 — мо/сквя, 28 — мос/ква [3 — с попыткой свернуть, 1 с двойным ударом и пробита]), (1618) (22; 5 — м [1 — с двойным ударом], 9 — мо, 1 — мо/сквя, 5 — мос/ква, 1 — мос/ква(?), 1 — о/М), (1619) (30; 13 — м [1 — с попыткой свернуть, 1 — развернута, 1 — с двойным ударом], 1 — мо/сква, 1 — мо/сква(?), 1 — мо/сквя [пробита], 4 — мос/ква [1 — развернута], 10 — о/М [1 — с попыткой свернуть]), (1620) (5; 1 — м, 1 — мо/сква, 3 — о/М), (1621) (2, о/М), (1622) (2, о/М), (1614 — 1622) (1, мос/ква, односторонка), (1623) (8, о/М), (1624) (9, о/М [1 — с двойным ударом]), (1625) (37 — о/М [2 — развернуты, 1 — с попыткой пробить, 1 — пробита]), (1626) (1, о/М), (1627) (5, о/М Б-О [1 — развернута]), (1629) (19; 17 — о/М, 2 — о/М Б-О), (1620-е) (1, о/М, двойной удар, развернута, пробита), (1631) (3; 1 — к-м/ос/к-ч, 2 — к-мос/ква-ч), (1632) (10; 7 — к-мос/ква-ч [1 — пробита], 3 — о/М), (1633) (7; 1 — к-м/ос/к-ч, 6 — о/М), (1632 или 1633) (1, о/М, двойной удар), (1634) (1, о/М), (1635) (12, о/М [1 — с двойным ударом, 1 — пробита]), (1636) (6; 4 — к-мос/ква-ч, 2 — о/М), (1637) (6; 2 — к-мос/ква-ч, 4 — о/М [1 — с двойным ударом]), (1639) (18, о/М [2 — с двойным ударом, 1 с попыткой свернуть]), (1630-е) (3, о/М), (1640) (1, к-мос/ква-ч), (1641) (23, о/М [3 — развернуты, 1 — с попыткой свернуть, 1 — с двойным ударом]), (1642) (36; 3 — к -мос/ква-ч, 33 — о/М [2 развернуты,3 — с двойным ударом]), (1639 — 1642) (1, о/М, односторонка), (1641 или 1642) (1, о/М), (1643) (36; 4 — к-мос/ква-ч [1 — с двойным ударом], 33 — о/М [1 — с попыткой свернуть, 3 — с двойным ударом, 1 — развернута, 1 — с двойным ударом и развернута]), (1641 — 1643) (1, к-мос/ква-ч, двойной удар, попытка свернуть), (1641 — 1643) (4, о/М [1 — с двойным ударом]), (1642 или 1643) (3, о/М [двойной удар]), (1644) (14, о/М [1 — с двойным ударом штемпеля]), (1645) (31, о/М [2 — с двойным ударом, 1 — развернута, 1 — с попыткой свернуть]), 1644 или 1645) (1, о/М), (1644 — 1645) (1, о/М), (1645?) (1, о/М), (1640-е) (7, о/М [2 — с двойным ударом]), (после 1624 г.) (2, о/М [1 — с двойным ударом]), (после 1630 г.) (1, о/М), (после 1641 г.) (1, о/М, двойной или тройной удар), с неопределимой датой (9, о/М [1 — односторонка, 1 — с двойным ударом, 1 — развернута]), м. дв. Новгород (5; [1 — с попыткой свернуть, 1 — н/рке, 1 — развернута), м. дв. Псков, (1617) (2, ПС), (1627) (1, ПС), (1617 или 1627) (14, ПС), м. дв. (?) (до 1616), (1), (1619) (1), (1619?) (1), (1610-е) (5 [1 с двойным ударом]), (1618 — 1620) (1, пробита и развернута), (до 1620) (1), (1621) (1, развернута), (до 1622) (1, с двойным ударом), (1623)

(1), (после 1620) (1, недопробита), (после 1622 г.) (1, с двойным ударом штемпеля), (после 1624 г.) (2), (1635) (1), (после 1630 г.) (1), (после 1632 г.) (1), (после 1633 г.) (1), (1630-е) (3 [1 — с двойным ударом]), (1641) (1), (1642) (2 [1 — с двойным ударом]), (1643) (3), (1641 — 1643) (1), (после 1641 г.) (1, односторонка), (1640-е) (3), с неопределимой датой (4 [1 — с двойным ударом на обеих сторонах]); Алексей Михайлович, м. дв. Москва, копейки (267, о/М, из них 1 развернута, 28 с двойным ударом штемпеля), м. дв. Москва (?), копейки (3, о/М (?), из них 1 с двойным ударом штемпеля), м. дв. Новгород, копейка (1657/1658) (1, нов/[грд]), м. дв. (?), копейки (285 [2 — односторонки, 44 — с двойным ударом штемпеля, 1 — с двойным или тройным ударом, 1 — с тройным ударом), м. дв. (?), денги (2); неопределимые копейки XVII в. (41; м. дв. Москва, о/М, (после 1629 г.) (1), (после 1640 г.) (5 [1 — односторонка, 1 — с двойным ударом), (после 1643 г.) (1), (после 1644 г.) (4 [1 — односторонка], (после 1645 г.) (1), (с неопределимой датой) (4), м. дв. (?), (после 1629 г.) (3), (после 1640 г.) (7, [1 — с двойным или тройным ударом, 1 — с тройным ударом], (после 1641 г.) (1, попытка свернуть), (после 1643 г.) (1), (после 1644 г.) (2), с неопределимой датой (11, [1 односторонка]). Определение автора.

Все монеты клада из 117 экз., кроме одной (псковской копейки Бориса Годунова), — копейки Михаила Федоровича и Алексея Михайловича. В кладе представлены монеты Московского монетного двора, фальшивых монет не обнаружено. В кладе из 1126 экз. представлены монеты Михаила Федоровича и его сына Алексея Михайловича, кроме шести (денга и новгородская копейка Ивана IV Васильевича, псковская копейка Бориса Фёдоровича, московская копейка Владислава Жигимонтовича и две копейки шведской оккупации Новгорода 1611 — 1617). Монеты Михаила Федоровича представлены памятниками продукции трех денежных дворов (Москвы, Пскова и Новгорода). В кладе выявлено большое количество монет Московского денежного двора времени Алексея Михайловича (555 экз.), из них 3 с предположительным прочтением знака монетного двора и 285 с нечитаемым знаком монетного двора. В депозите обнаружена редкая новгородская копейка (1656—1657 г.) Алексея Михайловича (рис. 2) [2, с. 187; 4, с. 20]. Фальшивых монет в кладовом комплексе не выявлено. Визуальный осмотр сосуда, изучение монетных составов обоих кладов и то, что их находчиком был один и тот же человек, позволяют предположить, что это был один депозит, сокрытый недалеко от Ильинской церкви (на ее месте в XVII в. существовала деревянная Ильинская церковь).



Проведенный разбор и определение обоих кладов позволяют пересмотреть некоторые предварительные выводы о кладе из 117 монет, высказанные Ш. И. Бектинеевым [1, с. 4]. В кладе не были выявлены русско-датские копейки, так называемые деннинги. Копейки с латинской буквой «S» в слове «KNSЬ» (т. е. «князь». — В. К.), определенные как деннинги, эти монеты имеют аналоги среди копеек Московского денежного двора. Предположение о случайности присутствия в кладе копейки Бориса Годунова требует корректировки. Известны случаи, и они довольно обычны, когда в кладах этого времени в качестве неконтролируемого остатка присутствуют и более ранние монеты, например в аналогичном кладе из 1126 экз. из гор. Орши. Приписывание клада приказчику или слуге купца, торговавшего с Россией, т. е. отнесение его к торговым депозитам, на мой взгляд, не совсем точно отражают современную ему действительность. Иностранные купцы осуществляли свои торговые операции с Россией, используя в основном талеры, а не копейки. Исследователь считает, что этот клад является памятником внешних экономических связей и не принадлежит денежному хозяйству Речи Посполитой. На мой взгляд, объяснение тому, что клад не принадлежит к внутреннему денежному обращению Беларуси, следует видеть в том, что он является свидетельством «чрезвычайных обстоятельств» (войны России с Речью Посполитой 1654 — 1667 гг.). Ш. И. Бектинеев датирует клад 1654 — 1655 гг., связывая это с началом войны 1654—1667 гг. и денежной реформой царя Алексея Михайловича. На мой взгляд, клад можно датировать более поздним временем. Отзыв из обращения серебряных копеек в начале войны еще не приобрел такого масштаба, чтобы вызывать их утаивание в самой России и на сопредельных с ней территориях Речи Посполитой. «Чистые» русские клады с младшими монетами Алексея Михайловича, на мой взгляд, непосредственно связаны с присутствием на белорусских землях русских войск. После их ухода такие клады неизвестны. Возможно, они отразили места дислокации крупных воинских соединений России на территории Беларуси. Также не исключено, что они могли быть памятниками последнего этапа войны 1654 — 1667 гг., когда русские войска терпели поражение от войск Речи Посполитой.

В связи с присутствием в кладе новгородской копейки Алексея Михайловича время вероятного сокрытия клада может быть довольно сильно ограничено. Он мог быть сокрыт между 1657 г. (младшая монета — новгородская серебряная копейка Алексея Михайловича)

и 1661 г., когда Орша была освобождена войсками Речи Посполитой. Исключительная редкость новгородской копейки Алексея Михайловича, монетный состав обоих кладов (исключительно русские монеты), сумма клада (более 12 рублей), военно-политические события того времени (война России с Речью Посполитой 1654 — 1667 гг.) позволяют предположить, что человеком, сокрывшим клад, мог быть русский «служилый человек» — из конницы или начальный человек. Годовое жалованье пехотинца в это время не превышало 4 — 5 рублей, конник получал не менее 15 рублей. Предположительно, он мог быть участником битвы на р. Басе, притоке Прони (в 40 км от Могилева), в 1661 г. между российским войском и войском Речи Посполитой. Также возможно, что этот клад мог быть частью воинской казны.

*Литература и источники*

1. Бектинеев, Ш. Оршанский клад / Ш. Бектинеев // Веды. — 2000. — Жнівень. — С. 4.
2. Зверев, С. В. Неизвестные Новгородские денежные дворы середины XVII века / С. В. Зверев // XIV Всероссийская нумизматическая конференция: тезисы докладов и сообщений, Санкт-Петербург, Гатчина, 16 — 21 апреля 2007 года. / ГИМ; редкол. : В. В. Зайцев [и др.]. — С. -Петербург, 2007. — С. 186 — 190.
3. Кобринец, В. Копеечные «корали» XVII века (полоцкая находка 1990-х гг.) / В. Кобринец // Банкаўскі веснік : матэрыялы III Міжнароднай нумізматычнай канферэнцыі «Монета — символ государства». — 2008. — № 7. — С. 76 — 79.
4. Кобринец, В. Новгородская копейка Алексея Михайловича из оршанского клада 2000 г. / В. Кобринец // Нумизматика. Медали. Фалеристика. Бонистика. — 2009. — № 2. — С. 19 — 21.
5. Левко, О. Н. Средневековое гончарство северо-восточной Белоруссии / О. Н. Левко; под ред. Г. В. Штыхова. — Мінск : Навука і тэхніка, 1992. — 127 с.
6. Рябцевич Д. В. Полоцкий пожар 1643 г. / Д. В. Рябцевич // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі : матэрыялы IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі, Полацк, 23—24 кастрычніка 2002 г. / Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік; склад. Т. А. Джумантаева. — Полацк, 2002. — С. 213 — 215.



**І. Н. Колабава (Мінск)**

# АПІСАННЕ ЎЛАСЦІВАСЦЯЎ ФАЛЬШЫВЫХ КРЭДЫТНЫХ БІЛЕТАЎ У СПРАВАХ ФОНДА КАНЦЫЛЯРЫІ ВІЦЕБСКАГА ГРАМАДЗЯНСКАГА ГУБЕРНАТАРА (1840-я — 1850-я гг.)

У 1769 г. асігнацыйнымі банкамі Масквы і Пецярбурга ў абарачэнне выпускаюцца першыя расійскія асігнацыі вартасцю ў 25, 50, 75 и 100 рублёў, а ў 1786 г. адбываецца выпуск асігнацый у 5 і 10 рублёў.

Рост аб'ёмаў папяровых грашовых знакаў прывёў да паступовага зніжэння іх кошту. У 1786 г. ён адпавядаў 98 капейкам срэбрам, а ў 1795 г. — усяго 68,5 капейкам. Пасля дэвальвацыі 1839 г. срэбраны рубель адпавядаў 3,5 асігнацыйным рублям.

Падчас рэформы, праведзенай пад кіраўніцтвам міністра фінансаў Я. Ф. Канкрына (1839—1843), Маніфестам ад 16 чэрвеня 1843 г. «О замене ассигнаций и других денежных представителей кредитными билетами» на працягу 1843—1844 гг. у абарачэнне ўводзяцца дзяржаўныя крэдытныя білеты вартасцю ў 5, 10, 25, 50 и 100 рублей [19, с. 288].

Першапачаткова крэдытны рубель, які быў прыраўнены да срэбранага, абменьваўся на асігнацыі ў адносінах 1:3,5 [1, с. 12]. У далейшым падобныя суадносіны страчваюць сваю стабільнасць.

Паралельна з гэтымі зменамі ў краіне разгортваецца працэс выраблення папяровых фальсіфікатаў, прычым паступова ён набывае даволі значныя маштабы. Падробка крэдытных білетаў, як сведчаць архіўныя дакументы, праводзілася не толькі ўнутры краіны, але і паза яе межамі, напрыклад, у Англіі і Германіі [3, с. 12].

У фондзе № 1430 канцылярыі Віцебскага грамадзянскага губернатара Нацыянальнага гістарычнага архіва Рэспублікі Беларусь захаваўся шэраг спраў з «Описаниями признаков фальшивых кредитных билетов» рознай вартасці, якія пачынаюць паступаць у Віцебск у 1840-я гг. [6 — 17].

Для прыкладу можна прывесці вытрымкі з некаторых спраў, дзе прыводзіцца апісанне падробных купюр рознай вартасці.

— 25. 10. 1844 г. «Экспедиция Депозитной кассы в числе текущего октября представила г-ну министру финансов десять фальши-

вых депозитных билетов 5-рублевого достоинства, объяснив при этом, что билеты сии в одинаковой новой, поныне не бывшей еще в виду подделки; что билеты эти присланы по почте <...> из уездного казначейства Западных губерний <...>», прычым тры з іх аказаліся высланымі з Віцебскага павятовага казначэйства. У дакуменце гаворыцца аб вельмі высокім узроўні выканання падробак, але, тым не менш, на адваротным баку прысутнічалі «ошибки противу правописания» [7, арк. 1 – 1 ад.].

Да гэтай справы прыкладалася афіцыйнае «Описание признаков фальшивых билетов депозитной кассы 5-рублевого достоинства». У ім адзначалася, што пры выпрацоўцы фальшывак выкарыстана папера «машинного отлива, внутренние знаки на некоторых просколблены». Далей вызначаюцца памылкі тэхнічнага характару, напрыклад, «рамки на обеих сторонах билетов <...> сделаны нечисто: линия рамок гранирована два раза <...>». Адзначаны і граматычныя недакладнасці, напрыклад, «<...> в слове "Правилъ", вместо буквы "ъ" поставлено "ь"» і г. д. [6, арк. 4 – 4 ад.].

– 12.09.1848 г. да віцебскага грамадзянскага губернатара з Экспедыцыі дзяржаўных крэдытных білетаў паступае апісанне фальшывых білетаў 50-рублёвай вартасці першага роду падробкі. У дакуменце гаворыцца, што лісты для падробак былі «вырезаны из почтовой бумаги без внутренних знаков... пропись вся составлена из неровных черточек <...>» [7, арк. 1]. Фальшывыя білеты былі выраблены літаграфічным спосабам.

– 8.04.1850 г. з Экспедыцыі дзяржаўных крэдытных білетаў у Віцебск паступае новае «Описание», дзе вызначаны асаблівасці «нового роду фальшивых кредитных билетов 10-рублевого достоинства, подделанные литографическим способом довольно искусно». Для выраблення падробак была выкарыстана «почтовая бумага без внутренних знаков <...> Орел сделан меньше; на крыльях орла все гербы кривы» [8, арк. 1].

– 27.02.1851 г. да віцебскага губернатара паступае «Описание фальшивых 25-рублевых кредитных билетов новой подделки (третьего рода)». У дакуменце адзначана, што для выраблення фальшывак выкарыстана «бумага почтовая, без внутренних знаков <...> орел для темноты несколько замазан, корона над орлом уже <...> в слове "наказаниямъ", вместо буквы "я" сделано "е" <...> Весь билет гравирован на металлических досках и печатан обыкновенным способом» [11, арк. 2].



– 23.03.1851 г. у губернскую канцылярыю паступае апісанне падробных аднарублёвых крэдытных білетаў «новой подделки (второго рода)», якія таксама былі зроблены на паштовай паперы без вадзяных знакаў [12, арк. 1].

– 20.04.1851 г. у сувязі са з'яўленнем у абарачэнні новага (чацвёртага) віду подробак пад 3-рублёвыя крэдытныя білеты ў канцылярыі віцебскага грамадзянскага губернатара зафіксавана адпаведнае апісанне фальсіфікатаў. У ім указваецца, што для падробак выкарыстана «бумага машинная неклеенная, без внутренних знаков <...> орел и гербы на крыльях кривы <...> в слове "фонда" буква "о" пропущена», а таксама прыводзіцца і шэраг іншых недакладнасцяў [13, арк. 1].

Аналіз спраў, у якіх утрымліваюцца афіцыйныя апісанні падробак пад крэдытныя білеты, дае магчымасць зрабіць некаторыя высновы. Агульная колькасць такіх «Описаний» у фондзе канцылярыі віцебскага грамадзянскага губернатара складае 13 адзінак, размешчаных у 12 архіўных справах.

У матэрыялах канцылярыі захаваліся «Описания» фальшывых крэдытных білетаў вартасцю ў 1, 3, 5, 10, 25, 50 рублёў. Адпаведна ў большасці выпадкаў гэта апісанні падробак рознага віду пад 50-рублёвыя білеты (4 выпадкі), далей ідуць фальсіфікаты 3-рублёвых білетаў (3 выпадкі), 5-, 10- і 25-рублёвыя падробкі (па 2 выпадкі), 1-рублёвы фальсіфікат (1 выпадак). У фондзе не зафіксаваны афіцыйныя апісанні падробак пад 100-рублёвыя крэдытныя білеты, хаця ў абарачэнні яны прысутнічалі.

Друкаваліся яны звычайным літаграфічным спосабам, матрыцы, у асноўным, выразаліся на металічных дошках. Здзіўляе, праўда, значная колькасць розных граматычных недакладнасцяў і звычайных памылак. Гэтая неахайнасць можа ў некаторым сэнсе тлумачыцца разуменнем таго, што звычайны карыстальнік папяровых грошай не будзе прыглядацца да правільнасці напісання таго ці іншага слова ці дакладнасці выяў.

Звяртае на сябе ўвагу таксама і тое, што афіцыйныя апісанні фальшывых крэдытных білетаў, што захаваліся у фондзе губернскай канцылярыі, храналагічна сканцэнтраваны ў 1840 – 1850-х гг. Магчыма, гэта тлумачыцца актывізацыяй барацьбы з падробкай папяровых грашовых знакаў з боку ўрада ў гэты перыяд, а таксама тым, што больш познія апісанні па нейкім прычынам часткова не захаваліся.

*Літаратура і крыніцы*
1. Васюков, А. И. Бумажные денежные знаки России и СССР / А. И. Васюков, В. В. Горшков, В. И. Колесников, М. М. Чистяков. — С.-Петербург : Политехника, 1994. — 215 с.
2. Грималаускайте, Д. О некоторых признаках фальсифицированных кредитных билетов Российсколй империи 1843—1854 гг. / Д. Грималаускайте // Пятнадцатая Всероссийская нумизматическая конференция. — Москва, 2009. — С. 192 — 194.
3. Колобова, И. Зарубежные центры по подделке российских кредитных билетов (вторая половина XIX в.) / И. Колобова // Pieniądz —kapital — praca — wspólne dziedzictwo Europy —Białorus Litwa Łotwa Polska Rosja — Słowacia, Ukraina. Materialy z VIII Miedzynarodowej Konferencji Numizmatyczne. — Warszawa, 2008. — S. 193—197.
4. Колобова, И. Н. Фальшивые российские кредитные билеты на территории Витебской губернии во второй половине XIX в. / И. Колобова //Пятнадцатая Всероссийская нумизматическая конференция. — Москва, 2009. — С. 195 — 196.
5. Колобова, И. Н. Фальшивые российские монеты и ассигнации в Витебской губернии первой половины XIX в. / И. Колобова // XIV Всероссийская нумизматическая конференция. — С.-Петербург, 2007. — С. 205 — 206.
6. Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь (НГАРБ). — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 13247. Дело о фальшивых депозитных билетах, появившихся в обращении (1847—1848).
7. НГАРБ. — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 16964. Дело по отношению Министерства финансов с описанием признаков подложности кредитных билетов (1848).
8. НГАРБ. — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 20292. Дело о высылке 50 экз. перечня признаков фальшивых 10-рублевых кредитных билетов (1850).
9. НГАРБ. — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 20295. Дело о высылке перечня признаков фальшивых 50-рублевых кредитных билетов (1850).
10. НГАРБ. — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 20299. Дело о появлении 50-рублевых кредитных билетов новой подделки (1850).



11. НГАРБ. — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 21904. Дело по отношению Экспедиции государственных кредитных билетов о наблюдении за появлением в обращении фальшивых печатных 25-рублевых кредитных билетов (1851).
12. НГАРБ. — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 21908. Дело по отношению Экспедиции государственных кредитных билетов о наблюдении за появлением в обращении фальшивых печатных однорублевых кредитных билетов (1851).
13. НГАРБ. — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 21910. Дело по отношению Экспедиции государственных кредитных билетов о наблюдении за появлением в обращении фальшивых 3-рублевых кредитных билетов (1851).
14. НГАРБ. — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 21917. Дело по отношению Экспедиции государственных кредитных билетов о появлении в обращении фальшивых печатных 10-рублевых кредитных билетов (1851).
15. НГАРБ. — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 21920. Дело по отношению Экспедиции государственных кредитных билетов о появлении в обращении фальшивых печатных 25-рублевых кредитных билетов (1851—1852).
16. НГАРБ. — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 25513. Дело о появлении в обращении фальшивых печатных кредитных билетов новой подделки (десятого рода) (1853—1854).
17. НГАРБ. — Фонд 1430. — Воп. 1. — Спр. 27305. Бумаги и сведения, не требующие дальнейшего рассмотрения (1854—1856).
18. Орлов, А. П. Бумажные денежные знаки в Беларуси / А. П. Орлов. — Минск : Минская фабрика цветной печати, 2008. — 696 с.
19. Рябцевич, В. Н. Нумизматика Беларуси / В. Н. Рябцевич. — Минск : Полымя, 1995. — 687 с.

**Г. К. Веревочникова (Даугавпилс)**

# ПАМЯТНИК ВОЕННОЙ АРХИТЕКТУРЫ XIX в. — ДАУГАВПИЛССКАЯ (ДИНАБУРГСКАЯ) КРЕПОСТЬ. ИСТОРИЯ И СОВРЕМЕННОСТЬ

Даугавпилс — город трех крепостей. В его истории трижды — в связи с развитием военного дела — возводились крепостные сооружения. В 1275 году крестоносцами был построен Динабургский замок, в 1577 году войсками Ивана Грозного была заложена крепость, достроенная затем польским королем Стефаном Баторием, а в XIX веке по указу российского императора Александра I была сооружена фортовая крепость Динабург.

До наших дней сохранилась лишь крепость XIX века, которая по праву считается главной достопримечательностью города и является уникальным объектом культурно-исторического наследия.

Даугавпилсская (Динабургская) крепость, являющаяся единственным сохранившимся без значительных изменений в Восточной Европе памятником фортификационного искусства, имеет богатую историю.

В начале XIX века над Россией нависла угроза нападения наполеоновских войск. Готовясь к войне с Францией, Россия предприняла ряд действий для усиления западной границы. В 1810 — 1812 годах, кроме существовавших тогда крепостей в Риге и Киеве, было решено построить между этими двумя пунктами новые крепости — Бобруйск и Динабург.

В марте 1810 года военный министр Барклай де Толли представил царю Александру I записку «О защите западных пределов России», в которой подчеркнул необходимость строительства оборонительной линии на Западной Двине. «У Динабурга <...> избрав хорошее месторасположение, должно построить крепость, которая охраняла бы сообщение с армией <...> Динабург кажется удобнее для сего назначения потому, что там находятся остатки укреплений, могущих весьма облегчить и ускорить работу». Таким образом, Динабург был избран местом сооружения новой крепости, которая должна была защищать дорогу на Петербург [10, с. 1 — 3].

Вскоре план строительства Динабургской крепости, разработанный инженером полковником Е. Гекелем при содействии инженера генерал-майора К. Оппермана, был утвержден императором Александром I.



Согласно новому направлению в военном строительстве Динабургская крепость строилась как фортовая крепость, т. е. имеющая впереди крепостной ограды отдельные вынесенные вперед укрепления — форты. Пояс фортов был удален от главного вала на 2 — 4 километра.

Проект ансамбля крепости предполагал сооружение предмостного укрепления на левом берегу Даугавы и собственно крепости, состоящей из системы оборонительных сооружений и зданий, — на правом. Строительные работы, оцениваемые по смете в 546 643 рубля 90 копеек, планировалось закончить за три года. Гарнизон крепости в мирное время должен был состоять из 4500 человек и 7000 — в военное время [9, с. 19].

Строительство Динабургской крепости, начавшееся в мае 1810 года, по своему размаху было весьма значительным. В 1810 году на строительных работах было занято 10 тысяч, а в следующем — 15 тысяч солдат и более 2 тысяч мастеровых людей из Витебской губернии.

В ноябре 1810 года полковник Е. Гекель за успешное проведение работ был награжден орденом святой Анны 2-го класса с алмазом.

Несмотря на то, что предмостное укрепление было чисто земляным, а в основной части крепости только в некоторых местах был насыпан главный вал, 14 июля 1811 года Динабургская крепость была объявлена крепостью первого класса [9, с. 22, 24, 28].

Надвигавшаяся военная угроза заставила ускорить ее сооружение.

К весне 1812 года на левом берегу реки были сооружены мостовые укрепления полевого профиля, состоявшие из двух бастионов и двух полубастионов, на которых в боевой готовности было установлено 16 орудий.

В ночь на 12(24) июня 1812 года наполеоновская армия вторглась на территорию России.

Несмотря на незавершенность строительства укреплений военный совет принял решение без боя крепость не сдавать, тем более, что со стороны возможной осады она выглядела более внушительно, чем была в действительности. Строительство было приостановлено, бастионы готовились к бою.

1 июля 1812 года войска Второго армейского корпуса маршала Удино подошли к Динабургской крепости, гарнизон которой на-

льюць і патопяць хвалі мора. Лодка напісана паралельна плоскасці палатна, але яе карма ненатуральна павернута да гарызонту, і гэта дае магчымасць выявіць амаль у анфас усіх персанажаў, раскрыць іх эмацыянальна-псіхалагічны стан. Усе яны ахоплены панікай, і толькі Хрыстос бестурботна спіць. Супрацьпастаўленне спалоханых твараў апосталаў і ціхага спакою спячага Хрыста раскрывае драматызм сцэны. Зараз ён прачнецца ад штуршка сівабародага старца, супакоіць вецер і мора ды скажа сваім вучням: «Што вы так баязлівы? Як у вас няма веры?» (МК. 4:38-41).

Сюжэт выяўлены ў самы драматычны момант, і яго напружанасці спрыяе экспрэсія недарэчных ракурсаў персанажаў і пластычных скажэнняў формы, а таксама надзвычай дынамічнае пісьмо на першым плане хваляў вады, што паглынаюць лодку. Галава і тулава крайняга ў лодцы чалавека павернуты ў розныя бакі (цікавы ўзор ненаўмыснага сімультанізму[a]) і сваім дэзарыентаваным рухам ствараюць вобраз жаху. У цэнтры лодкі чалавек імкнецца выправіць мачту, яго вялікая рука чапляецца за разарваныя ветразі непараўнальна меншых памераў і ўспрымаецца як жэст адчаю. Агульная маса постацей, намаляваных у непрапарцыянальных адносінах паміж сабой, істотна перабольшвае аб'ёмы лодкі і дае візуальную метафару бяды, імя якой — бязвер'е і богапакінутасць. Неправільныя прыёмы выяўлення формы аказаліся вельмі трапнымі ў выказванні сэнсу евангельскай прытчы.

У кампазіцыі «Жанчына, даруюцца табе грахі твае» (Лк. VII. 36-50) аўтар апавядае пра ўрок, дадзены Хрыстом Сымону фарысею, які, паслухаўшы яго прамову, запрасіў яго да свайго дома на трапезу. У гэты час адна жанчына, вядомая як грэшніца, прынесла ў дом Сымона алебастравы сасуд з мірам і, укленчыўшы, абмыла слязьмі ногі Ісусу, абцёрла валасамі галавы сваёй і памазала мірам. Сымон, назіраючы гэтую сцэну, здзівіўся, што Хрыстос дазволіў грэшніцы дакранацца да сябе, і не паверыў, што яго госць з'яўляецца тым, за каго сябе выдае. На што Хрыстос распавёў прытчу пра дараваныя пазыкі і пацвердзіў, што даруе жанчыне за яе любоў і веру, а хто мала верыць і любіць, таму і менш даруецца.

[a] *Тэрмін «сімультанізм» шырока распаўсюджаны ў раннім авангардзе, вызначае практыку дэфармацыі выявы з мэтай адначасовага паказу на плоскасці розных бакоў трохмернага аб'ёму.*



Для выяўлення дадзенай гісторыі віцебскі майстар скарыстаў кампазіцыю, прыбліжаную да сцэны «Тайнай вячэры», змясціўшы па цэнтру вялікі стол і дзеючых асоб вакол яго. На самым першым плане сядзіць у цёмным строі ўкленчаная жанчына ля ног Хрыста. Хрыстос і Сымон выяўлены ў профіль і разведзены па баках стала, алегарычна ўвасабляючы сабой светлы і цёмны пачаткі. Франтальна да гледача размешчаны тры сведкі, якія рэагуюць на дыялог актыўнымі жэстамі рук, паказваючы сваю прыхільнасць да таго ці іншага боку. Дзеянне прачытваецца менавіта праз жэсты: распачынаецца актыўным зваротам правай рукі Сымона да Хрыста, перабіваецца рознаскіраванымі рухамі рук гасцей і завяршаецца ўсёдаравальным жэстам разведзеных у бакі рук Хрыста. Постаць Хрыста высвечана і сама выпраменьвае святло, ён узрушаны і раскрыты ўсяму свету. У аснове яго пластыкі ляжыць характэрны для стылістыкі барока спіралепадобны рух, драматызм якога дапамагае раскрыць дзейсную і самаахвярную ролю Хрыста, навучаючага даравацъ, любіць і верыць.

Драматызм сюжэта падкрэсліваецца і складаным кампазіцыйным рашэннем. Мастак практычна размяшчае на першым плане ўсё дзеянне, як бы ўбачанае прама і зверху. Стол з белым абрусам і талеркамі нахілены да гледача і з'яўляецца той цэзурай, якая дазваляе пры вельмі сціслай фізічнай прасторы выявіць духоўную дыстанцыю суразмоўцаў. Задні план с пейзажам за вокнамі ўспрымаецца як дэкарацыя, бо напісаны ў больш дробным маштабе адносна першага плана, але разам з тым пашырае межы кампазіцыі, звязвае прастору пакоя з прыродным атачэннем.

Ва ўсіх роспісах віцебскі майстар высока ўздымае лінію далягляду, размяшчае планы амаль адзін над адным, ад чаго глыбіня карціны прачытваецца праз рух вока па вертыкалі. Такім чынам мастак захоўвае плоскаснасць роспісу, неабходную для манументальнага жывапісу, і як бы апракідвае сцэны на гледача, што стаіць на падлозе храма. Ён добра адчувае прастору храма і пашырае яе за кошт маштабных кантрастаў пярэдняга і задняга (на самай справе, ніжняга і вышэйшага) планаў.

Акрамя сценапісу храмаў віцебскія краязнаўцы сабралі найвыдатнейшую калекцыю сакральнага мастацтва, якая стала асновай для музейнага збору горада [1, арк. 65—73]. З Троіцкай царквы ў гэты збор патрапілі скульптуры Маісея і Давіда, якія завяршалі шмат'ярусны іканастас [12, № 11, 12]. Гэта гарэльефная разьба,

якая выяўляе пракокаў па два бакі трохкутнага франтона, выразанага ў выглядзе пукатага воблака. Такая дасціпная інтэрпрэтацыя архітэктурнай дэталі іканастаса сведчыць аб узрастаючай тэндэнцыі дэкаратыўнасці, якая падпарадкоўвае тэктанічную аснову іканастаса выяўленчым мэтам. Наіўная фантазія разьбяра ў дадзеным выпадку праявілася ва ўсёй сваёй непасрэднасці.

Постаці пракокаў з'яўляюцца класічным узорам прымітывізацыі аб'ёмаў: пры скарочаных прапорцыях усяго тулава галовы выглядаюць занадта вялікімі. У скульптур страчаны рукі з атрыбутамі: скрыжалямі Маісея і арфай Давіда, якія па ўсім прыкметам мелі таксама вялікія памеры. Такія дыспрапорцыі ў выяўленні персанажаў характэрны для народных творцаў, якія заўсёды гіпербалічна падкрэсліваюць самае значнае ў вобразе[b]. Трэба адзначыць, што пры гэтым мадэліроўка твараў пракокаў (таксама і пальцаў ног, прыадкрытых хітонамі) дэманструе пэўнае майстэрства, бо захоўваюцца сіметрычнасць рысаў і натуралізм у іх перадачы. Паверхня дрэва апрацавана адпаведна фактуры валос, скуры, тканіны, што зноў-такі выяўляе спрактыкаванасць аўтара. Майстар свядома парушае кананічныя законы дзеля таго, каб дабіцца абагуленага і выразнага вобраза.

Шэдэўрам рэльефнай разьбы з'яўляюцца царскія вароты з віцебскай Юр'еўскай царквы, якія таксама сталі аб'ектам даследаванняў краязнаўцаў [13, с. 118]. Яны даюць узор так званага «нізавога барока» канца XVII стагоддзя, для якога ўласціва тэндэнцыя фалькларызацыі хрысціянскага вучэння і прымітывізацыі рэнесансна-барочнай пластыкі. Майстар па-свойму інтэрпрэтуе схему царскіх варот, падпарадкоўваючы яе вобразу райскага саду.

Сімволіка іканастаса нясе агульную ідэю нябеснай царквы, дзе жыве Бог [2, с. 56 – 57]. Скляпенні і купал храма ўвасабляюць неба, алтар ды іканастас — яго найвышэйшую кропку — рай[c]. Царскія вароты — гэта ўваход у рай, Царства Божае. Традыцыйна на створках царскіх варот выяўляюцца Дзева Марыя і Архангел Гаўрыіл, а таксама чатыры евангелісты, якія нясуць добрую вестку свету. Такім

[b] *Марк Шагал у сваіх ілюстрацыях да Бібліі таксама скарыстоўваў гэтую наівісцкую гіпербалізацыю дэталі, зводзячы выявы Маісея і Давіда да фрагментаў твару, рук, скрыжаляў, арфы. Думаецца, што дадзеная стылістыка сфарміравалася не без уплыву помнікаў царкоўнай даўніны Віцебска.*

[c] *Слова «алтар» у перакладзе з латыні азначае «высокі ахвярнік», грэцкае слова «віма» паходзіць са старажытнаяўрэйскага «вама» і азначае «вышыня».*



чынам двойчы ўвасабляецца тэма Дабравешчання і падкрэсліваецца сімволіка царскай брамы, якая сустракае вока і душу верніка.

У XVII стагоддзі традыцыйныя цяблавыя іканастасы багата ўпрыгожваюцца разьбой раслiннай арнаментыкі, што ўзмацняе асацыяцыі з Эдэмам. Пераважна гэта кедравыя і пальмавыя галінкі, сцяблы вінаграднай лазы — сакральныя раслінныя сімвалы.

Віцебскі разьбяр упрыгожвае царскую браму іканастаса Юр'еўскай царквы парасткамі з зялёнымі лістамі, чырвонымі лілеямі, пяціпялёсткавымі разеткамі. Замест традыцыйных шасці клеймаў з адасобленымі выявамі разьбяр утварае гнуткімі сцёбламі тры медальёны, дзе змешчаны папарна выявы патранальных святых фундатараў храма Сімяона Столпніка, Міколы [11, с. 129] і чатырох евангелістаў з сімваламі. Самі медальёны маюць форму сэрца і разам з выявамі святых успрымаюцца як бутоны, што падкрэслівае тэму квіцення райскага саду. Матывы медальёнаў былі распаўсюджаны ў кафлярстве і разьбярстве Віцебска [10, с. 22 – 32], і гэтыя рысы трэба лічыць адзнакамі мясцовай традыцыі.

Брама выразана ў нізкім рэльефе і сакавіта расфарбавана. Сплошчанасць і абагулены малюнак формаў, дэкаратыўны характар кампазіцыі, дынаміка расліннага арнаменту надаюць вітальную моц твору. Простанародны тыпаж евангелістаў, звернутых да гледача з дабразычлівымі ўсмешкамі і шырока адкрытымі вачыма, прыўносіць у яго народны аптымізм. Ідылічны характар народнага ўяўлення пра райскае жыццё даволі гарманічна спалучаецца з сакральнай сімволікай іканастаса.

Узорам круглай скульптуры барочнага прымітыва з'яўляецца скульптура «Георгій», якая паступіла ў музей Віцебскай архіўнай камісіі з Полацка [9, 7]. На I Усебеларускай выстаўцы 1926 года гэты твор экспанаваўся як «Архангел Міхаіл» [6, с. 56], вызначаны так М. М. Шчакаціхіным. Герой, апрануты ў рымскія даспехі, стаіць на тулаве д'ябла, прыціскаючы да зямлі яго пачварную галаву. Гематый і кароткая туніка спадаюць мяккімі складкамі, падкрэсліваючы экспрэсію руху. Плашч спалучаецца са змеепадобным хвастом д'ябла, утвараючы складаны сілуэт скульптуры. Іх своеасаблівыя формы разам утвараюць цэзуру ў агульнай масе скульптурнай групы. Постаць разгорнута і крыху адкінута назад, што парушае раўнавагу. У руках героя была дзіда, якой ён забіваў д'ябла, і гэта надавала рытму ўсёй кампазіцыі завершанасць. Зараз адсутнічаюць дзіда і частка абедзвюх рук, што робіць дынаміку руху героя няўпэўненай. Непрапарцыянальнасць постацей, экспрэсія жэстаў і гратэскная завостра-

насць вобразаў перадаюць напружанне бойкі, ствараючы экзальтаваны вобраз барочнага характару.

Сярод сабраных шэдэўраў таксама трэба прыгадаць латыгаўскія абразы [3, с. 83–87]. Надзвычайная архаічнасць пластычнай мовы, некананічнасць іканаграфіі, рэдкае спалучэнне этнаграфізму з іератызмам сакральнага вобраза вызначаюць іх прымітывісцкую стылістыку.

Помнікі царкоўнай даўніны Віцебска пачалі вывучацца напрыканцы XIX стагоддзя і ўспрымаліся як творы народнай культуры, а даследчыкі дваццатыў гадоў падкрэслівалі ў іх рысы «прымітыўнага пісьма». Наяўнасць даволі шырокага кола твораў розных відаў мастацтва: манументальнага роспісу, іканапісу, царкоўнай пластыкі з прымітывісцкай стылістыкай – дазваляе вызначаць віцебскую мастацкую традыцыю як правінцыйную (або лакальную) школу сакральнага мастацтва «нізавога барока» Беларусі.

*Літаратура і крыніцы*

1. Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. – Фонд М. С Кацара. – Воп. 2. – Адз. зах. 8. – №№ 28–48.
2. Бобров, Ю. Г. Основы иконографии древнерусской живописи / Ю. Г. Бобров. – С. -Петербург : Мифрил, 1995. – 256 с.
3. Вакар, Л. Барочная экспрэсія народнага абраза (стылістычны аналіз абразоў з вёскі Латыгава) / Л. У. Вакар // Віцебскі сшытак. – 1996. – № 2. – С. 83–87.
4. Василевский, С. Витебский Марков Свято-Троицкий мужской монастырь / С. Василевский. – Витебск, 1887. – 101 с.
5. Віцебскі абласны краязнаўчы музей. – КП-11569-2, КП-11570-2, КП-11571-2.
6. Каталог аддзела старажытнага мастацтва / Апрац. М. Шчакаціхіна. – Мн., 1926.
7. Каталог музея Витебской ученой архивной комиссии / Составил хранитель музея К. А. Змигродский. – Витебск, 1912.
8. Кацер, М. С. Искусство Белоруссии / М. С. Кацер // История искусства народов СССР : в 9 т. – Москва, 1976. – Т. 4. – 469 с.
9. Красавицкий, П. Памятники церковной старины Полоцко-Витебского края и их охранение / П. М. Красавицкий // Полоцко-Витебская старина. – Витебск, 1911. – Вып. 1.



10. Левко, О. Н. Витебские изразцы XIV–XVIII вв. / О. Н. Левко. – Минск : Наука и техника, 1981. – 46 с.
11. Лявонава, А.К. Старажытнабеларуская скульптура / А. К. Лявонава. – Мінск : Навука і тэхніка, 1991. – 208 с.
12. Никифоровский, Н. Я., Довгяло, Д. И. Описание предметов древности, поступивших в Витебское епархиальное церковное археологическое древнехранилище по ноябрь 1897 года. / Н. Я. Никифоровский, Д. И. Довгяло. – Витебск, 1899. – Вып. 1.
13. Сементовский, А.М. Белорусские древности / А. М. Сементовский. – СПб., 1890.
14. Хмяльніцкая, Л. З гісторыі Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея / Л. Хмяльніцкая // Віцебскі сшытак. – 1995. – № 1. – С. 65–73.
15. Церашчатава, В.В. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI–XVIII стст. / В. В. Церашчатава. – Мінск : Навука і тэхніка, 1986. – 183 с.

**І. І. Смыкоўская (Віцебск)**

# ПЕЎЧЫ ЗБОРНІК З ВІЦЕБСКАГА СВЯТА-ТРОІЦКАГА МАРКАВА МАНАСТЫРА: ПРАБЛЕМА АТРЫБУЦЫІ

Свята-Троіцкі манастыр пад Віцебскам з'яўляўся адным з буйных рэлігійна-асветніцкіх цэнтраў Беларусі XVII стагоддзя. Вядома, што менавіта манастыры ва Усходняй царкве былі і застаюцца галоўнымі цэнтрамі рэлігійнага жыцця. Яны давалі царкоўных іерархаў, адыгрывалі важную ролю ў фарміраванні маральных пастулатаў для вернікаў, выпрацоўвалі агульнакультурныя і духоўныя прынцыпы. Манастыры з'яўляліся захавальнікамі культа і падтрымліваліся ўплывовымі прадстаўнікамі арыстакратыі, тысячамі вернікаў [9, с. 74]. Значнае месца ў дзейнасці чорнага духавенства займала пеўчае мастацтва і непарыўна звязанае з ім стварэнне богаслужбовых пеўчых рукапісаў – ірмалояў (ірмалагіёнаў).

Сваю назву кніга атрымала ад віда царкоўных песнапенняў — ірмасоў (пачатковых вершаў канона), якія і складалі яе асноўны змест. Беларускія ірмалоі прадстаўлялі сабой шматжанравы зборнік, які ўключаў спевы з розных богаслужбовых кніг візантыйскага абраду. Гімнаграфічныя творы запісваліся на царкоўнаславянскай мове. Для фіксацыі нотнага тэксту да канца XVI стагоддзя выкарыстоўвалася безлінейная неўменная натацыя, а ў XVII стагоддзі ўсталявалася пяцілінейная сістэма запісу.

Буйны збор старажытных рукапісаў, сярод якіх знаходзяцца і помнікі рэлігійнай музыкі Беларусі, захоўваецца сёння ў Вільнюсе. Звернемся да «Нотных ірмалогіяў» фонда F19 Аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. Асаблівую цікавасць прадстаўляе Ірмалой трэцяй чвэрці XVII стагоддзя [3; 11, с. 146]. Гісторык і археограф Флавіян Дабранскі (1848 — 1919) у Вопісе рукапісаў Віленскай публічнай бібліятэкі паведамляе, што гэты рукапіс быў перададзены ў 1866 годзе ў Віленскую публічную бібліятэку спадаром А. В. Рачынскім, які знайшоў кнігу ў Віцебскім Маркавым манастыры [2, XVIX].

Ф. Дабранскі звярнуў увагу на адметны, спецыфічны характар богаслужбовых рукапісаў беларускага кнігазбору ў параўнанні з такімі ж кнігамі Маскоўскай Русі і ўказваў на відавочнае ўніяцкае паходжанне ірмалояў № 115 — 133. Пеўчыя зборнікі сведчаць пра царкоўнае ўшанаванне на беларускіх землях рымска-каталіцкіх святых, ва ўсіх іх сустракаюцца песні і гімны, якія належаць Заходняй царкве: гімн Амвросія Медыяланскага, «Тебе Бога хвалим». У некаторых зборніках запісаны гімн «Dies irae». У змест беларускіх рукапісаў, які адлюстроўвае дагматычны і абрадавы бок візантыйскага веравызнання, уключаны малітвы і службы або цалкам запазычаныя з лацінскіх богаслужбовых кніг, або змененыя адпаведна з патрабаваннямі Рымска-каталіцкай царквы і Уніі [2, XVIX].

Ірмалой F19 — 117 мае тыповы для беларускай нотнай кнігі сярэдні фармат 4° (170 — 190 мм х 140 — 150 мм)[d] і налічвае 333 аркушы без пачатку. Вокладка ўпрыгожана арнаментальнымі водціскамі, мае дзве металічныя засцёжкі. Тэкст кнігі напісаны дробным паўуставам, мае арнаментальныя застаўкі і ініцыялы з раслiннымі матывамі друкаванага тыпу [11, с. 146].

[d] *Адной са спецыфічных рыс вонкавага афармлення беларускай нотнай кнігі з'яўлялася ўстойлівасць памераў. Найбольш пашыранымі былі фарматы: вялікі F° (280—320 х 180—200 мм), вельмі вялікі 2 F° (400—500 х 250—300 мм), сярэдні Q(4°) (170—190 х 140—150 мм). Радзей выкарыстоўваліся малыя 8° (130—140 х 70—90 мм) і 16°. Кнігі вялікага фармату з'яўляліся ўрачыстымі і пісаліся для кафедральных сабораў і буйных манастыроў. Ірмалоі малых памераў прызначаліся для навучання і хатняга ўжытку.*



Месца напісання пеўчага зборніка F19 — 117, імя (імёны) перапісчыка (-аў) і іх канфесійную прыналежнасць вызначыць не прадстаўляецца магчымым: у ім адсутнічаюць запісы, якія ўтрымліваюць такую інфармацыю. Паспрабуем вызначыць месца стварэння Ірмалоя.

Як адзначыў Ф. Дабранскі, рукапіс відавочна адлюстроўвае ўплывы грэка-каталіцтва. Пры гэтым досыць верагодна, што ён выкарыстоўваўся ў Віцебскім Свята-Троіцкім манастыры ў якасці богаслужбовай кнігі. Але ці мог пеўчы зборнік у гэтай жа абіцелі быць створаным?

Юрый Ясіноўскі датуе Ірмалой трэцяй чвэрцю XVII стагоддзя [11, с. 146]. Для Праваслаўнай царквы Вялікага Княства Літоўскага гэта быў перыяд аднаўлення легітымнасці і ўраўноўвання яе вернікаў у правах з каталікамі. Ва Уніяцкай жа канфесіі ішоў працэс дагматычнага і арганізацыйнага станаўлення [5, с. 18 — 19]. Палітычная сітуацыя спрыяла ажыўленню рэлігійна-культурнай дзейнасці праваслаўных і грэка-каталікоў.

Калі параўнаць час напісання Ірмалоя з часам заснавання Свята-Троіцкага манастыра, то пярэчання адносна месца стварэння пеўчага зборніка не ўзнікае. Прасочым гісторыю названага святога прытулу. Вядома, што праваслаўны мужчынскі Маркаў манастыр заснаваны аршанскім цівуном Л. С. Агінскім і браслаўскім земскім суддзёй С. Мірскім у 1633 годзе [10, с. 75].

Беларускі гісторык і археограф протаіерэй І. І. Грыгаровіч прыводзіць легенду пра першапачатковае заснаванне абіцелі. У адпаведнасці з паданнем у дзвюх вёрстах ад Віцебска на правым беразе Дзвіны «нехта старац Марка Зымянінік» пабудаваў драўляную капліцу. Тых, хто прыходзіў, ён «прымаў у агульнае жыццё». «Па прашэсці некалькіх гадоў літоўскі князь Леў-Самуіл Багданавіч Агінскі, цівун троцкі, нашчадак князёў Казельскіх, выхаваны ў праваслаўнай веры, па маленні старца Маркі збудаваў на месцы капліцы малую драўляную царкву ў імя Жыватачальнай Тройцы і пры ёй некалькі келляў для інакаў» [1, с. 41].

Як паведамляе айцец Макарый (Булгакаў), 27 жніўня 1642 года цівун троцкі Леў Агінскі ахвяраваў свой маёнтак Маркава муж-

чынскаму Свята-Троіцкаму манастыру дзеля «паслушэнства Канстанцінопальскаму патрыярху» [4, кн. 6, с. 536]. У тыя часы ў Віцебску нельга было адкрываць праваслаўныя храмы і манастыры. Урад Рэчы Паспалітай праводзіў у дачыненні да горада апальную палітыку. Прычынай таму былі трагічныя падзеі лістапада 1623 года — праваслаўныя віцябляне ўчынілі крывавую расправу над уніяцкім архіепіскапам Полацкім і Віцебскім Іасафатам Кунцэвічам. Віцебск быў пазбаўлены ўсіх прывілеяў, дадзеных каралямі, магдэбургскага права, ратушы і праваслаўных цэркваў.

Уладзіслаў IV аднавіў у 1633 годзе страчаныя прывілеі і частку правоў, а ў 1644-м выдаў Дэкрэт адносна магдэбурскага права і вяртання волі [8, с. 235]. Але гораду не было даравана забойства Іасафата Кунцэвіча, і ў дакуменце агаворвалася ўмова, пры якой абвешчанае рашэнне магло мець сілу. Кароль патрабаваў, каб усе асобы, якія ўваходзілі ў гарадавы магістрат, былі толькі «сапраўднай веры рымска-каталіцкай або грэка-уніяцкай», каб дызуніяты[e] і іншыя дысідэнты не карысталіся магдэбургскім правам і звязанымі з ім ільготамі і перавагамі, і каб нідзе не была пабудавана грэка-візантыйская царква [там жа]. Паказальна, што буйны цэнтр праваслаўнай культуры — Свята-Троіцкі манастыр — атрымаў маёнтак Маркава ад Льва Агінскага за два гады да выдання Дэкрэта. Святы прытул ніколі не пакідаў улоння Усходняй царквы і падпарадкоўваўся то Кіеўскай мітраполіі, то Маскоўскай патрыярхіі[f]. У 1798 годзе ён набыў ранг архімандрыі і праіснаваў да 1918 года [10, с. 75].

Можна дапусціць, што Ірмалой F19—117 быў напісаны ў Маркавым манастыры, а гэта значыць, ён з'яўляецца помнікам праваслаўнай канфесіі. Меркаванне пацвярджаецца адсутнасцю ў зборніку гімнаў Каталіцкай царквы і згадкай расійскага цара ў стыхірах на свята Сімяону Стоўпніку [3, аркуш 4 адварот]. Але ёсць акалічнасці, якія дазваляюць гэтае палажэнне аспрэчваць. Па-першае, у Ірмалоі F19—117 няма пачатку, і змест тытульнага аркуша застаецца невядомым. Па-другое, уключэнне песнапенняў у гонар Аляксея Міхайлавіча

[e] *Дызуніяты — частка праваслаўных, якая не далучылася да уніі.*

[f] *У юрысдыкцыю маскоўскага патрыярхата Свята-Троіцкі Маркаў манастыр быў пераведзены ў 1656 годзе ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай [Ярашэвіч, А. Маркаў манастыр / А. Ярашэвіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. / рэдкал. : Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск, 1993–2003. — Т. 5. — 1999. — С. 75].*



(1645—1676) магло быць вынікам прымусовай прысягі віцяблян расійскаму цару: з 1654 па 1667 год горад быў акупаваны ў выніку ваенных дзеянняў паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй [7, с. 26]. Трэці аргумент акрэсліваецца з дадатковай інфармацыі кнігі. Ю. Ясіноўскі адзначае, што рукапіс F19—117 паперай і почыркам падобны на Ірмалой F19—118 са збору Віленскай публічнай бібліятэкі [11, с. 147]. Гэта ўказвае на стварэнне помнікаў у адным скрыпторыі і дазваляе экстрапаліраваць даныя F19—118 на F19—117.

У Ірмалоі F19—118 ёсць запіс, дзе паведамляецца, што ён набыты «ў месце Віцебску ў кавалёва сына Господня Стэфана Асмаловіча (Амосавіча?) за грубых талераў "полшеста", гэта значыць 13 залатых, у годзе 1681 месяца снежня» [11, с. 147]. Кніга дастаўлена ў Віленскую публічную бібліятэку, як і F19—117, з Маркава манастыра спадаром А. В. Рачынскім. Калі ірмалоі знойдзены разам, то вельмі верагодна, што яны абодва куплены ў Стэфана Асмаловіча, які меў непасрэднае дачыненне да месца іх напісання. Былы ўладальнік ірмалояў названы «сынам Господнім», што можа ўказваць на яго манаскі сан. Лацінская форма імя дазваляе дапусціць, што ён каталік. Мовазнаўца Ганна Мезенка пры даследаванні антрапанімікона Віцебска 1641 года піша, што ў сярэдзіне XVII стагоддзя для іменавання выкарыстоўваліся дзве кананічныя сістэмы імёнаў — праваслаўная і каталіцкая. У адпаведнасці з імёнамі праваслаўнага календара «кавалёва сына» назвалі б Сцяпанам, а па каталіцкім календары — Стэфанам або Стафанам [6, с. 64]. Напрошваецца выснова, што Стэфан Асмаловіч мог быць рымска-каталіком або ўніятам, а таксама паслушнікам кляштара ці базыльянскага манастыра. Між тым, сцвярджаць, што ўраджэнец шматканфесійнага Віцебска не праваслаўны толькі на падставе формы імя — нельга.

Са сказанага вынікае, што «выдавецкі цэнтр» знаходзіўся не ў Маркаве: адзін з ірмалояў, напісаных падобным почыркам, набыты. Праваслаўных жа цэркваў і манастыроў у Віцебску ў гэты час не было, і адносна рукапісу F19—117 акрэсліваецца наступная гіпотэза: Ірмалой як богаслужбовая кніга грэка-візантыйскай традыцыі патрапіў да Стэфана Асмаловіча, хутчэй за ўсё, ад уніятаў.

Удакладненне дадатковай інфармацыі Ірмалоя F19—117 дазваляе зрабіць наступныя высновы:

1. Набыццё Віцебскім Свята-Троіцкім манастыром пеўчых зборнікаў сведчыць пра патрэбу ў натаванай літаратуры і высокі ўзровень музычнага афармлення службаў.

2. Рукапіс F19—117 выкарыстоўваўся ў богаслужэннях праваслаўнага манастыра, але быў створаны, верагодна, грэка-каталікамі.

3. Адзіная культурная прастора і грэка-візантыйская традыцыя абумовілі адзінства канона пеўчага мастацтва Усходняй і Грэка-каталіцкай цэркваў Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і ўзаемадзеянне ў гэтай сферы богаслужэння.

*Літаратура і крыніцы*

1. Грыгаровіч, І. Беларуская іерархія (да тысячагоддзя хрысціянства на Беларусі) / І. І. Грыгаровіч / рэд. І. Хаўратовіч; пераклад на бел. мову М. Нікалаева. — Мінск : БелЭн, 1992. — 102 с.
2. Добрянский, Ф. Н. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковно-славянских и русских / Ф. Н. Добрянский. — Вильна : Тип. А. Г. Сыркина, 1882. — 533 с.
3. [Ірмалой ноталінейны, 3-я чвэрць XVII ст.] // Lietuvos mokslų akademijos biblioteka (Vilnius). — F19—117. — 333 p.
4. Макарий (Булгаков), митрополит. История русской церкви : в 7 кн. / митрополит Макарий (Булгаков). — Москва : Изд-во Спасо-Преображ. валаам. монастыря, 1994—1996. — Кн. 5 : Период разделения русской церкви на две митрополии: история Западнорусской или Литовской митрополии (1458—1596). — 1996. — 559 с.; Кн. 6 : Период самостоятельности Русской Церкви (1589—1654). Патриаршество в России (1589—1720), отд. 1 : Патриаршество Московское и всея Великия России и Западнорусская митрополия (1589—1654). — 1996. — 797 с.
5. Марозава, С. В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596—1839 гады) : аўтарэф. дыс. ... д-ра гіст. навук 07. 00. 02 / С. В. Марозава ; НАН Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск, 2002. — 45 с.
6. Мезенка, Г. Мужчынскія асабовыя імёны гараджан Віцебска ў сярэдзіне XVII ст. / Г. Мезенка // Віцебскі сшытак. — 1996. — № 2. — С. 64—69.
7. Сагановіч, Г. М. Нарыс гісторыі Беларусі: ад старажытнасці да канца XVIII ст. / Г. М. Сагановіч. — Мінск : Энцыклапедыкс, 2001. — 412 с.
8. Уния в документах : сборник / сост. : В. А. Теплова, З. И. Зуева. — Минск : Лучи Софии, 1997. — 518 с.



9. Чернякевич, А. Н. Православная церковь Беларуси XI — первой половины XVI века в современной польской историографии / А. Н. Чернякевич // Весн. ГрДУ. — 2007. — № 4. — С. 70—76.
10. Ярашэвіч, А. Маркаў манастыр / А. Ярашэвіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. / рэдкал. : Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск, 1993—2003. — Т. 5. — 1999. — С. 75.
11. Ясіновський, Ю. Українські та білоруські нотолінійні Ірмолої XVI—XVIII століть : кат. і кодик. -палеогр. дослід. / Ю. Ясіновський. — Львів : Місіонэр, 1996. — 622 с.

**Н. В. Пивовар (Витебск)**

# К ИСТОРИИ ЦЕРКВИ ВОЗДВИЖЕНЬЯ КРЕСТА ГОСПОДНЯ В п. ЛУЖЕСНО

Можно предполагать, что какая-то церковь в Лужесно уже существовала в 1579 г. Она изображена на карте Полоцкого княжества, выполненной С. Пахаловицким. На правом берегу Двины рядом с Витебском (Witepscum) изображен населенный пункт, название которого читается как Лужесно (Luzesnia). Населенный пункт изображен схематически, в виде здания с приделом, которое имеет несколько окон и двухскатную крышу. На крыше изображен высокий четырехугольный барабан (?), по высоте равный двум третям высоты здания, который увенчан равным по величине барабану шпилем. Не можем утверждать, что показанное здание являлось церковью — изображение достаточно схематично, да и карта аксонометрическая. В окрестностях нанесено не так и много населенных пунктов, в которых изображены храмы. За такие будем считать здания с крестами (Лосвида, Черница, Соржица) и здания, архитектура которых может быть расценена как культовая (Городок, Милькевичи, Сорица (Соржица). Возможно, Пахаловицкий, будучи католиком, не указывает православные храмы, а лишь католические, но это весьма сомнительно. Карта приведена в первом томе «Витебской старины», изданной А. П. Сапуновым [1].

Униатский деревянный храм в честь Николая Угодника указан в Лужесно в «Описании Витебска и его уезда со всеми лежащими в них дачами в чьем они владении какое число мужска и женска пола, души сколко мерою земель со вынесением экономических примечаний. Дачи состоящия в Витебском уезде» (1784).



Фрагмент карты Полоцкого княжества С. Пахаловицкого, 1579 г.

Строительство каменного храма приходится на 1815 г. Этот год указывается Полоцким и Витебским архиепископом Василием в «Ведомости о состоянии православных церквей Витебской губернии за 1852 г.», которая была послана начальнику Витебской губернии: «церковь каменная сооружена в 1815 г. помещиком Иосифом Енкою[g]». Возведенное строение было небольшим и рассчитано на 40 человек [6].

В Лужесно бытует легенда о том, что церковь была построена местными помещиками по обету, данному в 1812 г., по которому они (в одном варианте помещица) обязывались построить новую церковь, если французы не разрушат имения. Косвенно этот факт подтверждается топонимическими данными. Местное население называло церковь «Мурованкой», то есть каменным зданием (мур (бел., нем.) — каменная стена). Под этим названием указывается поселок Лужесно на карте 1896 г., а Лужесном называется имение помещиков Краснодемских (территория современного колледжа).

[g] *Интересная личность. А. М. Дорофеев считает, что Енько был первым человеком, который постоянно занимался астрономическими и климатическими исследованиями в Витебской губернии. М. Маркс в «Записках старика» упоминает, что в начале 1820-х гг. в Витебске жил помещик Енько, «малоросс по национальности, которого называли отцом всех хохлов» (См. : Записки старика // Віцебскі сшытак. — № 1. — С. 75). Н. О. Энько, предводитель дворянства Витебской губернии, владел Лужесно (См. : Маркс Максіміліян. Запіскі старога // Віцебскі сшытак. — 1996. — № 2. — С. 99).*



Первоначально часовня принадлежала к Шалыгинскому приходу, но не позднее 1850 г. приход стал Лужеснянским.

Внешний вид церкви

Первоначально церковь представляла собой каплицу — каменное строение 2 х 1,5 саженей. Имело крыльцо с колоннами, несколько окон. Крыша была крыта гонтом.

Здание построено в стиле классицизма. Имеет простые фасады, правильное геометрическое планирование строения. Стены строгие, без украшений, на них выделяются полуколонны (дорический ордер), которые играют роль не опоры, а украшения. Сохранился фронтон (с северной стороны) со встроенной в него дверцей. С южной стороны частично сохранилась апсида и заложенное кирпичом круглое окно в ризницу в алтарной части. Окна без наличников, над двумя окнами с южной стороны имеется сандрик. Сейчас размеры церкви 12,9 м х 6,7 м.

В 1852 г. архиепископ Полоцкий Василий в выписке о состоянии подведомственных церквей начальнику Витебской губернии указывает, что в «Лужесне церковь каменная <...> весьма тесна (вмещает во время службы 40 — 50 прихожан), а всего прихожан 1731 душа. Архиепископ предлагал сделать каменную пристройку к часовне в длину 4,5 сажени, а в ширину 4 сажени. Кроме этого изменить внутреннее убранство будущего храма: переделать иконостас, устроить амвон, клирос для певчих, притвор, колокольню, в стенах пристроенного помещения сделать 2 окна с железными решетками, а «для благовидности хотя бы фальшивый купол» и ограду [5].

Однако, как и любое строительство, задуманная перестройка часовни шла медленно. В декабре 1860 г. штабс-капитан шевалье де ла Сере сообщал о «завершении отделки церкви материалами хорошего качества. На все ремонтные работы было отпущено 1213 руб. 5 коп. (в числе прочего 150 руб. — на устройство иконостаса, 45 руб. 73 коп. — на штукатурку, 87 руб. 26 коп. — на окраску) [10]. На устройство церкви Алексей Цехановецкий жертвовал 50 руб. [9].

Акт об осмотре состояния Лужеснянской церкви, который свидетельствовал о полном окончании ремонтных работ, подписан 3 октября 1861 г. [13]. Что же было сделано в результате ремонта и перестройки? Пристроены ризница и сени, для чего возведены 3 каменные стены длиной 6 саженей, высотой 2 сажени, толщиной в

2 кирпича. Уложен пол на площади 16,7 квадратных саженей, на окна насажены 5 железных решеток, крыша покрыта гонтом в 3 ряда, устроена колокольня в три венца, устроен клирос, столбы уложены тонкими досками [14]. Сметная стоимость возросла до 1333 руб.

В 1861 г. работы продолжались. Местный помещик Дементей Краснодемский, на которого возлагались труды по ремонту и устройству храма, докладывал в ноябре 1861 г. о завершении ремонта [11]. Правда, документы свидетельствуют, что работы продолжались и после официального завершения: течь в колокольне предполагалось устранить к концу 1861 г., а перекрасить крышу маслом и остеклить окна — к весне 1862 г. [12].

В итоге здание имело размеры 4 х 2,5 сажени [8, л. 1 — 8 об.] и вмещало в себя 40—50 человек в будние дни, и до 200—250 человек в праздники. При храме была колокольня с двумя колоколами: 1-й — 1 пуд и 10 фунтов, 2-й — 23 фунта. Священник И. И. Томашевич предлагал купить третий колокол весом в 3 пуда [8, л. 12 — 13], но, видимо, предложение осталось неосуществленным.

На 1869 г. имущество церкви составляли: Евангелия, Апостол, Служебник, Требник, Псалтырь, Часослов, Октоих (ветхие), напрестольный крест, 2 дарохранительницы (новые), потир, дискос, звездица, 9 лампад, 2 подризника, 3 пояса (новые) и иное имущество [20].

13—14 мая 1871 г. по пути следования в Полоцк в Крестовоздвиженском храме пребывала частица мощей преподобной св. Евфросинии Полоцкой [25].

В 1892 г. при церкви имелась библиотека из книг религиозно-нравственного содержания, приобретенных на церковные средства [17].

С открытием в 1908 г. нового храма церковь Воздвижения Креста потеряла свое значение и, скорее всего, использовалась как вспомогательное здание при главном храме. На 1910 г. здание оценивалось в 1000 руб. Здание было оштукатурено и побелено, имело размеры: 6 х 3 ½ х 2 ½ сажени. Крыша покрыта жестью. Храм имел один купол и одноярусную колокольню высотой 4 сажени. Внутри был устроен иконостас размером 7 х 7 аршинов. Церковь обогревалась кирпичной печью [26].

Дальнейшая история храма была более привязана к истории Покровского (Вознесенского) храма.

В 1929 г. церковь была закрыта в соответствии с приказом Витебского райисполкома: «<...> из-за отказа верующих от ремонта здания храма» и был передан местному населению для разборки на стройматериалы [2]. Однако снесены были только верхние части, а помещение использовалось в качестве жилых помещений и склада.



В 1930-е гг. церковь была закрыта, священник арестован. Местные жители взяли иконостас (с изображением Троицы и Тайной вечери) и спрятали. В Теплом лесу были организованы военные лагеря. Церковь в это время (с 1936 по 1941 г.) была оборудована под столовую (кафе, ресторан, клуб — называют по-разному), которая находилась в ведении Военторга.

С началом Великой Отечественной войны и захватом Лужесно немцами храм снова открылся. Был пожилой священник, который служил до 1942 г., пока его не арестовали немцы. Как утверждают местные жители, за то, что служил молебны во имя победы русского оружия.

После освобождения все ценные вещи по распоряжению комиссии были собраны, отвезены на станцию и отправлены (вероятно, в Москву) как представляющие музейную ценность.

После войны здание бывшей Кресто-Воздвиженской церкви использовалось как склад, баня, которые принадлежали Лужеснянскому детскому дому [3; 4]. Затем здание использовалось как жилье. В 1999 г. было принято решение о передаче здания верующим. В 2009 г. помещение окончательно передано в ведение епархии и сейчас в нем проводятся занятия воскресной школы, а в зимнее время проводится обряд крещения.

Настоятели храма и причт

Имена настоятелей храма можно узнать по памятным книжкам Витебской губернии. В книге за 1864 г. настоятелем называется Иосиф Томашевич. Иосиф Иванович Томашевич родился в 1826 г. Окончил Полоцкую духовную семинарию. Служил с 1852 г., был женат, имел 2 сына, 2 дочери [22, с. 341]. С 1885 г. священником служил Георгий Иванович Лиоранцевич (Лиоренцевич). Георгий был сыном Ивана Степановича Лиоранцевича, родившегося в 1833 г., окончившего Полоцкую духовную семинарию, служившего с 1854 г. Женат, имел 3 сыновей и одну дочь. Имел оклад 120 руб.

С 1909 г. священником служил Петр Иоанович Жгун [24].

В 1860 г. пономарем служил Лызлов Михаил Петрович.

В 1863 г. служил дьячок Купалов Митрофан Федорович, пономарь Пороменский Александр Егорович [15].

В 1869 г. дьячок Лавровский Георгий Иванович, пономарь Ляшкевич Митрофан Петрович.

Псаломщиком служил Рейторовский Иван (удален от должности в июне 1891 г. за дерзость и нетрезвость) [16].

К 1851 г. причт получил 10 десятин земли, отпускались дрова, для священника построен дом: «<...> по приходу <...> Шалыгинскому, что ныне Лужесенскому о выделению причту 10 десятин земли для обработки, отпуске дров. Дома для священника Шалыгинского, что ныне Лужесенский построен и священник в нем уже проживает» [7].

В 1896 г. причт Лужеснянской церкви был окончательно обеспечен постройками [21, с. 121]. На 1906 г. причту принадлежали 38 десятин удобной и 18 десятин земли под лесом. На земле были построены 3 дома, в которых проживали 4 мужчины и 5 женщин [28, с. 32].

В 1908 г. при церкви имелась церковно-приходская школа. Заведующим и законоучителем ее был Георгий Лиоренцевич, учителем — Петр Иоакимович Богданович [23]. С 1909 г. заведующим и законоучителем стал П. И. Жгун, учитель остался прежний.

С 1929 по 1931 гг. — Кореневский Илья Карпович [19].

В 1930 г. священник Капецкий Михаил [18].

С момента строительства или перестройки (будем ориентироваться на начало XIX века) церковь играла важную роль на протяжении всего столетия. Перед церковью была площадь, вымощенная камнем. Часть камней видна и сейчас на откосе дороги, ведущей в Витебск. На праздник Воздвижения Креста Господня (14 сентября) в Лужесно проводилась ярмарка [27]. Рядом была корчма.

Несомненно, что здание бывшей Воздвиженской церкви является памятником архитектуры начала XIX века, важной историко-культурной ценностью как Витебского района, так и окрестностей Витебска. Здание храма — единственное, которое дошло до наших дней с начала XIX века. Если в Витебском уезде на 1864 г. был 21 храм, а в 1917 г. 33 церкви и храма [29], то к 1991 г. сохранялись лишь здания Кресто-Воздвиженской и Покровской церквей (1908).

К сожалению, научно-методический совет при Министерстве культуры Республики Беларусь в 2008 г. отказал в присвоении статуса памятника истории и культуры с связи «с изменением внешнего облика объекта». Современное состояние действительно не соответствует тому виду, который она имела в XIX веке. Однако, основные черты, присущие стилю классицизма, сохранены, а с течением времени возможно полное восстановление первозданного облика храма.



*Литература и источники*

1. Витебская старина / сост. и изд. А. П. Сапунов. — Витебск, 1883. — Т. 1.
2. Газін, Дз. Р. Малавядомы помнік / Дз. Р. Газін // Памяць : Віцебскі раён : Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / уклад. У. І. Мезенцаў. — Мн. : Маст. літ., 2004. — С. 718 — 719.
3. Государственный архив Витебской области (ГАВО). — Ф. 2797. — Оп. 1. — № 32.
4. ГАВО. — Ф. 3301. — Оп. 1. — Д. 32.
5. Национальный исторический архив Беларуси (НИАБ). — Ф. 1297. — Оп. 1. — Д. 23595. — Л. 10 — 10 об. Ведомость о состоянии церквей Витебской губернии.
6. НИАБ. — Ф. 1416. — Оп. 2. — Д. 9287. — Л. 304. Рапорт Витебского уездного предводителя Витебскому губернскому правлению от 30 октября 1851 г. об улучшении быта сельского православного духовенства.
7. НИАБ. — Ф. 1416. — Оп. 2. — Д. 9287. — Л. 305. Рапорт Витебского уездного предводителя Витебскому губернскому правлению от 30 октября 1851 г. об улучшении быта сельского православного духовенства.
8. НИАБ. — Ф. 1430. — Оп. 1. — Д. 30627. — Л. 12 — 13. Акт осмотра священником И. И. Томашевичем <...> состояния Лужеснянской церкви, февраль 1860 г.
9. НИАБ. — Ф. 1430. — Оп. 1. — Д. 30627. — Л. 27. Рапорт Витебского земского исправника Артишевского начальнику Витебской губернии от 29 мая 1860 г.
10. НИАБ. — Ф. 1430. — Оп. 1. — Д. 30627. — Л. 32. Акт осмотра инженером, штабс-капитаном шевалье де ла Сере состояния Лужеснянской церкви 4 декабря 1860 г.
11. НИАБ. — Ф. 1430. — Оп. 1. — Д. 30627. — Л. 35. Записка титулярного советника Д. Краснодебского начальнику Витебской губернии от 28 ноября 1861 г. о завершении ремонта.
12. НИАБ. — Ф. 1430. — Оп. 1. — Д. 30627. — Л. 35. Расписка титулярного советника Д. Краснодебского подполковнику Генштаба Барановичу 5 ноября 1861 г.

13. НИАБ. — Ф. 1430. — Оп. 1. — Д. 30627. — Л. 40. Акт осмотра подполковником Барановичем состояния Лужеснянской церкви 3 октября 1861 г.
14. НИАБ. — Ф. 1430. — Оп. 1. — Д. 30627. — Л. 41 — 46. Опись работ, произведенных по исправлению Лужеснянской церкви (3 октября 1861 г.).
15. НИАБ. — Ф. 1430. — Оп. 1. — Д. 31813. — Л. 14. Дело по отношению Витебского губернатора в Витебское губернское правление о предоставлении сведений о состоянии церквей Витебской губернии
16. НИАБ. — Ф. 2131. — Оп. 1. — Д. 64. — Л. 150 — 157. Донесение благочинного 2-го округа Витебского уезда в Полоцкую духовную консисторию за 1892
17. НИАБ. — Ф. 2531. — Оп. 1. — Д. 64. — Л. 140 — 141. Рапорт благочинного 2-го округа Витебского уезда Полоцкому и Витебскому епископу от 22 января 1892 г.
18. НИАБ. — Ф. 2786. — Оп. 1. — Д. 467. — Л. 124. Переписка Белорусского Священного Синода с Витебским епархиальным управлением о состоянии епархии в 1930 г.
19. НИАБ. — Ф. 2786. — Оп. 1. — Д. 559. — Л. 27. Переписка Белорусского Священного Синода с Витебским епархиальным управлением о состоянии епархии в 1933 г.
20. НИАБ. — Ф. 2860. — Оп. 1. — Д. 1. — Л. 1 — 3. Донесение благочинного 2-го округа Витебского уезда в Полоцкую духовную консисторию о состоянии имущества Лужеснянской Кресто-Воздвиженской церкви за 1869 г.
21. Обзор Витебской губернии за 1896 год. — Витебск, 1897.
22. Памятная книжка Витебской губернии за 1864 год. — Витебск, 1864.
23. Памятная книжка Витебской губернии на 1908 год. — Витебск, 1908.
24. Памятная книжка Витебской губернии на 1909 год. — Витебск, 1909.
25. Принесение части святых мощей преподобной Евфросинии, княжны Полоцкой, из Киева в Спасо-Евфросиниевский монастырь. — Витебск : Типография Г. А. Малкина, 1871. — С. 40 — 45
26. Свята-Крыжаўзвіжанскі храм // Памяць : Віцебскі раён : Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / уклад. У. І. Мезенцаў. — Мінск : Маст. літ., 2004. — С. 715.
27. Сементовский, А. О ярмарках Витебской губернии / А. Сементовский // Памятная книжка Витебской губернии на 1867 год. — Витебск, 1867.
28. Список населенных мест Витебской губернии / под. ред. А. П. Сапунова. — Витебск, 1906.
29. Список церквей и монастырей Полоцкой епархии // Памятная книга Витебской губернии за 1912 год. — Витебск, 1912.



**К. С. Церашкова (Мінск)**

# СТРАЧАНЫЯ ПОМНІКІ: МЕМАРЫЯЛ УДЗЕЛЬНІКУ ВАЙНЫ 1812 г. АЛЯКСЕЮ ПЯТРОВІЧУ МЕЛІСІНА Ў БЫЛОЙ ЦАРКВЕ в. ПУГЛЯІ

Значная частка культавых помнікаў Аршаншчыны XIX — пачатку XX ст. дайшла да нашага часу ў руінах, некаторым храмам пашанцавала нават менш: звесткі аб іх існаванні захаваліся ва ўспамінах мясцовых жыхароў ці ў гістарычных крыніцах, якія даюць уяўленне аб багатай мінуўшчыне края. Ліхалецце ваенных часоў, выкарыстанне пабудоў у гаспадарчых мэтах, непаважлівае стаўленне насельніцтва прыводзілі некалі велічныя помнікі архітэктуры ў занядбаны стан ці да поўнага знішчэння.

Такі ж сумны лёс напаткаў і драўляную царкву вёскі Пугляі, адзін з найцікавейшых і адметна дэкарыраваных культавых помнікаў XIX ст. У пачатку XIX ст. Пугляі ўваходзілі ва ўладанні памешчыка Аляксея Пятровіча Мелісіна, у гонар якога і быў узведзены своеасаблівы мемарыял у мясцовай царкве.

З'яўленне прадстаўнікоў старажытнага роду Мелісіна ў Расійскай імперыі звязана з асобай Івана Афанасьевіча, які прыбывае сюды пры Пятры І у якасці медыка, а ў далейшым становіцца віцэ-прэзідэнтам камерц-калегіі [2, с. 378]. Яго сынам таксама было наканавана заняць досыць высокае становішча ў тагачасным грамадстве:

Іван Іванавіч атрымлівае пасады куратара Маскоўскага ўніверсітэта і обер-пракурора Свяцейшага Сінода, заснавальнік «Московских ведомостей»; Пётр Іванавіч робіць бліскучую кар'еру ў арміі – генерал ад артылерыі, начальнік Артылерыйскага і Інжынернага кадэцкіх карпусоў, кавалер ордэна Св. Андрэя Першазваннага [5, с. 612 – 615]. Не выпадкова менавіта ён, выдатны вершнік, які па росту і целаскладу нагадваў Пятра І, пазіраваў Эцьену Морысу Фальканэ для яго знакамітага «Медного всадника». Звесткі пра Пятра Іванавіча Мелісіна, бацьку ўладара Пугляёў, прыводзіць Фурсаў у сваёй працы «Исторический очерк Могилевской губернии» ў сувязі з грандыёзным феерверкам у гонар наведвання Шклова імператрыцай Екацярынай ІІ у маі 1780 г.: «После ужина был сожжен фейерверк, деланный несколько месяцев артиллерии генерал-майором Петром Ивановичем Мелиссино, павильон из 50000 ракет был достоин своего мастера и стоил необычайно дорого» [10, с. 116].

Аляксей Пятровіч Мелісіна нарадзіўся ў 1759 г. у Санкт-Пецярбургу, атрымаў выдатную адукацыю і быў запісаны ў гвардыю, дзе ў ліпені 1777 г. пачаў службу сяржантам, а праз пяць год быў узведзены ў капітаны. За поспехі ў апаратыўнай падрыхтоўцы некалькіх сот навабранцаў да артылерыйскай службы «с отличными трудами и прилежностью» ў кастрычніку 1788 г. атрымаў званне маёра. Падпалкоўнікам Сумскага лёгкаконнага палка ўдзельнічаў у руска-турэцкай вайне, і менавіта «за отличную храбрость, оказанную при штурме крепости Измаила, с истреблением бывшей там армии» па прадстаўленню Аляксандра Васільевіча Суворава быў узнагароджаны ордэнам Святога Георгія IV ступені, а ў далейшым узведзены ў званне палкоўніка. Лёс склаўся так, что амаль на ўвесь перыяд праўлення імператара Паўла І Аляксея Пятровіча Мелісіна выключаюць са службы. У пачатку 1801 г. ён узначальвае Марыупальскі гусарскі полк і атрымлівае званне генерал-маёра. Тым не менш, у хуткім часе Мелісіна быў адпраўлены ў чарговую адстаўку, якая зацягнулася амаль на пяць год [9, с. 455].

Новы віток у кар'еры памешчыка Магілёўскай губерні генерал-маёра Аляксея Пятровіча Мелісіна пачынецца ў 1807 г., калі яму было даручана фарміраванне і ўзначаленне Лубенскага гусарскага палка. Ва ўмовах вайны 1812 г. Мелісіна атрымаў камандаванне кавалерыйскай брыгадай корпуса Остэн-Сакена ў складзе 3-й Абсервацыйнай арміі Тармасава. Генерал-маёр вызначаецца ў сутычках бліз Кужылінічаў, у Дубоі і Янаве, з асобным атрадам прыкрывае дзеянні галоўных сіл у бітве пры Кобрыне, удзельнічае ў баях у Пінску і Драгічыне [4, с. 292 – 294]. За дзеянні падчас вайны Аляксей Пятровіч Мелісіна адным з першых быў узнагароджаны ордэнам Святой Анны І ступені, а таксама залатой шабляй з надпісам «за храбрость», упрыгожанай алмазамі [1, с. 18].



У 1813 г. падчас замежнага паходу расійскай арміі генерал-маёр прымае ўдзел у захопе Варшавы, у бітвах пад Вальгеймам, Герсдорфам, Носэнам, Бішофсвердам, Баўцэнам, Рэйхенбахам, Яўэрам, Дрэздэнам. Бітва пад Дрэздэнам стала апошняй у жыцці Аляксея Пятровіча Мелісіна [9, с. 455]. 15 жніўня 1813 г. Лубенскі гусарскі полк у складзе перадавога атрада графа Вітгенштэйна атакаваў карэ французскай гвардзейскай пяхоты. У гэты дзень Аляксей Пятровіч Мелісіна здзейсніў сапраўдны подзвіг самаахвяравання: схаваў шаблю ў похвы і, разабраўшы павады па-манежнаму, накіраваў каня на варожыя штыкі. У выніку чаго ў карэ праціўніка ўтварыўся праход, у які і рушыла расійская кавалерыя. Аднак сам генерал-маёр быў смяротна паранены: атрымаў тры кулі ў грудзі і шматлікія раненні ад штыкоў.

У сувязі з тым, што французскія войскі перайшлі ў імклівае наступленне, цела загінуўшага генерал-маёра так і не было знойдзена. Паводле сямейнага падання, яно знайшло свой апошні прытулак у багемскай Цепліцы. Аднак найбольш верагодна, што Аляксей Пятровіч Мелісіна быў пахаваны ў агульнай магіле на месцы бітвы. Яго ўдава, Аляксандра Міхайлаўна Кантакузіна, з дапамогай расійскага дзяржаўнага і палітычнага дзеяча Аляксея Андрэевіча Аркачэева наведала месца бітвы. Але ўсе спробы знайсці астанкі супруга не прынеслі ніякіх вынікаў [3, с. 30].

Як ужо было адзначана вышэй, ва ўладанні Аляксея Пятровіча Мелісіна ўваходзіла мястэчка Пугляі з наваколлем. Менавіта тут, у пугляеўскай царкве, пасля няўдалай спробы знайсці месца пахавання супруга па загаду Аляксандры Міхайлаўны быў устаноўлены надмагільны помнік, абнесены чыгуннымі кратамі тонкай мастацкай работы. Над помнікам на сцяне храма была размешчана мармуровая дошка ў пазалочанай раме з памятным надпісам: «<...> Тело Его похоронено в Богемии в Теплице. Жена Его Александра Михайловна, в твердом уповании отыскать драгоценные Его останки и перенести их в Россию, с Высочайшего дозволения хотя и совершила столь отдаленный путь, но Богу не угодно было, чтобы таковое предприятие Ее увенчано было успехом. Ныне здесь, под сим памятником, похоронен Его мундир, супруга Ее, тот самый, в коем Он сражался, ко-

прывёў звесткі аб прыватных і дзяржаўных музейных калекцыях, дзе меліся ўзоры набоечных дошак [3, с. 61—72]. Па дакладу І. П. Фурмана было вырашана пачаць сістэматычны збор узораў набойкі для складання поўнай калекцыі набоечных дошак, правесці ўлік майстроў-сінельнікаў на Віцебшчыне і пры іх дапамозе арганізаваць адпаведныя майстэрні для аднаўлення вытворчасці [3, с. 72].

У 1926 г. акруговым таварыствам было працягнута вывучэнне прафесійнага беларускага мастацтва. У студзені 1926 г. была арганізавана выстаўка дрэварытаў віцебскага мастака С. Б. Юдовіна, а на сходзе таварыства 3 студзеня 1926 г. І. П. Фурман выступіў з аналізам творчасці майстра [12, с. 86].

У 1926 г. адбыліся чарговыя экскурсіі па Віцебску і акрузе, падчас якіх былі агледжаны Храпавіцкая царква, будынкі Маркавага манастыра і інш., рабіліся пэўныя крокі для арганізацыі іх аховы [13, с. 74]. Працягвалася вывучэнне архітэктуры горада. Так, мясцовыя даследчыцы звярнуліся да гісторыі і асаблівасцей будынкаў Марыявіцкага кляштара (М. А. Мельнікава) і Віцебскай Троіцкай царквы на Пескаватыку (М. Лебедзева) [12, с. 86; 18, арк. 73]. М. Лебедзева ў сваім дакладзе адзначала, што вывучаны ёю помнік знаходзіцца ў вельмі дрэнным стане, і «калі не прыняць належныя меры да аховы, <...> дык ён у недалёкім часе разваліцца», таму неабходна прыняць меры па яго рэстаўрацыі [18, арк. 74].

У другой палове 1926 г. быў зроблены агляд Троіцкай царквы, пасля якога было прынята рашэнне сабраць усе яе фотаздымкі, прасіць Акруговы выканаўчы камітэт адрамантаваць царкву, адпусціўшы на гэта 6 тыс. руб., а для тэрміновай кансервацыі выдаткаваць 200 руб., перадаўшы наяўныя прадметы царкоўнага ўжытку для захавання ў іншую царкву [18, арк. 92]. Прыхаджане царквы звярнуліся да гарадскога кіраўніцтва з просьбай дабудаваць прытвор і званіцу да царквы. Аднак на пасяджэнні Прэзідыума Віцебскага акруговага выканаўчага камітэта ад 20 ліпеня 1927 г. па дакладу тагачаснага старшыні акруговага таварыства краязнаўства І. А. Бутара аб Чорнай царкве была вынесена пастанова, у якой адзначалася, што наяўная частка царквы не ўяўляе сабой ніякай гістарычнай і архітэктурнай каштоўнасці і таму прапануемая вернікамі дабудоўка прытвору і званіцы «для адпраўлення рэлігійных абрадаў» была прызнана немэтазгоднай [14, арк. 84]. Тады вернікі напісалі наркому асветы БССР У. М. Ігнатоўскаму, у лісце да якога прасілі дазволу аднавіць будынак і згаджаліся перадаць у БДМ каштоўныя ў музейных адносінах рэчы [14, арк. 85—85 адв].



18 мая 1928 г. на пасяджэнні Прэзідыума Віцебскага гарадскога савета па дакладзе аб становішчы Віцебскага аддзялення БДМ адзначалася, што паколькі будынак так званай Чорнай царквы разваліўся і па свайму стану не можа быць адноўлены як помнік архітэктуры XVII ст., даручыць музею неадкладна разабраць яго, пры гэтым усе рэчы, якія знаходзяцца ў царкве, перадаць у музей у прысутнасці дырэктара музея І. І. Васілевіча [15, арк. 20 адв.].

3 жніўня 1928 г. па загаду рэдактара газеты «Рабочий» у Інбелкульт была адаслана фатаграфія гэтага знішчаемага помніка [19, арк. 61, 192]. На наступны дзень у той жа газеце з'явіўся артыкул віцебскага карэспандэнта В. Буравога «Зверская расправа с историческим памятником» [2].

7 жніўня таго ж года М. М. Багародскі накіраваў у Інбелкульт акт камісіі па справе разабрання царквы [19, арк. 64—64 адв.]. Інбелкульт, у сваю чаргу, зрабіў запыт у ЦБК, якое звярнулася да Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства з просьбай паведаміць, «<...> кім і пры якіх умовах разабрана т. зв. Чорная царква» ў Віцебску, якую чыннасць мела ў гэтай справе Акруговае таварыства і ці захаваны ад царквы старажытныя рэчы [15, арк. 75].

У адказе на запыт, адпраўлены 28 жніўня 1928 г., паведамлялася, што ў музей не трапілі толькі некалькі абразоў, скрадзеных з-пад руін будынка значна раней, да разборкі царквы, прычым сярод скрадзеных толькі два абразы мелі «некаторае музейнае значэнне» [15, арк. 66—66 адв.].

У другой палове 1920-х гг. праца па вывучэнні гісторыка-культурнай спадчыны скарачаецца. Можна прыгадаць толькі некалькі прыкладаў. Вядома, што таварыствам вялася праца па ўкладанні археалагічнай карты. Для гэтага па раёнах была разаслана спецыяльная праграма і карта-трохвёрстка іх мясцовасці, праведзены інструктаж сярод сяброў краязнаўчых арганізацый. Таксама ў таварыстве працавалі над стварэннем «гістарычнага пуцяводніка па Віцебску», прымалі актыўны ўдзел у розных экспедыцыях гістарычнага характару, якія праводзіліся па Віцебшчыне іншымі арганізацыямі [16, с. 73]. У 1928 г. убачыў свет другі том неперыядычнага краязнаўчага зборніка «Віцебшчына», у якім акрамя артыкулаў на эканамічную тэматыку быў змешчаны і шэраг матэрыялаў па гісторыі беларускага мастацтва. Гэта артыкулы І. Т. Гаўрыса «Вобразнае мастацтва ў г. Віцебску» [4, с. 168—173] і І. П. Фурмана «Віцебскія мастакі-гравёры» [4, с. 174—183].

Падводзячы вынік, адзначым, што ВАТК адно з нямногіх у БССР разгарнула шырокую работу па выяўленні і вывучэнні гісторыка-культурнай спадчыны, што было абумоўлена высокім прафесійным і навуковым узроўнем сяброў таварыства. Асноўнымі тэмамі для даследавання стала мясцовае мураванае дойлідства, прафесійнае і народнае мастацтва і інш. Таксама ў таварыстве аднымі з першых звярнуліся да вывучэння музейных прадметаў і іх крыніцазнаўчай каштоўнасці. ВАТК наладзіла выданне вынікаў сваёй дзейнасці ў гэтай сферы.

ВАТК было адзінай і да таго ж грамадскай арганізацыяй, якая паслядоўна на працягу некалькіх гадоў рабіла ўсё магчымае для захавання архітэктурнага помніка XVIII ст. — царквы «Чорнай Троіцы» ў Віцебску, і менавіта дзякуючы яму ўдалося захаваць большую частку яе старажытных царкоўных рэчаў.

Аднак асноўныя даследчыя мерапрыемствы прыходзіліся на 1920-я гг. У наступнае дзесяцігоддзе колькасць даследаванняў і падрыхтаваных па іх выніках дакладаў значна скарацілася. Звязана гэта было са змяненнем сэнсавага насычэння краязнаўства, пераарыентацыяй яго на выкананне задач народнай гаспадаркі. У 1930-х гг. найбольш актуальнымі тэмамі для краязнаўчых таварыстваў сталі вывучэнне сельскай гаспадаркі і калгаснага будаўніцтва, прамысловых прадпрыемстваў, пошук неабходнай сыравіны і г. д. А для гісторыка-краязнаўчых даследаванняў месца не заставалася.

*Літаратура і крыніцы*

1. Адчыненьне Першай Усебеларускай Выстаўкі краязнаўчых фотографій і зарысовак // Наш край. — 1928. — №4. — С. 51.
2. Буревой, В. Зверская расправа с историческим памятником / В. Буревой // Рабочий. — 1928. — 4 августа. — С. 2.
3. Віцебшчына: Неперыяд. орган Віцеб. акруговага т-ва краязнаўства / Пад кіраўніцтвам і рэд. М. Каспяровіча. — Віцебск, 1925. — Т. 1. — 218 с.
4. Віцебшчына: Неперыяд. зб. Віцеб. акруг. т-ва краязнаўства. — Віцебск, 1928. — Т. 2. — 203 с.
5. З краязнаўчай работы на Віцебшчыне // Савецкая Беларусь. — 1925. — 29 ліпеня. — С. 3.
6. Калубовіч, Я. Акт 25-га Сакавіка й адраджэнне нацыянальнай беларускай культуры / Я. Калубовіч // Спадчына. — 1992. — № 1. — С. 67—84.



7. Конституция Российской Социалистической Федеративной Советской республики. — Петроград: Издание Петроградского Совета Рабочих и Красн. депутатов, 1918. — 16 с.
8. Красавіцкі, П. Віцебская Ільінская царква / П. Красавіцкі // Запіскі аддз. гум. навук ІБК. — Кн. 6. — Працы камісіі гісторыі мастацтва. — Мінск, 1928. — Т. 1. — Сш. 1. — С. 92—103.
9. Краснянскі, У.Г. Батлейка Віцебскага аддзялення БДМ / У. Г. Краснянскі // Запіскі аддз. гум. навук ІБК. — Кн. 6. — Працы камісіі гісторыі мастацтваў. — Мінск, 1928. — Т. 1. — Сш. 1. — С. 127—140.
10. Лісаў, А.Г. Краязнавец Мікалай Каспяровіч / А. Г. Лісаў, А. М. Падліпскі; Віцебс. краязн. фонд імя А. Сапунова. — Віцебск : УПП «Віцеб. абл. друкарня», 2000. — 48 с.
11. М. К. Беларускае мастацтва / М. К. // Савецкая Беларусь. — 1925. — № 2. — С. 3.
12. М. К-ч. Краязнаўчая праца на Віцебшчыне / М. К-ч // Наш край. — 1926. — № 4—5. — С. 86—89.
13. М. К-ч. На Віцебшчыне / М. К-ч // Наш край. — 1926. — № 10—11. — С. 73—74.
14. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). — Ф. 42. — Воп. 1. — Спр. 1926.
15. НАРБ. — Ф. 42. — Воп. 1. — Спр. 1935.
16. Праца праўленьня Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства // Наш край. — 1929. — № 12. — С. 72—74.
17. Процька, Т.С. Грамадскія арганізацыі / Т. С. Процька // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. — Мінск, 1999. — Т. 5. — С. 111—114.
18. Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ЦНА НАНБ). — Ф. 67. — Воп. 1. — Спр. 5.
19. ЦНА НАНБ. — Ф. 67. — Воп. 3. — Спр. 21.
20. Шлюбскі, А. Крашаніна: Набіванка / А. Шлюбскі; Пад рэд. М. І. Каспяровіча. — Віцебск : Акруг. т-ва краязнаўства, 1926. — 26 с.

**Ю. П. Латушкова (Минск)**

# НЕКОТОРЫЕ АСПЕКТЫ ЭКОНОМИЧЕСКОЙ ЖИЗНИ ГОРОДОВ ВИТЕБЩИНЫ В 1917 – 1920 гг. (ПО МАТЕРИАЛАМ ПРЕССЫ И ДНЕВНИКА ИОСИФА ГОЛУБЕВА)

Период революции, Гражданской войны и интервенции воспринимается сейчас, спустя почти сто лет, как эпоха глобальных перемен. Нам, потомкам, сложно за масштабными событиями рассмотреть более насущные для современников проблемы, без понимания которых невозможно создать реальную картину жизни того времени.

Что же волновало обывателей? Какие аспекты городской жизни оказались столь животрепещущими, что попали в периодическую печать и дневники, эти ценнейшие источники, позволяющие взглянуть на события глазами очевидца?

Перелистаем пожелтевшие страницы и попробуем увидеть в них отражение повседневной жизни города в чрезвычайной ситуации.

Начнем экскурс с губернского города Витебска. С осени 1915 г. – это прифронтовой город, куда переместился штаб Двинской военной округи, военные учреждения, госпитали; гарнизон города в 1916 г. насчитывал 40 тыс. военнослужащих [9]. С 1916 г. тут осело много беженцев из оккупированных районов. Скопление беженцев и солдат привело к острой криминальной ситуации. Газетные публикации затрагивают проблему хищений, совершаемых солдатами на железной дороге:

«На станции Витебск в течение трех последних суток вскрыто солдатами более 130 вагонов. На станции Ново-Сокольники ежедневно вскрываются 50 – 60 вагонов, причем похищаются все наиболее ценные грузы» [6].

Еще одной приметой времени стала черносотенная агитация, не минувшая и Витебска, которая в условиях хронического дефицита продуктов и товаров первой необходимости привела к еврейскому погрому:

«Часов в 10 вечера 29 апреля с. г. на Смоленской улице появилась вооруженная банда «анархистов» и бесцельно открыла стрельбу в воздух и по прохожим. Затем двинулись к магазину резиновых изделий «Колумб», принадлежащему г. Сохору, и разгромили его, похитив товару тысяч на 10. Последовательно разгромили магазин готового платья г. Гольдберга, разграбив товару тысяч на 25. Разгромили часовой магазин г. Безсмертного тысяч на 20 и гостиницу Куплянского <...> Помощник начальника Витебской городской милиции говорил с «анархистами», и ему удалось выяснить, что вооруженное выступление имело целью удалить из советов и советских учреждений евреев, и что погром направлен исключительно против еврейской буржуазии.

<...> Около продовольственной лавки женщины избивали проходивших мимо евреев. На Смоленском базаре толпа женщин отобрала у еврея четыре булки хлеба, пришли в первый участок и требовали раздачи хлеба. Во избежание недоразумений милиция исполнила требования толпы. <...> На базарах у евреев отбирали продукты, а покупать у крестьян им ничего не давали» [4].



Как видно, кроме сугубо экономических требований, с опорой на них, проводилась политическая агитация. Подобная ситуация сложилась и в Орше, где: «<...> высунули свои смрадные головы разные охранники и жандармы, <...> которые появлялись в очередях за мукой и хлебом и тайно и явно призывали к погромам на евреев. Евреи будто бы захватили весь хлеб, всю муку и всю власть, и против этой власти эти жалкие отбросы призывают возстать» [3].

В Орше кроме черносотенной агитации в феврале – октябре 1918 г., имелись специфические проблемы, вызванные частичной оккупацией города немецкими войсками. По сути, это был пункт погранперехода между «Советами» и оккупированными территориями, через который ежедневно проходило огромное количество людей: «Комиссариатом путей сообщения получена из Орши депеша, что данное немецкими войсками обязательство ежедневно принимать 1000 беженцев не выполняется, и фактически в Орше в среднем в сутки принимаются за демаркационную линию не более 750 человек. Принимая во внимание значительное количество скопившихся вагонов с беженцами, всего 326 вагонов, и крайне тяжелое бедственное положение ожидающих пропуска за демаркационную линию, «Центропленбеж» обратилось с ходатайством впредь до уменьшения задержанных вагонов беженцев совершенно прекратить выпуск маршрутных поездов с беженцами из Москвы и других пунктов» [5].

Близость демаркационной линии рождала проблему спекуляции, в том числе со сбытом товаров противнику: «В Чрезвычайной комиссии. Борьба со спекуляцией. Комиссаром 2-го района города Орши обнаружено в заезжем доме Израиля Рашала у гражданина Гинзбурга 2 фунта табаку, 6 фунтов чаю и 4500 папирос. Причем во время обыска Гинзбург пытался дать взятку. Постановлением Чрезвычайной комиссии папиросы, чай и табак конфискованы, а данная взятка сдана в депозит Республики.

Постановлением Чрезвычайной комиссии конфисковано у гражданина Гольдштерна 12 кож шевро, которые были предназначены к вывозу за демаркационную линию в сторону немецкого расположения» [1].

«Комиссаром третьего района города Орши задержан некий Рейгенверц, провозивший в сторону немецкого расположения кожевенный товар. Усматривая в действиях Рейгенверца спекулятивную торговлю, революционный штаб постановил задержанный товар конфисковать и передать в отдел народного хозяйства <...> Носятся слухи, что в Орше имеется целая банда контрабандистов, которые специально занимаются скупкой и переправкой товаров через границу в оккупированные немцами места» [2].

Кроме борьбы со спекуляцией Чрезвычайная комиссия проводила изъятие у населения золотых и серебряных монет. По информации прессы, обнаруженные при обыске предметы из драгоценных металлов возвращались владельцам, а монеты могли быть обменены на кредитные билеты: «Чрезвычайной комиссией Оршанского исполкома обнаружено при обыске у гражданина города Орши Менделя Симкина: серебряные бокалы, ложки и разменная монета золотом и серебром. Принимая во внимание, что Симкин хранил монету в скрытом виде, Чрезв. Ком. постановила вещи возвратить, а взамен золотой и серебряной монеты дать гражданину Симкину кредитные билеты» [1].

Информация о более позднем периоде жизни Орши содержится в дневнике Иосифа Голубева, минчанина, рабочего мастерских Александровской железной дороги, коммуниста. Перед оккупацией Минска польскими войсками он вместе со многими сотрудниками железнодорожных мастерских выехал на ст. Славное-Крупки, где занимал должность коменданта и регулярно ездил в Оршу за продуктами для сотрудников.



Как характерные явления в городе он отмечает бюрократию и волокиту, дороговизну:

«5 января 1920 г. Понедельник. Ст. Орша. <...> Сколько было хлопот, куда хуже прежнего. К коменданту два раза ходил, к заведующему продкома 3 раза, зав. бухгалтерией — 3 раза, к комиссару продовольствия — 1 раз. Сколько было волнения и неприятности, насилу к 4 ч. дня удалось оплатить чеки и получить ордера на продукты, а продукты получать уже завтра.

6 января 1920 г. Орша. <...> Получили только хлеба, крупы, сахару и горелой соли: хлеба 34 пуд. 35 ф., сахара-песка 2 пуда 7 ф., соли 2 пуда 7 ф., крупы 6 пуд. 21,5 ф. на сумму 4672 руб. 58 к. Это на целый месяц на 45 человек» [8, с. 311].

«29 марта, ст. Крупки. Получил жалованье по новым ставкам за 2-ю половину февраля — 1760 руб., на полпуда хлеба не хватит. Вот проживи на это жалованье с семьей в количестве 9 человек. По два фунта хлеба на человека на полмесяца, а про остальное — не спрашивай. Сахар-рафинад стоит 1200 руб. фунт, соль 800 руб. фунт, сало свиное 1000 руб. фунт, масло коровье 1200 руб. фунт, картофеля 800—1000 руб. пуд. Яйца 10 шт. 800 руб., а одно яйцо 100 руб. Крупа перловая 150 и 200 руб. ф., мясо 350 руб. фунт, сало говяжье 400 руб. фунт. Сколько нужно, чтобы прожить 9-ти человекам в месяц. Если и полуголодным быть, то понадобится в среднем 100000 руб., а я получаю всего 3520 в месяц <...>» [8, с. 342].

Проблемой стал обмен денег. Для пересылки в Минск и оплаты на местах требовались «николаевские» («царские»); зарплаты служащим выдавались совзнаками, не имевшими спроса. В условиях инфляции и дефицита население возвращается к натуральному обмену. Основной «валютой» выступала соль. Спекуляция ею каралась:

«11 марта 1920 г. Четверг, Ст. Орша

<...>пошел в город. В первую очередь продал соль, намерен получить николаевскими, чтобы детям перепроводить. Оказалось, что получить их невозможно, даже в малом количестве, поневоле пришлось получить советскими. За 27 ф. соли получил 13 500 руб., а детям послать нечего» [8, с. 344].

«10 марта 1920 г. Среда <...> Доехали до ст. Толочино. Тут нам сделали перетряску, у кого нашли соль — реквизировали, в том числе и у меня было 27 фунтов. Я, понятно, стал протестовать, что еду от организации, должность моя — комендант. <...> меня отпустили и соль возвратили.

30 марта 1920 г. Среда, ст. Славное

<...> Наши многие сотрудники тоже поехали в Оршу, набрали с собой соли по полпуда и больше, чтобы выменять на масло, сало... Не доезжая станции, тов. Коробко спрыгнул, за ним <...> другие, потому как у них соль. А я <...> стоял и слушал, как пассажиры критиковали наших сотрудников. Говорят: вот чрезвычайники, а смотри, как спекулируют солью. Посмотри, у каждого по сколько соли, им это можно, а у нас отбирают.

31 марта 1920 г. Среда, ст. Орша

Базар в городе большой, но я ничего не купил, потому что нужна соль, а у меня ее не было. Поэтому я прошел равнодушно по базару» [8, с. 343 — 344].

Схожая ситуация отмечалась в Полоцке, который, как и Витебск, в годы Первой мировой войны был прифронтовым городом. 18 ноября 1917 в Полоцке установлена Советская власть. С 25 февраля до 21 ноября 1918 г. город оккупирован германскими войсками. 20 сентября 1919 г. польские войска захватили левобережную часть Полоцка, которая 15 мая 1920 г. была освобождена Красной Армией.

Вот как описывает очевидец положение города в марте 1920 г. :

«Даўнейшая сталіца Беларусі — Полацак церпіць цяпер бяду нязмерную: сустрэліся ў ім дзьве сілы: войска польскае і бальшавіцкае; дзеліць іх толькі Дзьвіна. Шмат будынкаў пабіты гарматамі. <...> З прычыны бязупынных перастрэлкаў няма ніякага харчовага падвозу ў горад, ды і жыцьцё замерла. Багацейшыя жыхары, галоўным чынам жыды, павыязджалі, а хто застаўся — апошнія рэчы з адзеньньня і абуцьця прадаў, каб толькі з голаду не памерці» [7].

В городе не хватает продуктов, население переходит на натуральный обмен:

«Хлеба з чыстага збожжа ніхто даўно не бачыў: пякуць аладкі з аўсянай мукі; пуд бульбы ці буракоў дастаць можна было ў сьнежні за тры-два фунты солі, ці газы. Часам, як гарматы змоўкнуць, з бліжэйшых вёсак сяляне едуць у горад, каб даведацца, што чуваць? Вязуць тады дровы (прадуктаў ня хочуць, бо камісары любяць рэквізіцыі рабіць) і воз аддаюць за 1 ½ фунта солі» [7].

Как и в Орше, население при рассчетах предпочитает «царские» «совзнакам»: «Грошы добра ішлі толькі царскія і керанкі. За службу на чыгунцы, ці так дзе, заўседы плацілі савецкімі, але гэтых грошай вясковыя людзі не бралі: дык гэтыя грошы трэба мяняць на керанкі (хоць і з вялікай стратай), або думскіе, і ўжо тады магчыма купляць ёміну і то вёрст за 20-30 у старане ад Полацку» [7].



Итак, в трех важнейших городах Витебщины наблюдаются схожие явления: дороговизна, дефицит, спекуляция, низкий спрос на совзнаки, высокая котировка «николаевских», переход на натуральный обмен, в котором в качестве «валюты» выступает соль.

*Литература и источники*

1. В Чрезвычайной Комиссии. Борьба со спекуляцией // Известия Совета рабочих, батрацких, крестьянских и красноармейских депутатов Оршанского уезда. — 1918. — № 49. — 25 июля.
2. Вонирод. В революционном штабе // Известия Совета рабочих, батрацких, крестьянских и красноармейских депутатов Оршанского уезда. — 1918. — № 17. — 5 дек.
3. Доринов, И. Гады выползают // Известия Совета Рабочих, крестьянских, батрацких, красноармейских депутатов Оршанского уезда. — 1918. — № 16. — 9 мая (26 апреля).
4. Доринов, И. Особенности погрома в Витебске // Известия Совета рабочих, крестьянских, батрацких, красноармейских депутатов Оршанского уезда. — 1918. — № 16. — 9 мая (26 апреля).
5. Комиссариатом путей сообщения // Мир. — 1918. — № 24. — 1 сент.
6. На станции Витебск // Новая жизнь. — 1917. — № 179. — 12(25) нояб.
7. Станкевіч, Я. Полацак // Беларусь. — 1920. — № 47(103). — 3 марта.
8. «Счастье мое...» Дневники Иосифа Голубева 1916 — 1923 гг. / предисл. Г. Буравкина; послесл. А. Клышки. — Минск : Энциклопедикс, 2002. — 448 с.
9. Калядзінскі, Л. У. Віцебск / Л. У. Калядзінскі, М. А. Ткачоў, В. А. Космач, В. А. Сяргеева // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. — Мінск : Беларуская энцыклапедыя, 1994. — Т. 2. — С. 309 — 317.

**І. П. Воднева (Полацк)**

# ПОЛАЦКІ КРАЯЗНАЎЦА ІВАН ПЯТРОВІЧ ДЭЙНІС

Гісторыя самага старажытнага горада Беларусі да сённяшняга часу захоўвае шмат таямніц і загадак. Заўсёды былі людзі, якія часамі чыталі старыя рукапісы і кнігі, даследавалі архіўныя дакументы і фотаздымкі, а потым самі выкладалі на паперы свае назіранні і высновы. Толькі час пакажа, чые працы назаўсёды застануцца ляжаць у шуфлядах пісьмовых сталоў, а чые стануць настольнымі кнігамі сотняў аматараў гісторыі і краязнаўства, дапамогуць навукоўцам рабіць адкрыцці.

Сёння многім, як даследчыкам са стажам, так і пачынаючым аматарам гісторыі полацкай даўніны, добра вядома імя Івана Пятровіча Дэйніса. Вывучаць гісторыю і цікавіцца мінулым сваёй Бацькаўшчыны ён пачаў яшчэ ў маладосці. Павага да ведаў у сям'і Дэйнісаў перадавалася з пакалення ў пакаленне. Дзед па лініі маці — Сакалоўскі Іван Лукіч — быў настаўнікам павятовага вучылішча. Бацька — Пётр Восіпавіч — скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут і Маскоўскі Археалагічны інстытут. Настаўніцай была і маці — Марыя Іванаўна. У Невелі, дзе сям'я жыла да 1905 года, яна працавала ў прыхадскім жаночым вучылішчы. У Полацку таксама выкладала спачатку ў прыходскім вучылішчы (да 1918 года), а потым у І-й Працоўнай школе разам з мужам, які працаваў там дырэктарам [14].

Заканчэнне Іванам Пятровічам у кастрычніку 1918 года Віцебскай мужчынскай гімназіі прыпала на рэвалюцыйны час. У краіне мяняліся парадкі. Неспакойная палітычная абстаноўка і акупацыя Полаччыны кайзераўскімі войскамі ўнеслі змены ў жыццё сям'і Дэйнісаў. У студзені 1919 года Іван Дэйніс паступіў на аднагадовыя педагагічныя курсы пры Віцебскім настаўніцкім інстытуце, але праз 2 месяцы з-за харчовых цяжкасцей пераведся на аналагічныя курсы ў Полацк. Пачаткам сапраўднай настаўніцкай дзейнасці стане праца ў І-й савецкай школе і педтэхнікуме. Амаль праз паўвека адзін з былых вучняў напіша: «Всю жизнь буду помнить <...> ваши интересные уроки и воскресные экскурсии весной в природу. Спасибо Вам, милый Иван Петрович, за учение. Мы, Ваши ученики, всегда Вас очень любили и уважали» [10].

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі шырока разгарнуўся краязнаўчы рух. У розных школах, як у горадзе, так і ў павеце, сталі стыхійна ўзнікаць краязнаўчыя гурткі, куды ў асноўным уваходзіла моладзь. Члены іх імкнуліся да даследніцкай працы, да вывучэння гісторыі свайго края. Адзін з такіх гурткоў, куды ўваходзіў і Іван Дэйніс, быў створаны з настаўнікаў і вучняў навучальных устаноў г. Полацка [13, с. 56]. Менавіта ён паклаў пачатак стварэння камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтваў, якая пачала працаваць з 23 чэрвеня 1920 года. Узначаліў камісію Пётр Восіпавіч Дэйніс, а яго сын стаў інструктарам і старшынёй пададдзела мастацтваў [2; 4]. Сябры камісіі вывучалі матэрыялы папярэдніх даследаванняў і анкеты, запоўненыя прадстаўнікамі пазашкольнага пададдзела ў 1919 годзе, збіралі і вывучалі рэшткі архіваў розных устаноў горада, працавалі над распрацоўкай дэталяў унутранай арганізацыі мясцовага музея [1].

Працуючы ў камісіі, Іван Пятровіч прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах. Гэта і абследаванне помнікаў архітэктуры, і вывучэнне архіваў полацкіх храмаў, і збор матэрыялаў для музея, і многае іншае [3]. Камісія актыўна працавала да канца 1924 года. У дакументах, якія захоўваюцца ў Полацкім занальным архіве, ёсць звесткі пра экскурсійную працу з навучэнцамі павятовых школ, якую праводзіў Іван Дэйніс. Разлічаныя на два дні, экскурсіі дазвалялі пазнаёміць маладых аматараў краязнаўства не толькі з помнікамі архітэктуры (Богаяўленская царква, Барыса-Глебскі манастыр, Сафійскі сабор, Мікалаеўскі сабор), але і з матэрыяламі, сабранымі членамі камісіі (музейныя фонды, прыродна-гістарычная калекцыя, гістарычныя прадметы) [5].

У камісіі Іван Пятровіч, або, як запісана ў дакументах, Янка Дэйніс, адпрацаваў да 1 лістапада 1924 года [12]. А з 1 студзеня 1925 года ён стаў сябрам і сакратаром праўлення краязнаўчага таварыства, якое працягнула справу, распачатую камісіяй. Асноўнай мэтай новай арганізацыі стала ўсебаковае вывучэнне Полацкай акругі ў гістарычных, эканамічных, геапалітычных і іншых адносінах, а таксама навуковая распрацоўка пытанняў, распаўсюджванне адпаведных звестак і абуджэнне інтарэсаў да задач краязнаўства ў грамадскім асяроддзі [6]. Вынікамі такой шматбаковай працы сталі выхад краязнаўчага зборніка «Полотчина», публікацыі ў мясцовым і рэспубліканскім друку, адкрыццё 26 снежня 1926 года Полацкага акруговага музея [15]. Праўда, з верасня 1925 года Іван Пятровіч адпраўляецца вучыцца па напраўленню аддзела народнай асветы на педфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Напраўленне было

атрымана не выпадкова. У характарыстыцы на імя Янкі Дэйніса было запісана: «За тэрмін сваёй працы ў школах зарэкамендаваў сябе здольным працаўніком як у школьнай, а таксама у внешкольнай праце» [12]. У Саюзе працаўнікоў асветы Іван Пятровіч знаходзіўся з 1920 года, працаваў у розных камісіях, на розных пасадах. Па сваёй ініцыятыве разам з настаўнікам Антонам Васільевічам Кузьмічовым арганізаваў у 1924 годзе вячэрнюю працоўную школу [7]. Узначаліўшы культкамісію саюза, Іван Дэйніс стварае і адкрывае ў Полацку ў 1925 годзе «Дом Асветы», які месціўся на вуліцы Сака і Ванцэці.

Актыўную жыццёвую пазіцыю І. П. Дэйніс займае і ў Мінску. Падчас вучобы ён абіраўся з ліку студэнтаў у Мінскі гарсавет, працаваў у культасветкамісіі, культармейцам па ліквідацыі непісьменства на Мінскім шклозаводзе, інструктарам лікбяза. Вярнуўшыся ў Полацк, Іван Дэйніс зноў працягвае выкладаць у навучальных установах горада. А з восені 1930 года сваім асноўным месцам працы абраў Полацкі лясны тэхнікум, дзе выкладаў хімію, глебазнаўства і фізіку. У гады Вялікай Айчыннай вайны І. Дэйніс з сям'ёй быў эвакуіраваны ў Чэлябінскую вобласць, дзе працягваў займацца настаўніцкай справай [10].

У пасляваенны Полацк Іван Пятровіч быў вызваны ў 1944 годзе тэлеграмай Глаўлесаховы. Яго накіравалі на пасаду старшага ляснічага Полацкага лясгаса з выкананнем работ па ўзнаўленню Полацкага ляснога тэхнікума. Амаль поўнасцю разбураны горад моцна ўразіў І. П. Дэйніса. Тэхнікуму пашанцавала. Пабудовы, дзе падчас вайны размяшчаліся тэхнічныя часці нямецкіх войскаў, захаваліся. 5 лістапада 1944 года Іван Пятровіч быў прызначаны выконваючым абавязкі дырэктара тэхнікума. Самы цяжкі перыяд узнаўлення і вырашэння як гаспадарчых пытанняў, так і навучальных лёг на плечы І. П. Дэйніса. Болей за год ён арганізоўваў рамонт памяшканняў вучэльні, выраб мэблі, вырашаў пытанні асвятлення пакояў, рассялення студэнтаў і настаўнікаў, забеспячэння падручнікамі і геадэзічнымі інструментамі [9]. У пачатку 1946 года Іван Пятровіч па сваёй ініцыятыве быў вызвалены ад пасады дырэктара і да выхада на заслужаны адпачынак (1960 год) працаваў у тэхнікуме настаўнікам хіміі, фізікі і глебазнаўства.

Гэтая навучальная ўстанова на ўсё жыццё засталася самай любімай для Івана Пятровіча. Ён быў частым госцем на святочных мерапрыемствах, прыходзіў на паседжанні са студэнтамі і настаўнікамі.



У 1960-я гады І. П. Дэйніс напісаў навуковае даследаванне «Полацкі лясны тэхнікум», дзе апісаў гісторыю дадзенай навучальнай установы з моманту яе заснавання (1921 год) і да 1967 года. Даніну тэхнікуму Іван Пятровіч аддаў і калі перадаў у бібліятэку ўстановы больш за 500 экзэмпляраў кніг [11]. Асобай павагай у наведвальнікаў карысталіся кнігі з паліцы пад назвай «Край наш родны, Полаччына». Гэта болей за 50 розных даведнікаў, манаграфій, нарысаў па гісторыі, публіцыстычных і мастацкіх кніг, прысвечаных старажытнаму гораду Полацку.

З выхадам на заслужаны адпачынак у Івана Пятровіча з'явілася шмат часу зноў заняцца сваёй любімай працай — даследаваннем гісторыі роднай Полаччыны. Ён пачынае чытаць і канспектаваць навуковыя працы, кнігі XIX – XX стст., даследаванні археалагічных экспедыцый, у многіх з якіх сам прымаў непасрэдны ўдзел. Яшчэ працуючы ў Краязнаўчым таварыстве, ён займаўся вывучэннем водарасцей Заходняй Дзвіны. Гэтую працу ён працягнуў падчас вучобы ў Мінску. Зрабіўшы з-пад мікраскопа болей за 300 замалёвак розных відаў водарасцей з замерамі і апісаннем, ён сабраў цудоўную калекцыю, якую перадаў у Полацкі краязнаўчы музей. З 1926 года музей размяшчаўся ў Сафійскім саборы, а ў пачатку 1930-х быў пераведзены ў памяшканне былой лютэранскай кірхі [8]. На жаль, гэтая цудоўная калекцыя, як і ўвесь музейны фонд, была разрабавана падчас Вялікай Айчыннай вайны.

Любоў да гісторыі і ведаў па геалогіі і геаграфіі дазволіла Івану Пятровічу зрабіць цікавае адкрыццё. У 1982 годзе ён на імя беларускага археолага Р. В. Штыхава дасылае ліст і рукапіс «Ніжні Замак у Полацку. Па слядах легенды аб яго будаўніцтве», дзе выказвае меркаванне наконт пабудовы аднаго з помнікаў археалогіі Полацка. У лісце было запісана: «В 1920-е гг. мне пришлось узнать от любителя местной истории Свидерского, жителя Нижнего замка, легенду о строительстве Полоцкого Нижнего замка при Иване Грозном. Эту легенду он почерпнул в работе одного польского историка в его книге из бывшей библиотеки Полоцкой иезуитской академии. Суть легенды сводится к тому, что строители замка сократили его площадь и сделали его более удобным для строительства замка и его обороны путем прорытия нового русла Полоты между теперешним Городищем и Нижним замком, а старое русло реки Полоты перекрыли двумя перемычками» [10]. Іванам Пятровічам на месцы быў даследаваны рэльеф, геалагічныя дадзеныя ўтварэння мясцовасці, характар русла

ракі, склад глебы, характар інжынерных збудаванняў. Р. В. Штыхаў у адказе адзначаў, што ўпершыню краязнаўца выказвае меркаванне пра тое, што «остров, где располагается древнейшее полоцкое городище, ранее был соединен с плато коренного берега Полоцка. Работа... представляет интерес как для специалистов в истории и археологии, так и для широкого круга читателей» [10].

Даследаванне гісторыі, пісьмовых крыніц, асабістыя ўспаміны дазволілі Івану Пятровічу напісаць болей за 10 цікавых рукапісаў, якія потым сталі часткамі двух вялікіх даследаванняў «Полацкая даўніна» ў 2-х частках і «Полацк у XX ст.». Для напісання прац, створаных у 1972—1977 гадах, аўтар заканспектаваў болей за 70 навуковых выданняў, пазнаёміўся з матэрыяламі 40 артыкулаў даследчыкаў XX ст., прагартаў падшыўкі шматлікіх перыядычных выданняў. У прадмове аўтар пісаў, што «мои воспоминания не претендуют на научный труд, это описания города и ряда событий, прошедших перед моими глазами, и описаны они так, как мне запомнились и как были мною осознаны». Але полацкія краязнаўцы, пачынаючы з 1990-х гадоў, пастаянна звярталіся да прац Івана Пятровіча, якія захоўваліся ў музеі-запаведніку і полацкім архіве. Цікавасць да іх існуе і сёння. Фонд Івана Пятровіча, створаны ў ЗДАП, складаецца з 30 спраў. Ён карыстаецца папулярнасцю як у навукоўцаў, так і студэнтаў Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Полацкі краязнаўца Міхась Баўтовіч працу І. П. Дэйніса «Полоцкая старина» пераклаў на беларускую мову і надрукаваў у 2007 годзе ў выдавецтве «Медисонт». Рукапіс «Полацк у XX ст.» рыхтуецца да друку полацкім выдаўцом Аляксандрам Суднікам.

Іван Пятровіч пакінуў пасля сябе вялікую спадчыну сваёй даследчай працы, значную частку якой ён перадаў Нацыянальнаму Полацкаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку (НПГКМЗ). Яшчэ пры жыцці Іван Пятровіч прынёс у краязнаўчы музей пяць шыкоўных альбомаў з 230 замалёўкамі старажытнага Полацка, фотарэпрадукцыямі і копіямі планаў горада розных часоў. Цэлых 15 гадоў ён, валодаючы цудоўнымі мастацкімі здольнасцямі, працаваў над гэтымі альбомамі. Дзякуючы ім мы сёння маем багаты краязнаўчы матэрыял па гісторыі Полацка XX ст. У 1980-я гады былі перададзены ўспаміны аб мінулым Полаччыны, узнагароды і дакументы родных. Апошнія матэрыялы папоўнілі нашы фонды ўжо пасля яго смерці ў 1985 годзе. У 2000 годзе навуковым супрацоўнікам НПГКМЗ І. А. Шупенька быў складзены каталог асабістага фонду І. П. Дэйніса, які ўключаў 283 прадметы асноўнага і 3 — навукова-дапаможнага



фондаў [16, с. 145]. Большая частка матэрыялаў пакуль захоўваецца ў фондах, але найбольш цікавыя і рэдкія экзэмпляры знаходзяцца ў экспазіцыях полацкіх музеяў (Краязнаўчы — 16 адз., Музей беларускага кнігадрукавання — 2 адз., Дзіцячы музей — 1 адз.).

Горад ацаніў заслугі Івана Пятровіча. За сваю шматгадовую і плённую дзейнасць у школьных установах горада, за вялікія дасягненні ў справе выхавання падрастаючага пакалення пастановай бюро гарадскога камітэта КПБ і выканкама гарсавета І. П. Дэйнісу ў 1967 годзе прысвоілі званне «Ганаровы грамадзянін горада Полацка».

Іван Пятровіч марыў, каб яго даследаванні прынеслі карысць тым, хто будзе займацца вывучэннем гісторыі Полацка. Менавіта так усё і адбылося.

*Літаратура і крыніцы*

1. Джумантаева, Т.А. Краязнаўчы музей Полацка (пач. XX ст.—1970-я гг. XX ст.) / Т.А. Джумантаева // Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі. — Полацк, 2000. — С. 5—15.
2. Занальны Дзяржаўны архіў у г. Полацку (ЗДАП). — Ф. 54. — Воп. 1. — Спр. 49.
3. ЗДАП. — Ф. 54. — Воп. 1. — Спр. 64.
4. ЗДАП. — Ф. 54. — Воп. 1. — Спр. 341.
5. ЗДАП. — Ф. 54. — Воп. 1. — Спр. 344.
6. ЗДАП. — Ф. 104. — Воп. 1. — Спр. 51.
7. ЗДАП. — Ф. 1164. — Воп. 1. — Спр. 1.
8. ЗДАП. — Ф. 2212. — Воп. 1. — Спр. 9.
9. ЗДАП. — Ф. 2212. — Воп. 1. — Спр. 17.
10. ЗДАП. — Ф. 2212. — Воп. 1. — Спр. 22
11. ЗДАП. — Ф. 2212. — Воп. 1. — Спр. 23.
12. ЗДАП. — Ф. 2212. — Воп. 1. — Спр. 24.
13. Краско, В.Д. Краязнаўчы рух на Полаччыне ў 20-я гг. XX ст. / В.Д. Краско // Матэрыялы навуковай гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі. — Полацк, 2001. — С. 56 — 59.
14. Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны запаведнік. — КП 4-1010/1. Аўтабіяграфія І. П. Дэйніса.
15. Чырвоная Полаччына. — 1926 — № 118. — 25 снежня.
16. Шупенька, І.А. Каталог асабістага архіва І. П. Дэйніса / І.А. Шупенка // Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі. — Полацк, 2002. — С. 145 — 151.

**Н. В. Жук (Полоцк)**

# СЕМЕН БРЕССКИЙ — ПЕДАГОГ, ХУДОЖНИК, ПЕРВЫЙ ЗАВЕДУЮЩИЙ КРАЕВЕДЧЕСКИМ МУЗЕЕМ В ПОЛОЦКЕ

К концу 1927 года в Белоруссии насчитывалось 16 государственных краеведческих музеев. Один из них находился в Полоцке. Однако до сих пор в литературе отсутствуют сведения о первом заведующем Полоцким окружным краеведческим музеем. Между тем, документы архива Витебской области позволяют восполнить сведения о личности и судьбе этого человека.

Бресский Семен Максимович родился в 1898 году в деревне Дуброво Поставской волости, Дисненского уезда, Виленской губернии в многодетной семье крестьянина [2].

К началу Первой мировой войны Семен получил образование в Дубровенской церковно-приходской школе, Семеновском двухклассном училище, в городском реальном училище в городе Паневежесе.

В 1915—1916 годах юноша стал работать учителем на станции Горки, затем в 1916 году перебрался в Великие Луки, а в 1917 — в Санкт-Петербург, где поначалу служил писарем в казначействе, но вскоре поступил в начальный класс при Академии художеств. Учиться рисовать, получать профессию художника пришлось в сложное время социальных перемен. Семен начал увлекаться анархической литературой, но в политические партии не вступал. На протяжении жизни оставался беспартийным, однако в своей биографии подчеркивает марксистские убеждения и указывает работу на стороне новой, советской власти. После осени 1918 года вернулся домой в Дуброво, однако родное местечко вскоре было занято немцами. Юноша перебирается в Вильно, где стал работать в подпольной советской милиции. В 1919 году он был даже арестован за распространение марксистской литературы в Вильно, сидел как политический преступник в тюрьме. Затем в Вильно Бресский поступает учиться на белорусские курсы. Среди лекторов были Максим Горецкий, Ян Станкевич, Вацлав Ластовский. Здесь же происходит личное знакомство с видными деятелями белорусского национального движения и культуры и будущим заведующим отделом образования в Полоцке Евгением Южиком (1896 — 03.01.1938).



После окончания курсов по ходатайству Белорусской Рады в 1919/20 учебном году Семен был направлен на работу заведующим отделом народного образования в Козьяны Полоцкого уезда. В 1920 году в сентябре поступил на работу в Дисну в качестве заведующего общим отделом информации отдела народного образования. Здесь познакомился с молодой коллегой Анной [2, л. 24], которая вместе с ним служила в Отделе образования.

В 1921/22 учебном году Бресский работал учителем в д. Федорово Каменской волости Лепельского уезда. Затем в 1922 году работал инспектором в Дриссе, в уездном отделе образования. Сюда же перевез Анну, на которой женился. Затем на короткое время семья переехала в Росицу, но почти сразу, в 1923 году, переезжает в Полоцк. Переезд семьи в Полоцк могла определить и активность Анны Бресской. В октябре 1922 года она принимала участие в Полоцкой уездной конференции РКП(б), была членом партии, писала стихи.

С 1923 по 1928 год Семен Бресский вместе с женой жил и работал в Полоцке, в 1926 году у них родился сын Максим. Жилье семье было предоставлено в бывшей квартире Диваловских на Верхнем замке № 3 рядом с Софийским собором. Имея неоконченное художественное образование (начальный класс при Академии художеств в Санкт-Петербурге), Семен Бресский начал работать в Первой советской школе — преподавать графику и ручной труд. Анна Бресская с 1924 года стала активным членом «Молодняка», полоцкого филиала белорусского объединения поэтов, начала публиковать свои стихотворения в местной газете «Полоцкий пахарь». Семен поддерживал литературную деятельность жены, активно принимал участие в творческих встречах поэтов. Семья Бресских быстро заняла центральные позиции в культурной жизни города, причем сам Семен Максимович, по характеристике его товарищей, «занимал центральное место среди полоцкой интеллигенции с правым демократическим уклоном» [2] (со слов Юраго Александра Андреевича (1901, г. Минск — после 1927)).

В круг общения семьи входили поэты и литераторы: Александр Вольный (1902 — 1937), Семен Хурсик, Анатолий Терпиловский, Петр Бровко. Также лучшими друзьями Бресских были заведующий Польской школы Станкевич Войцех Казимирович (1892, г. Двинск, дворянин — после 1927 г.), помощник начальника исправдома по политической части Мигай, историк Флавиан Вышелесский (1890 —

после 1927). Всех этих достаточно разных людей объединяли общие интересы — искусство, музыка, поэзия, история.

В Первой советской школе, где работал Семен Максимович [4, с. 382], проходили заседания историко-археологической секции краеведческого товарищества. В 1925 году краеведческим движением было охвачено 700 человек. Здесь же в школе располагался музейный фонд будущего городского музея, работа по созданию которого велась с 1919 года. 26 декабря 1925 года оформление музея было поручено Ивану Федоровичу Бобковичу (1899 — после 1938 г.) [1, л. 21], художнику, председателю комитета союза рабочего просвещения Полоцка. Однако вскоре И. Ф. Бобкович был переведен в Минск. Не исключено, что после его отъезда Евгений Южик, заведующий отделом образования, поручил художественное оформление экспозиции музея Семену Бресскому. Документально подтвержден факт, что с момента открытия музея 26 декабря 1926 года и по 1928 год Семен Максимович Бресский возглавлял Полоцкий окружной музей и был его первым заведующим [1, л. 91].

Вскоре после начала работы музея, весной 1926 года Семен Бресский познакомился с Александром Симаковым (1896 года, с. Отруб Тверской губ. — после 1928) [2, л. 8], которого он привел на одно из собраний полоцкого филиала «Молодняка», представив его поэтом. Стихи Симакова печатались в «Полоцком пахаре», публиковался он и в «Смоленских известиях». Красноармеец, участник боевых действий под Орлом и Дербентом, за храбрость был отмечен наградами, занимал должности комиссара, командира батальона, был комиссаром штаба Западного фронта. Однако в 1923 году Александр Симаков был обвинен в растрате казенных денег, после чего оказался в Полоцке без работы, проживая на средства жены. Бресский восхищался стихами Александра и как художник хотел написать его портрет. В трагической судьбе романтического боевого комиссара, защищавшего Советскую власть, но необоснованно обвиненного, Бресский видел «новую жертву революции и зверства большевиков». Семен Максимович чувствовал в судьбе Александра Симакова похожесть с судьбой Сергея Есенина, творчеством которого он сам восторгался. Трагическая гибель молодого советского поэта была общей темой обсуждения в кругу полоцких поэтов, так же, как и многочисленные аресты в пограничном Полоцке 1926 года.

Однако вскоре восторг от первых встреч с Симаковым у Семена Бресского прошел. Заведующий музеем стал избегать общения



с Симаковым и считать дружбу с ним небезопасной. Скандальное поведение, невыдержанность, публичные высказывания против власти, агрессивное поведение в пивных, хулиганские выходки на собраниях в рабоче-крестьянском клубе привели к тому, что к осени 1927 года вся полоцкая интеллигенция отвернулась от Александра Симакова. Он стал считаться крайне правым по своим политическим взглядам. Его личность приняла образ художника-«пьяницы», способного в нетрезвом виде на дебоши и другие выходки вплоть до антисоветских выкликов. У себя дома он распевал «Боже, царя храни», публично говорил, что «не любит цвет красный», творчество коллег характеризовал как «русская литература на советской каторге» [2, л. 49].

21 марта 1926 года в кругах полоцкой интеллигенции стала распространяться поэма неизвестного автора «Третья». Некоторые строки поэмы, как и ее название «Третья» имели явно политический характер и призывали к изменению существующего порядка в государстве путем третьей революции. Семен Бресский сам декламировал поэму, в кругу друзей называл себя ее автором.

ПОСВЯЩАЕТСЯ БРЕССКОМУ МАКСИМУ

Поэма «Третья»

*О, Русь! О, родина! Куда ты ковыляешь,*
*Чем ты больна?*
*Скажи скорей, скажи.*
*Иль в сердце битое и Ленин и Калявин*
*Всадили чересчур свои ножи?..*
*...*
*Ну разве можно так...*
*Девятую годину идти без вех по трупам и крови.*
*О, мать жестокая, вернись к родному сыну*
*Или к себе изгоя позови.*
*...*
*Зачем ты нас околдовала бредом*
*И в теплоте обманчивых лучей*
*В путь светом к немыслимым победам*
*И нас вела, и гнусных палачей...*
*...*

*И вот теперь — что только глаз не тронет —*
*Повсюду кладбище моих надежд и грез.*
*И некий Хам кощунствует на троне,*
*И где конец — вот в чем вопрос?*
*...*
*Далеко то... Любимую распяли,*
*Святую Русь втоптали в кровь и грязь.*
*Подумай, друг — не время ль, не пора ли*
*Остановить зарвавшуюся мразь...*

*Всему предел... Давай же, живописец,*
*Объявим бой... Поэт уже готов.*
*Меня зовут скелеты многих тысяч,*
*Меня зовут скелеты городов.*

*Меня зовут покинутые дети,*
*Гудят в набат Руси колокола.*
*И вижу я, в необъяснимом свете*
*Российский герб — двуглавого орла.*

*Мы победим — не может быть иначе,*
*Уже волнуется неприглашенный гость.*
*Народ притих... А это много значит,*
*Кипит в сердцах придавленная злость.*

*Мы не пойдем с наганами и плетью,*
*У нас девиз — свобода и любовь...*
*Она поет неутомимо, братья,*
*И с нею синяя, как небо, новь.*

*Полоцк, 11 марта 1926 года.*

Вскоре после распространения поэмы был арестован Александр Симаков.

После его ареста был произведен обыск на квартире Семена Бресского, во время которого был обнаружен рукописный экземпляр поэмы «Третья», написанный рукой Семена с посвящением «Максиму». Это и стало основной причиной ареста первого заведующего полоцким музеем. Следствие отрабатывало версию о принадлежности авторства поэмы Семену Бресскому. Однако Александр



Симаков дал показания, что он сам является автором поэмы, взяв тем самым основную вину предъявленного обвинения на себя.

14 февраля 1928 года вышло постановление Полоцкого окружного отдела ГПУ по Западному округу об аресте Семена Максимовича Бресского за распространение литературы с явно контрреволюционным содержанием. Следственно-арестантское дело № 532 по его обвинению в преступлении, предусмотренном статьей № 72 Уголовного кодекса, было рассмотрено 15 апреля 1928 года, в результате было вынесено решение об отстранении от должности заведующего Полоцким окружным музеем с 8 февраля 1928 года.

Дело было передано на рассмотрение Особого совещания при коллегии ОГПУ. Александр Симаков свою вину признал и был признан виновным в изготовлении и распространении контрреволюционной литературы. Ему был вынесен приговор — заключение под стражу в сибирский лагерь на три года.

Семен Бресский свою вину отрицал, но свидетельские показания были не в его пользу (одним из свидетелей по делу проходил Петр Устинович Бровко). За деятельное участие в распространении поэмы и переписывании ее с целью распространения ему было назначено наказание в виде ссылки и лишения права проживать в 12 населенных пунктах на 3 года.

Семен Бресский отбывал ссылку с 1928 года по 1930-й в Восточной Сибири в городе Керенске. Затем он проживал с 1930 по 1934 год в городе Новосибирске, работал преподавателем в первомайской школе и в клубе металлистов художником. По его словам, его жена Анна осталась жить в городе Полоцке и связь с ним порвала.

В ноябре 1934 года Семен Бресский получил документ об освобождении из ссылки и выехал на центральный рудник Тиссульского района, где стал работать в школе — преподавал чертежное дело до августа 1935 года. В 1936 году он переехал в город Семипалатинск Казахской АССР. 15 марта 1936 года Бресский был вновь арестован и обвинен в шпионаже. Дальнейшая его судьба неизвестна. Реабилитирован в 1989 году.

В 2000 году в Полоцке вышла небольшая книга стихотворений под названием «Настурции» Анны Бресской. Издание было подготовлено полоцким поэтом Алесем Аркушем. В книге собраны стихи, которые печатались под ее именем в Полоцкой газете в 1925—1928 годах. В книге женских стихотворений молодой поэтессы одно произведение выделяется особо [3, с. 19]:

